
Леў Казлоў, Анатоль Цітоў
БЕЛАРУСЬ НА СЯМІ РУБЯЖАХ
Тарапец
Зубцоў
Ржэва
Сычоўка
Гжатск
Вязьма
Віцебск
Сенна
Смаленск
Орша
Ельня
Красен
Горкі
Новаспаскае
Мсьціслаў
Рослаў
Магілеў
Чавусы
Крычаў
Чэрыкаў
Клімавічы
Прапойск
Бранск
Мглін
Сураж
Почап
Клінцы
Старадуб
Новазыбкаў
Гомель
Рэчыца
Ветка
Злынка
Трубчэўск
Погар
Брянскія лясы
Пясочня

Леў Казлоў, Анатоль Цітоў

# БЕЛАРУСЬ НА СЯМІ РУБЯЖАХ



Мінск
«Беларусь»
1993






ББк 63.3 (2Б)
К 14
УДК 947.6

Прадмова
А. А. ТРУСАВА

Казлоў Л. Р., Цітоў А. К.
К 14 Беларусь на сямі рубяжах / Прадм. А. М. Трусава.— Мн. Беларусь, 1993.— 71 с.: іл.
ISBN 5-338-00898-Х.

Упершыню ў Беларусі на аснове дакументальных і картаграфічных крыніц разглядаецца гісторыя фарміравання граніц Беларусі — ад старажытных часоў да сучаснасці.
Для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, пытаннямі яе суверэнітэту і незалежнасці.

ББК 63.3(2Б)

К $\frac{0503020903—038}{М\ 301\ (03)—93}$ БЗ 143—92

ISBN 5-338-00898-Х

## Прадмова

Доўгі час беларусам унушалі, што тая мяжа рэспублікі, якая існуе зараз, з'яўляецца яе этнічнай і гісторыка-культурнай «граніцай». Бальшавіцкія цэнзары, пачынаючы з 30-ых гадоў, пільна сачылі за гэтым, выключэнне рабілася толькі ў адносінах да Заходняй Беларусі, якая трапіла ў састаў Польскай дзяржавы.

Пасля ж 1945 года і з гэтага боку тагачасная мяжа БССР стала той жалезнай заслонай, праз якую не маглі прабіцца нашы гісторыкі і этнографы.

Увесь час сцвярджалася, што Смаленшчына — гэта «исконная русская земля», Смаленск — «ключ к сердцу российскому», а Віленшчына — «ядро литовского государства». У маскоўскіх навуковых манаграфіях можна было прачытаць, што Полацкая Сафія і Каложская царква належаць да «русской архитектуры XI—XII вв.», а Полацк — «это подлинно русский город». Не адставалі ад Масквы і Вільнюс з Варшавай. У Вільні, якая стала Вільнюсам толькі з кастрычніка 1939 года, выдаваліся гістарычныя карты, дзе абшары Летувы даходзілі амаль да Маладзечна, а ў Варшаве ўвесь час адчувалася настальгія па «Усходніх Крэсах».

Аднак у апошнія часы беларуская гістарычная навука пачала адраджацца пасля сталінскага тэрору і брэжнеўскай абецэдаршчыны. І першай ластаўкай у новай беларускай гістарычнай геаграфіі з'явілася ў 1991 годзе цікавая кніжка Яўгена Шыраева «Беларусь. Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах».

Беларуская грамадскасць змагла ўпершыню ўбачыць сабраныя разам розныя гістарычныя карты, на якіх добра бачны этнаграфічныя межы Беларусі ў пачатку XX ст.

Далёка не кожны ведае, як праводзіліся гэтыя межы на працягу тысячагадовай беларускай гісторыі. Якраз аб гэтым і расказвае кніжка вядомых нашых гісторыкаў Льва Казлова і Анатоля Цітова «Беларусь на сямі рубяжах».

Першы раздзел кнігі падае звесткі аб тэрміналогіі, уласцівай для гістарычнай геаграфіі, і сведчыць аб тым, што гісторыя не ведае такіх выпадкаў, каб палітычныя межы той ці іншай дзяржавы цалкам адпавядалі этнічнай тэрыторыі народа.

Аўтары ўмоўна падзяляюць усе беларускія межы на сем частак, падрабязна спыняюцца на абставінах іх узнікнення. Чытачу будзе цікава даведацца, напрыклад, што да 1939 года дзяржаўнай мяжы паміж Летувой і Беларуссю ніколі не было. Зараз яна праведзена цалкам адвольна, паводле сталінска-молатаўскага плана, без уліку інтарэсаў беларускага народа. А вось браслаўскі адрэзак былой Лівонскай граніцы склаўся яшчэ ў XIII ст. і існаваў без змен да канца XVIII ст. Самай старажытнай, аднак, з'яўляецца Пскоўская мяжа, што склалася паміж Полацкай дзяржавай і Пскоўскай зямлёй у XII ст. Аб яе ўстойлівасці сведчыць той факт, што нават у нядаўнія хрушчоўскія часы жыхары Веліжскага раёна мелі намер далучыцца да Беларусі.

Значную ролю ў гісторыі Беларусі заўжды адыгрывала Смаленшчына, асобныя часткі якой увесь час пераходзілі з рук у рукі: ад Маскоўскай дзяржавы да Вялікага княства Літоўскага, а пазней — да Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тое, што пасля 1667 года Расія захапіла амаль увесь Смаленскі край, аж да пачатку XX ст. ён у асноўным з'яўляўся этнічнай беларускай тэрыторыяй.

Гарады Северскай зямлі таксама шмат разоў пераходзілі ад аднаго гаспадара да другога, аднак і тут дзяржаўныя межы прайшлі не на карысць Беларусі. Даволі стабільнай з'яўляецца паўднёвая мяжа паміж Беларуссю і Украінай, якая ў асноўным сфарміравалася ў XVI ст. У раздзеле «Падляшскі рубеж» ідзе гаворка аб гістарычным лёсе беларускай Беласточчыны, якая апошні раз была ў саставе Беларусі з 1939 па 1941 год.

Значная частка кнігі прысвечана паступовай анексіі беларускіх тэрыторый на карысць Расійскай імперыі. Адбывалася гэта ў канцы XVIII ст. Абецэдарскі і яго вучні асвятлялі гэтыя падзеі як станоўчую для беларусаў з'яву, увесь час сцвярджалі аб так званым «воссоединении Белоруссии с Россией». Аднак нават Екацярына II не змагла да гэтага дадумацца, таму і лічыла, што беларускія землі былі нованабытымі для Расіі, аб чым сведчаць тагачасныя пісьмовыя крыніцы.

Цікава, што геаграфічныя назвы — Беларусь і Літва — яшчэ ў пачатку XX ст. рускія картографы адначасова змяшчалі на этнаграфічных беларускіх землях, бо з 1796 па 1802 г. існавала Беларуская губерня, утвораная з Полацкай і Магілёўскай губерняў. А з 1797 па 1801 год — Літоўская губерня, у якую ўвайшлі губерні Слонімская і Віленская.

Наступная частка кнігі Л. Казлова і А. Цітова апавядае аб Брэсцкім пагадненні 1918 года. Беларусаў там ніхто з боку бальшавікоў не прадстаўляў, аднак, дзелячы без нас нашу зямлю, прадстаўнік бальшавікоў М. Пакроўскі ўспомніў аб «рускіх» уездах, населеных беларусамі. Пры гэтым ён адзначыў, спасылаючыся на нямецкія звесткі, што ў Віленскім уездзе жыло 42 працэнты беларусаў. Цікава, куды ж яны падзеліся зараз, бо масавай дэпартацыі беларусаў з Віленшчыны гісторыя не ведае.

Значнае месца, упершыню ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі, аўтары адводзяць адносінам паміж РСФСР і Літвой, а таксама прэтэнзіям на Віленшчыну з боку Польшчы, калі генерал Жэлігоўскі выбіў летувісаў з Вільні і ўтварыў марыянетачную, штучную дзяржаву «Сярэдняя Літва». Неўзабаве апошняя далучылася да Польшчы.

Аналагічная сітуацыя, толькі ўжо паміж СССР і Літвою, адбылася ў 1939 годзе, калі зноў, без беларускай згоды, Вільню ў чыста палітычных мэтах аддалі Літве, каб неўзабаве захапіць гэтую прыбалтыйскую дзяржаву цалкам.

Без прадстаўнікоў Беларусі палякі і бальшавікі дзялілі наш край у 1921 годзе ў Рызе. Цікава, што ў час падпісання пагаднення польскі дыпламат Ян Добскі прызнаў незалежнасць Беларусі і Украіны, а

вось прадстаўнік «великого братского народа» Іофе наогул забыўся пра такую краіну, як Беларусь. Пэўна, невыпадкова юрыдычнае прызнанне Беларусі з боку Расіі адбылося толькі ў 1921 годзе.

Шмат цікавых матэрыялаў падаюць аўтары кнігі ў раздзеле аб узбуйненнях 1924 і 1926 гадоў, калі да Беларусі былі далучаны Віцебшчына, Магілёўшчына і Гомельшчына. Пры гэтым не аддалі Веліжскі, Невельскі і Себежскі паветы Віцебшчыны, дзе беларусаў было большасць сярод насельніцтва. Не аддалі Смаленшчыну. Дарэчы, Мсціслаўскі ўезд, які традыцыйна належаў Магілёўскай губерні, разарвалі напалам.

У апошнім раздзеле гаворка ідзе аб адміністрацыйным падзеле Беларусі падчас фашысцкай акупацыі (фашысты пакінулі ў саставе Беларусі толькі палову яе даваеннай тэрыторыі). А яшчэ аб тых зменах дзяржаўнай мяжы Беларусі, якія адбыліся ў 1945, 1950 і 1964 гадах.

На падставе шматлікіх гістарычных фактаў, падмацаваных спасылкамі на канкрэтныя архіўныя дакументы, чытач упершыню за апошняе стагоддзе атрымае аб'ектыўную інфармацыю аб зменах палітычных межаў Беларусі на працягу яе шматвекавой гісторыі.

**АЛЕГ ТРУСАЎ,**

намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук.

*Л. Р. КАЗЛОЎ,*
*гісторык*

# АД МЯЖЫ — ДА ГРАНІЦЫ

Слова «мяжа» зразумела кожнаму. Азначае яно тое, што знаходзіцца «паміж», «меж», як казалі ў старажытнасці. А служыла, ды і зараз служыць, каб аддзяліць адно ад другога. Межаваліся тыя, хто працаваў на зямлі і валодаў ёю. Межавацца было нескладана, калі абшары падзяляліся самой прыродай: ракою, ручаём, узгоркам, лесам. Шырока выкарыстоўваліся дрэвы. На іх ставілі, высякалі на кары («рубілі», адсюль — «рубеж») спецыяльныя знакі, напрыклад, крыжы. У такім выпадку ўжывалася назва «граніца», што паходзіла ад дзеяслова «граніць» — рабіць «грань» на дрэве. Таму некалі граніца ўспрымалася больш натуральна, у выглядзе дрэваў, памечаных рукой чалавека.

А што рабілі, калі прыходзілася праводзіць мяжу ў чыстым полі? Тады на рагу кожнага ўладання насыпалі «капец» (капалі), а каб відно было, што створана гэта людзьмі, а не прыродай, у аснову капца клалі камяні, кавалкі шкла, рэшткі ганчарных вырабаў. Ад капца да капца вялася межавая лінія, якая называлася «дукт». Дукт уяўляў сабою вузкую паласу неўзаранай зямлі. Там, дзе быў лес, дукты праводзіліся паміж гранёнымі дрэвамі, а на балоце — абазначалі калкамі альбо вехамі.

Першыя звесткі пра межавыя справы вядомы з XV стагоддзя. Пазней гэта знайшло сваё адлюстраванне ў Статуце Вялікага княства Літоўскага. Межавымі справамі, паводле Статуту, займаўся падкаморы, якога прызначаў сам вялікі князь. Падкамораму дапамагалі каморнікі і мернікі. У асабліва важных справах і выпадках на граніцы з'яўляліся каралеўскія і вялікакняжацкія камісары.

У той далёкі час, калі не было зямлі без гаспадара, межы былі рухомымі. Продаж зямлі часткамі, розныя дарэнні і пасагі, заклады, нарэшце, частыя войны мянялі граніцы, перасоўваючы іх у розныя бакі. І заўсёды зайздросныя вочы пазіралі на тое, што было там, за мяжой. Але ў той жа час ішоў працэс рэгулявання — на ўзгодненай юрыдычнай аснове — гэтых самых граніц. Вось што, напрыклад, адзначалася ў Статуце: «Коли бы шляхтич шляхтичу границу сказил або огнем выжог, або вырубал гвалтовне, або яко колвек выказил, або копцы раскопал, або межу сказил, або привлащаючи хто собе болш грунту, а границы и знаки по чужой земли гвалтовне и безправне почынил, а было бы то на него правом переведено, тогды таковой маеть заплатити ображоному двенадцать рублев грошей, а подкормному копу грошей, а за каждый копец скажоный три копы грошей»[1].

Старыя паданні сведчаць пра такі пагранічны звычай: каб мець надзейных сведкаў пры магчымых у будучым межавых спрэчках, з сумежных вёсак да свежага капца прыводзілі маладых хлапцоў, сцягвалі ім порткі і лупцавалі, каб добра і на ўсё жыццё запомнілі гэты знак[2]. Хутчэй за ўсё, такая «працэдура» нарадзілася ў нетрах першабытных абшчын, што асядалі на зямлі, пашыралі свае ўладанні і ўрэшце сутыкаліся з такімі ж суседзямі.

Даволі хутка, як толькі ўзніклі дзяржавы, звычайныя зямельныя межы пераўтварыліся ў палітычныя граніцы. Але тут да іх трэба было ўжо дастасоўваць іншыя меркі, фіксаваць на самым высокім палітычным узроўні. Нярэдка гэта прымала драматычны абарот, бо прэтэнзіі землеўладальнікаў адзін да аднаго гатовы былі выліцца ў міжнародны канфлікт. Таму з'явілася неабходнасць сумеснай распрацоўкі пагадненняў пра дзяржаўныя граніцы. Спачатку больш канкрэтна яны вызначаліся менавіта там, дзе землі ўжо здаўна былі асвоены. Пазней дайшла чарга і да незанятых тэрыторый, калі мяжа пралягала праз балоты і пушчы, перасякала вялікія азёры і рэкі.

Наяўнасць дзяржаўных граніц стала не толькі адным з неадменных атрыбутаў тэрыторыі, але і паказальнікам яе суверэнітэту. Паступова была распрацавана цэлая сістэма вызначэння гэтай умоўнай лініі, якая на аснове ўзаемаўзгадненняў павінна была дзяліць сумежныя краіны. Сюды можна аднесці найбольш важныя моманты: дэлімітацыю і дэмаркацыю граніц.

Дэлімітацыя — гэта першапачатковае, даволі агульнае акрэсленне мяжы, яе асноўных накірункаў. Часцей за ўсё апісанне такой граніцы рабілася і робіцца з дапамогай карты, без канкрэтызацыі на мясцовасці. Дэлімітацыйная карта з'яўляецца дакументам, які прыкладаецца да асноўнага дагавору паміж суседзямі-дзяржавамі. Далей яна служыць асновай для непасрэднага вызначэння ці правядзення граніцы — дэмаркацыі. Тут умоўная лінія набывае канкрэтны выгляд, бо вызначаецца спецыяльнымі пагранічнымі знакамі. Нанава складаецца карта, гэтым разам больш падрабязная і буйнамаштабная, узнікшай толькі што пагранічнай паласы. Дакументы, што адносяцца да межавальнага працэсу, набываюць моц закону пасля іх ратыфікацыі (зацвярджэння) вышэйшымі органамі ўлады зацікаўленых бакоў[3]. Такая працэдурная паслядоўнасць, пададзеная тут у значным скарачэнні, увайшла ў міжнародную практыку з канца XVII — пачатку XVIII стагоддзя. Менавіта ў гэты час у Еўропе з'явіліся карты новага тыпу, больш абгрунтаваныя і дакладныя.

Апошняе, што варта заўважыць у гэтым сэнсе, дык гэта тое, што ніколі, ні ў мінулым, ні зараз, не сустракаюцца палітычныя межы, якія б поўнасцю супадалі з межамі этнічнымі. Часцей за ўсё нейкая частка карэннага насельніцтва, бывае — даволі значная, знаходзіцца па другі бок граніцы. Калі б размежаванне зыходзіла з этнічных прыкмет, то справа, відаць, выглядала б не так складана. Але ў гісторыі граніц аж да апошняга часу дамініравалі палітычныя, нават ваенна-палітычныя матывы.

І ўсё ж паступовае засяленне той ці іншай тэрыторыі канкрэтным народам стала прыкметнай з'явай. Разам з тым, каб дакладна і паслядоўна паказаць працэс фарміравання тэрыторыі, на якой утваралася дзяржава, нам не раз давядзецца звяртацца да палітычнай гісторыі. І тут ніяк не абысціся без вядомых суб'ектаў — Вялікага княства Літоўскага, Польскага каралеўства, Рэчы Паспалітай, Маскоўскай Русі, Расіі ды іншых, блізкіх ці больш далёкіх суседзяў. Выкарыстаўшы іх вялікую дакументальна-дыпламатычную спадчыну, можна зрабіць спробу ўсё гэта спраецыраваць на сучасныя беларускія межы. Тады будзе відаць, наколькі яны адпавядаюць гістарычнай справядлівасці, ці супадаюць з тэрыторыяй рассялення беларусаў.

Дарэчы, пра этнічныя межы Беларусі напісана ўжо даволі многа[4]. Маецца і значная колькасць спецыяльных карт і атласаў, якія асвятляюць данае пытанне з розных пунктаў гледжання[5]. Але тэма нашай кнігі з'яўляецца самастойнай, хоць і блізкай па сваіх мэтах. Калі гаварыць яшчэ больш шырэй, на ўзроўні гістарычнай геаграфіі, то рэдка дзе ў аўтараў знойдзеш апісанне месца дзеяння, натуральнае асяроддзе падзей[6]. Таму і працэс фарміравання тэрыторыі будучай беларускай дзяржавы падаваўся неяк схематычна, у адрыве ад гэтага асяроддзя, губляўся сярод эканамічных і класавых праблем. Ды і шмат было нагрувашчана чужых і штучных поглядаў на яе гістарычны лёс.

## З СЯМІ БАКОЎ

Калі прыгледзецца да карты, то можна заўважыць першую асаблівасць ускраін Беларусі: яны абрамляюцца басейнамі буйных рэк і азёр. Дзвіна — на поўначы, тут жа часткова Вілія; Дняпро — на ўсходзе; Прыпяць — на поўдні; Буг і сярэдняе цячэнне Нёмана — на захадзе. Урэшце, звычайная справа, калі людзі паступова рассяляліся спачатку па берагах вялікіх рэк, потым па іх прытоках. І гэтыя рэкі з іх водападзеламі былі не толькі прыроднымі арыенцірамі, але і межамі. Сустрэча з суседзямі можа лічыцца пачаткам палітычнай гісторыі, гэта даволі каларытна адлюстравана ў розных летапісах. Шкада толькі, што ў іх цяжка сустрэць падрабязнасці, якія тычыліся тых першых пагранічных пагадненняў. Але яны абавязкова будуць улічаны ў апісанні гісторыі станаўлення нашых граніц.

А вось яшчэ адна асаблівасць, што звязана з месцапалажэннем Беларусі. Яе тэрыторыя знаходзіцца ў самым геаграфічным цэнтры Еўропы, на водападзеле Балтыйскага і Чорнага мораў. Такое размяшчэнне мела прамую сувязь з сутыкненнем эканамічных і палітычных інтарэсаў, у значнай ступені — вялікадзяржаўных. Спачатку ў старажытнасці галоўныя гістарычныя падзеі на нашай зямлі развіваліся па лініі Поўнач — Поўдзень, а пазней — Захад — Усход, «што не магло не абцяжарыць істотна гістарычны шлях нашага народа»[7]. Тут маецца на ўвазе ўсё тое, што звязана са шматлікімі ваеннымі падзеямі, якія часта прыводзілі да змяненняў граніц, а бывала, і да паяўлення новых «гаспадароў».

З такіх агульных разважанняў, ізноў жа, аналізуючы карты, можна дайсці, нарэшце, да самай важнай (у сэнсе гісторыі граніц) асаблівасці, якая звязана з нашымі гістарычнымі суседзямі. Дзякуючы менавіта суседзям мы атрымалі свае межы (канешне, не ўскладаючы ўсю «віну» за гэта толькі на іх). Дык вось, ведаючы гэтых самых суседзяў, паспрабуем вызначыць асобныя з імі межы, неяк умоўна іх класіфікаваць і даць адпаведныя назвы. У выніку мы атрымаем магчымасць паслядоўна і сістэмна разглядзець гісторыю кожнай часткі нашай агульнай граніцы, засяродзіць увагу на найбольш цікавых момантах яе станаўлення.

Калі параўнаць сучасны абрыс тэрыторыі рэспублікі з тымі межамі, якія адлюстраваны на гістарычных картах[8], то можна вызначыць сем характэрных адрэзкаў ці палос. Іх адпаведна і назвалі: Літоўскае сумежжа, Лівонская граніца, Пскоўская ці Пскоўска-Наўгародская мяжа, Смаленскі край, Северская старана, Палеская ўскраіна, Падляшскі рубеж. Яшчэ раз варта падкрэсліць, што гэтыя назвы ўмоўныя і найперш звязаны з тагачаснымі гістарычнымі абставінамі. Галоўнае, аднак, тое, што менавіта на гэтых сямі гранях нашай тэрыторыі і сфарміраваліся пазнейшыя дзяржаўныя межы Беларусі.

А зараз, акрэсліўшы межы ў гістарычнай прасторы, паглядзім на іх у гістарычным часе.

## ЛІТОЎСКАЕ СУМЕЖЖА

Калі ад Гародні па геаграфічнай шыраце 53°40 адмераць на захад роўна 90 км, дык мы апынёмся у тым самым месцы, дзе пяць стагоддзяў назад сыходзіліся тры дзяржаўныя мяжы: Прусіі (герцагства, васал Польшчы з 1466 г.), Мазовіі (Мазоўша, канчаткова ў Польскай Кароне з 1529 г.) і Падляшша (частка Вялікага княства Літоўскага прыкладна з XIV ст.). Гэта непадалёк ад мястэчка Райгарад (Райгруд, Польшча). Пра тое цікавае ў гісторыка-геаграфічным сэнсе месца ў нас яшчэ будзе гаворка пазней, у час падарожжа па Падляшскаму рубяжу. Мы ж павінны адправіцца на паўночны ўсход, у напрамку да сярэдняга цячэння Дзвіны.

Дзяржаўныя межы Беларусі на гэтым адрэзку, якому прысвоена назва «Літоўскае сумежжа», узніклі даволі позна — у XX ст. Да гэтага ж часу ў лепшым выпадку гаворка можа ісці толькі пра адміністрацыйна-тэрытарыяльныя (унутраныя) граніцы асобных земляў альбо паветаў, што ўваходзілі спачатку ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, потым — Расійскай імперыі. Сумежжа — хутчэй этнічная, чым палітычная граніца. Менавіта на ім на працягу даволі значнага перыяду, пачынаючы ад старажытнасці, назіралася этнічная дыфузія — узаемапранікненне спачатку балцкіх плямён на поўдзень, а потым славянскіх — на поўнач. На аснове гэтага працэсу ўтва-



Літоўскае сумежжа.

раўся так званы «балцкі субстрат»[9].

У больш канкрэтным выглядзе першую частку Літоўскага сумежжа можна атаясаміць з паўночнай мяжой Гародзенскага павета, які ўзнік у сярэдзіне XVI ст. як частка Троцкага ваяводства[10]. У сваю чаргу, павет гэты склаўся з дзесятка-другога больш старажытных па паходжанню валасцей, якія ўзніклі хутчэй за ўсё недзе ў XIII — XIV стст.

Пачынаючы ад памянутага вышэй сутыкнення трох дзяржаўных межаў каля Райгараду, адступіўшы крыху на поўнач уздоўж падляшска-прускай граніцы, можна дабрацца да невялікага участка гародзенска-прускай мяжы. Тут пагранічнымі з'яўляліся даўспудскія валасці (вёскі па рацэ Даўспуда), а самая заходняя з гэтых вёсак мела назву Крываволя. Не выключана, што гэта было адно з самых далёкіх паселішчаў крывічоў.

Ад Крываволі мяжа паварочвала паступова на ўсход, ідучы паміж Мерацкай і Пераломскай пушчамі, перасякала спачатку возера Ганьча, а потым дасягала возера Чорнага і ракі Марыха. Такім чынам, увесь басейн ракі Ганьча знаходзіўся ў Гародзенскім павеце. Крыху на поўнач ад упадзення ў Нёман мяжа пераходзіла на Нёманскае правабярэжжа і па ўскрайку пушчы, што належала Азёрскай валасці, дабіралася аж да паўночных рубяжоў Берштанскай пушчы. Валасць Берштбы ўваходзіла ў Гародзенскі павет, ахопліваючы амаль поўнасцю верхні басейн ракі Котра. Вытокі Котры пачыналіся ў невялічкім Канаўскім павеце Троцкага ваяводства, які існаваў у сярэдзіне XVI ст. У гэтым месцы дакладнасць гародзенскага адрэзка Літоўскага сумежжа абрываецца. Можна, праўда, прыплюсаваць паўночныя межы невялічкага Радунскага павета, апошняга, што знаходзіўся на гэтай лініі ў Троцкім ваяводстве[11]. І зараз дзяржаўная мяжа Беларусі праходзіць у гэтым месцы, акурат каля пачатку ракі Радунька, прытока Дзвіны, якая хутчэй за ўсё ў верхнім і сярэднім цячэнні з'яўлялася мяжой паміж Троцкім і Віленскім ваяводствамі недзе ў другой палове XIV ст.

На старых картах даволі ясна чытаюцца па той і другі бок ракі Дзітвы назвы (тапонімы) паселішчаў, якія няцяжка аднесці да этнічна-літоўскага ці этнічна-беларускага (крывіцкага) паходжання. Гэта значыць, што тая старажытная Гародзенская павятовая мяжа небеспадстаўна можа лічыцца дакладнай нават па сённяшнім часе. Праўда, варта было б унесці ўдакладненні, якія былі звязаны з адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі пераменамі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст., калі такімі справамі займаліся адпаведныя службы Расійскай імперыі. У той час, напрыклад, Сапоцкін трапіў у Аўгустоўскі павет Сувалкаўскай губерні. Але асноўны напрамак граніцы захаваецца, і да яго яшчэ неаднаразова будуць звяртацца спецыялісты з нагоды больш позніх дэлімітацый.

Намнога складаней выглядае паласа, што ідзе ў паўночна-ўсходнім накірунку ад Радуні да сярэдняга цячэння Віліі і ад азёр Дзісна і Дрысвяты. Можна арыентавацца на старыя межы ад поўначы Лідскага павета, што ўваходзіў здаўна ў Віленскае ваяводства[12]. Гэтак жа, як і на тагачасныя межы Рудамінскага, Геранёнскага, нарэшце, Ашмянскага паветаў, і нават Медніцкага і Віленскага. Нельга не заўважыць, што большасць названых паветаў трэба ўспрымаць — з-за іх памераў — як валасці, тым больш што ў другой палове XVI ст. на гэтым узмежку будуць фігураваць толькі чатыры паветы — Гародзенскі, Лідскі, Віленскі і Ашмянскі[13]. На тэрыторыі апошніх трох перамешаны назвы славянскага і балцкага паходжання (калі не ўлічваць больш пазнейшых перайменаванняў на карысць той ці іншай дзяржавы), з-за чаго і ўзнікне складанасць у правядзенні дакладнай мяжы. Новае губернскае дзяленне ў гэтым рэгіёне, паяўленне новых паветаў, у прыватнасці Свянцянскага, нічога асабліва не выявіць, бо межы яшчэ не раз тут будуць мяняцца.

Своеасаблівым апорным пунктам, на якім можна лічыць скончаным Літоўскае сумежжа, з'яўляецца возера Дрысвяты. Некалі з яго паўночнага берага пачыналася мяжа іншага тыпу.

# ЛІВОНСКАЯ ГРАНІЦА

Зразумела, што назва гэтай граніцы паходзіць ад назвы старажытнага племені ліваў і той краіны, што некалі тут існавала. Гэта былі суседзі Полаччыны, якая мела і пільнавала свае інтарэсы з боку Ніжняга Падзвіння. Тут знаходзілася галоўная водная артэрыя, гандлёвы шлях да Балтыкі. Але з пачаткам XIII ст., калі ў вусці Дзвіны абасналіся крыжакі, сітуацыя для Полацкай дзяржавы паграджальна змянілася. Былі страчаны крэпасці палачан, у тым ліку Кукенойс, Герцыке. Ордэн пашыраў свае ўладанні, Полацк адступіў[14]. На першым этапе гэтых падзей, якія закончыліся ў 1210 г. кампрамісным пагадненнем і гандлёвай умовай паміж Рыгай і Полацкам, канкрэтных фактаў аб



Лівонская граніца.

межах няма. Таму можна гіпатэтычна лічыць усё сказанае пачаткам фарміравання Лівонскай граніцы. Відаць, крыху пазней, калі памёр князь Усевалад, апошні ўладар Герцыке (пасля 1225 г.)[15], тут ужо панавалі крыжакі. Але іх экспансія яшчэ не скончылася.

З заснаваннем у 1237 г. Лівонскага ордэна падзеі на Ніжнім Падзвінні сталі яшчэ больш напружанымі. Полацк, з-за складаных палітычных абставін, учыненых яму Смаленскам, вымушаны быў у чарговы раз уступіць рыцарам свае вотчыны[16]. У так званай «Грамаце Гердзеня» (полацкага князя), датаванай 22 снежня 1264 г., пацвярджалася права лівонцаў на іх набыткі, ды яшчэ з Латыгольскай зямлёю[17]. І калі ў 1274 г. (па іншых звестках у 1275 г.) рыцары ўзвялі над Дзвіною магутную крэпасць Дынабург (Даўгаўпілс, Латвія), Лівонскі ордэн стаў непасрэдна межаваць з Браслаўшчынай. Магчыма, назва тутэйшай вёскі Мяжаны і абавязана якраз сваім паходжаннем граніцы. Праўда, пасля гэтага лівонцы вымушаны будуць тут прытрымлівацца статус-кво, але не з-за святасці дагавору, а па прычыне пагаршэння ўласнага ваеннага становішча, выкліканага барацьбою з наваградскім князем Трайдзенем[18].

У працэсе фарміравання Вялікага княства Літоўскага тэрыторыя Браслаўшчыны ў якасці павета будзе ўключана ў Віленскае ваяводства. Адміністрацыйна гэта адасобіць яе ад Полацкай зямлі. І на працягу даволі доўгага часу, пачынаючы з канца XIII і аж да канца XVIII ст., браслаўскі адрэзак Лівонскай мяжы будзе надзіва ўстойлівым. Такім жа статычным быў і другі адрэзак, які цягнуўся далей на паўночны ўсход — пасля перасячэння Дзвіны (крыху ніжэй Друі) і да сутыкнення з Пскоўскай мяжою. Гэтая старана засталася за Полацкам (з другой паловы XVI ст. за Полацкім ваяводствам).

У 1558 г. пачалася Лівонская вайна. Рускія войскі да 1577 г. акупіравалі большую частку ўладанняў Ордэна, дабраўшыся да правабярэжжа Дзвіны ў яе ніжнім цячэнні. Вясной 1562 г. рыцарская дзяржава перастала існаваць, а годам раней з яе выдзелілася Курляндскае герцагства (Курляндыя і Земігалія), якое стала васалам Польшчы. Герцагства ўтварылася з таго, што засталося на левым беразе Дзвіны. Такім чынам, Браслаўскі павет толькі памяняў намінальна суседа, не змяніўшы мяжу. Астатняя частка Лівоніі (апрача самай паўночнай часткі) пасля заканчэння вайны ў 1583 г. пад назвай «Інфлянты Польскія» перайшла пад уладу Рэчы Паспалітай. Полацкі адрэзак Лівонскай граніцы захаваў сваю канфігурацыю, толькі з дзяржаўнай пераўтварыўся ў звычайную ваяводскую.

У наступным стагоддзі, падчас «патопу» — вайны са Швецыяй, Рэч Паспалітая страціла на яе карысць большую, паўночную, частку сваіх Інфлянтаў. Згодна з Аліўскім трактатам, падпісаным у маі 1658 г., шведскія ўладанні ў гэтай частцы Прыбалтыкі дасягнулі нават ракі Дзвіны — ад вусця з Рыгай і ўверх да ўпадзення рэчкі Эўсты[19]. Здавалася б, гэта далекавата ад той старой Лівонскай граніцы (Браслаўшчына і Полаччына), бо Эўста (Айвіекстэ, Латвія) з яе прытокамі, уздоўж якой пралягла другая частка новай польска-шведскай мяжы, знаходзіцца на адлегласці 120 км. Але яна яшчэ будзе фігураваць у гісторыі нашых межаў, звязаных з падзеямі XVIII і часткова XIX ст. Яе нават можна было б назваць «Аліўская мяжа»...

Што датычыць Лівонскай граніцы, то пакуль мы пакінем за ёю ранейшую назву, хоць, магчыма, яна і выглядае неяк архаічна.

## ПСКОЎСКАЯ МЯЖА

Гэта мяжа стала фарміравацца ў часы станаўлення Полацкіх і Наўгародскіх земляў, якія ў IX—XII стст. набылі адносную самастойнасць і незалежнасць. Пры існаваўшай тады практыцы раздачы ўдзелаў наследнікам і ўлічваючы вялікую колькасць Рурыкавічаў-нашчадкаў, можна толькі ўявіць, наколькі неакрэсленымі і няўстойлівымі былі межы асобных княстваў і земляў. Да таго ж і бясконцыя феадальныя войны часта ўсё перакрэслівалі. Аднак трэба было памятаць, што пэўную ролю ў гэтым працэсе адыгралі крывічы, якія рассяліліся аж да Чудскага возера[20]. Таму можна дапусціць у якасці «протаграніцы» (недзе ў пачатку IX ст.) археалагічна-этнаграфічную мяжу паміж крывіцкімі плямёнамі і ільменскімі славянамі.

Немагчыма дакладна сцвярджаць, менавіта ў якіх адносінах знаходзіліся паміж сабою Полацкая і Пскоўская землі да пачатку датаваных падзей нашай гісторыі. Ці была ўжо нейкая мяжа, якая падзяляла іх? Верагоднае пацвярджэнне яе існавання — хіба што ўпамінанне князя Судзіслава, якому бацька, кіеўскі вялікі князь Уладзімір Святы, даў «у дзяржанне» Пскоў. Адбылося гэта пасля 1010 г. Княжыў тут Судзіслаў аж да 1036 г., пакуль не быў выгнаны Яраславам Уладзіміравічам[21]. А




Пскоўская мяжа.

побач, у Полацку, у гэты час княжыў Брачыслаў. І, пэўна ж, іх уладанні неяк размяжоўваліся.

Пскоўскай воласцю ўладалі, праўда часова, і смаленскія Расціславічы[22]. Але часцей, а з XII ст. і надоўга, яна ўваходзіла ў склад Наўгародскай зямлі. Пскоў жа захаваў шэраг аўтаномных правоў, а з 1348 г. і зусім стаў самастойным.

З дапамогай карты можна рэканструяваць Пскоўскую мяжу з полацкага боку. Пачатак яе вызначыць нескладана: ад Лівонскай граніцы трэба рухацца на ўсход аж да Смаленскай зямлі. Далей сюды ўкліньвалася Вялікалуцкая воласць, у якой адчувалася (у канцы XII—пачатку XIII стст.) «рука» Пскова[23]. У 1211 г. у Вялікіх Луках была пабудавана крэпасць, якая ахоўвала дальнія подступы да Пскова і Ноўгарада, які і валодаў ім фармальна аж да 1478 г., пакуль не адышоў да Масквы[24]. І апошні адрэзак мяжы. Ёю стала паўночная ўскраіна Усвяцкай воласці па левабярэжжы Дзвіны. Права Полацка на Усвяцкую воласць было пацверджана вялікім князем кіеўскім Яраславам Мудрым пасля 1021 г.[25] Цікава, што ў гэтых межах у Дзвіну ўпадае рака Мяжа (Межа), дзе сутыкаюцца граніцы трох сучасных абласцей Расіі: Пскоўскай, Цвярской і Смаленскай. Вось чаму памянутыя землі і ёсць канцавыя па Пскоўскай мяжы.

Беларуская граніца з Пскоўшчынай доўгі час была даволі стабільнай. Нават калі ў пачатку XVI ст. Маскоўскай дзяржаве ўдалося прыхапіць на некаторы час Себеж і Невель, то пасля іх вяртання ў склад Полацкага і Віцебскага ваяводстваў Рэчы Паспалітай (па «вечнаму міру» 1686 г.)[26] пагранічная лінія ізноў пралягла па старых рубяжах. Такой яна была ў канцы XVII і ў XVIII стст., такой засталася і пры адміністрацыйным падзеле ў складзе Расійскай імперыі ў XIX — пачатку XX ст. Дастакова параўнаць дзве старыя карты: «Perthees 1770» (Пертэеса)[27] і «Дзесяцівёрстку» (Шуберта)[28], выдадзеную ў 1865 г.

З Лівонскай стараны Пскоўская мяжа пачыналася ад самай вузкай часткі міжрэчча двух левых прытокаў ракі Вялікай — Сіняй і Ісы. Гэта прыкладна ў 40 км на паўночны захад ад Себежа. Далей уверх па Ісе, не дасягнуўшы яе вытока, яна заварочвала да ракі Вялікай, прабягала крыху па рэчышчы і зноў ішла на ўсход, пакінуўшы толькі самы пачатак гэтай ракі на пскоўскім баку. Граніца перасякала вытокі яшчэ некалькіх невялікіх рэчак у басейне Вялікай — Галоты, Рыбніцы, а пад канец — вярхоўе ракі Лаваць з прытокамі Удрайка і Вяліца. Нарэшце, абмінуўшы з поўдня Дзвінскае возера, граніца дасягала самой Дзвіны, прабегшы па якой уверх, заканчвалася перад упадзеннем у яе рэчкі Вялеса. Тут ужо пачыналася Смаленская зямля.

Нагадаем, што ў тыя часы (у XVII—XVIII стст.) Себеж, Ідрыца, Карсула, Сакольнікава ўваходзілі ў Полацкае ваяводства, а Невель, Усвяч і Вяліж — у Віцебскае.

## СМАЛЕНСКІ КРАЙ

Нам здаецца, што для характарыстыкі беларускай гістарычнай мяжы з усходняга боку найбольш адпавядаючым будзе слова «край». Бо яно азначае не толькі характэрную мясцовасць, але і ўскраіну. Галоўнае — пачатак і канец нечага[29]. У нашым выпадку гаворка пойдзе пра Смаленшчыну, зямлю смаленскіх крывічоў. Яна і зараз паласою аддзяляе Беларусь ад Расіі (у гістарычным сэнсе). Дык вось, калі зыходзіць з паняцця «пачатак і канец», то гэта будзе альбо самая ўсходняя ўскраіна Смаленскай зямлі, альбо — заходняя. Бо менавіта так, у выніку розных гістарычных падзей, змянялася ў гэтым рэгіёне дзяржаўная граніца.

Але спачатку трэба адзначыць хаця б абагульнена накірункі тых рубяжоў, пра якія неўзабаве пойдзе гаворка. Самыя усходнія знаходзяцца на вытоках рэк Дняпра, Масквы і Вугры, а блізкія — прыкладна на лініі Вяліж на Дзвіне — вярхоўе Іпуці да ўпадзення ў яе рэчкі Вараніца.

У старажытнасці як Полацк, так і Смаленск імкнуліся да самастойнасці. Найбольшы поспех у гэтым прыпадае на часы княжання ўнука Уладзіміра Манамаха князя Расціслава Мсціслававіча (1127—1159 гг.), які нават у канцы жыцця валодаў Кіеўскай зямлёй (1159—1167 гг.). Але яго нашчадкі давялі княства да распаду, а потым і да ўключэння яго ў склад Вялікага княства Літоўскага.

«Року 1375[31]... Дмитрий, великий князь московский, поднеслся, умыслил под Литвою Киевское, Витебское и Полоцкое князство войною доходити. Послал до Олгерда послы бучныя з голым мечем и огнем, обецуючы его в Вилню на велик день привитати з красным яйцем, а Литву всю огнем и мечем завоевати... Которого зухвалства и отповеди гордой Олгерд выслухавши и нарядившися з Кестутом, братом своим, и иншими княжати, задержал у себя тых послов, а сам зараз посполитое рушэние по всех панствах Великого князства Литовского и



Маскоўскі рубеж.

Русского росказал, абы стягалы под Витебско на день серодопосный великого посту... А потом, рушившися оттоль в справе порадной, як належит, послы московские отправил, давши им жагву або лионт запаленый, и сказал, абы отдали своему пану, мовячи, же Олгерд, не будучи так поважным, упережает его, выражаючы ему почесть и не зычачы так дальней дороги до Вилня, але сам в него в Москве буду на велик день и яйце ему красное перше, ниж тая жагва згорит, отдам...»[32].

Так рамантычна разгортваліся падзеі на ўсходніх рубяжах у часы Альгерда (1345—1377 гг.) і Дзмітрыя Іванавіча (1350—1389 гг.), які стане Данскім. У тыя гады Альгерд некалькі разоў хадзіў на Маскву, каб канчаткова ўстанавіць свой кантроль над раздробленай Руссю. Маскву, праўда, не ўзяў, хаця і мог. Не без падставы ён лічыўся вызваліцелем ад ардынскага іга, бо яшчэ ў 1363 г. нанёс цяжкае паражэнне татарам ля Сініх Вод. З таго часу Кіеўская, Падольская, Чарнігаўская і Валынская землі ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Але і Масква ўжо на нешта прэтэндуе, бо неўзабаве паб'е Мамая на Куліковым полі.

Пакуль што рускія землі больш паспяхова забірала Вільня, пакольні, як сведчыць ужо цытаваная «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», маскоўскі князь вымушаны быў прасіць у Альгерда міру. Вялікае княства Літоўскае правяло «границу з Москвою з едной стороны по Можайско, а з другой стороны по Угру, реку глубокую и болотную, которая почалася недалеко Дорогобужа в лесе за Смоленском миль 18, межи Калугою и Воротином, впадает в реку Оку»[33]. Вось так «пахрыстосаваўся» Альгерд Гедымінавіч з Дзмітрыем Іванавічам.

Актыўную ўсходнюю палітыку вёў і Вітаўт Вялікі (1392—1430 гг.). У яго часы па гэты бок мяжы апынуліся Тарапец, Белая, Вязьма, Мсціслаў, вярхоўе Волгі, а таксама — Акі, землі ўдзельных князёў Масальскіх, Адоеўскіх, Навасільскіх. Узяўшы ў 1405 г. Смаленск, Вітаўт надзяліў смалян многімі прывілеямі, чым і замацаваў свае пазіцыі. Пры гэтым, як сведчыць «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», «места і замак» паддаліся дабравольна, пасля чаго сюды засялілася многа людзей — «літвы і русі»[34]. Спробы Масквы перахапіць ініцыятыву не прыносілі асаблівых вынікаў, але і далейшая экспансія Літоўска-Беларускай дзяржавы таксама пачала даваць збоі, асабліва пасля паражэння пад Ворсклай ад Цімура ў 1399 г. Намецілася нават зблiжэнне з Масквою: сын Дзмітрыя Данскога — Васіль Дзмітравіч — стаў зяцем Вітаўта. Хаця яны і паспрабавалі высветліць адносіны з дапамогай зброі ў 1406—1408 гг., але скончылі спрэчку падпісаннем міру на рацэ Вугры і ў асноўным захавалі статус-кво.

Амаль да канца XV ст. граніца не мянялася. Тады яшчэ не праводзілася падрабязнае апісанне межаў, арыгінальныя тэксты аб перамір'ях дайшлі да нас у нязначнай колькасці. Пакажам агульную пагранічную лінію на ўсходзе на пачатку XVI ст. Ад Цвярской зямлі Смаленшчына аддзялялася галоўным чынам водападзелам Дзвіны і Волгі. Да Літоўска-беларускіх уладанняў адносіўся тады прыток Волгі — Жукопа, дзе мяжа ішла паблізу ад вусця; далей — вытокі Туды і Сіжкі. Ад іх яна пралягла да вусця Вазузы з Асухай і Гжаццю. Заварочваючы ад вярхоўяў Дзвіны на поўдзень, пакідаючы за сабой вярхоўі Дняпра, тая граніца па рацэ Гжаць дабіралася да Вугры і да Акі — зямель так званых Вярхоўскіх княстваў[35].

Адным з першых дакументаў, у якім упамінаюцца больш канкрэтныя арыенціры, з'яўляецца «Лист перемирия вечного» ад 31 жніўня 1449 г., які знаходзіцца ў шостай кнізе «Літоўскай метрыкі». У гэтым «Листе» вялікі князь маскоўскі Васіль Васільевіч[36] і кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір Ягайлавіч пацвярджаюць: «А в отчину брате и твою и моей брати молодшей во все твое великое княжение, ни в Смоленск, ни во все Смоленские места, что из давна к Смоленску потягло, ни в Любутеск, ни во Мценск, ни во вси в твои Украинные места, что из давна к тем местам потягло, не вступатися; а тобе Казимиру... не вступатися в мою отчину, ни во все мое Великое княжение, ни в мое брати молодшое отчины и во Ржеву с волостьми по озеро по Орлинце на полы, по озеро по Плотинцо, по Красный Борок, по Бараныо Речку, на верх Белейки, по Белейке на Поникл, на верх Сизки, с березы на мох, со мху на верх Осухи... А которые волости или оброки потягнули Новгородские к Литве из давна, и мне Князю Великому в то не вступатися по давному»[37].

Пераломным стаў год 1494, калі Вялікае княства Літоўскае ўжо назаўжды страціла землі ў вярхоўях Акі і Вязьмы. У гэты час на чале Маскоўскай Русі знаходзіўся Іван III Васільевіч, які канчаткова скінуў у 1480 г. татарскае іга і жалезнай рукой аб'ядноўваў усе навакольныя ўдзельныя тэрыторыі. Была абвешчана праграма «вяртання» ўсіх рурыкавіцкіх уладанняў. Гэта прывяло да шматлікіх ваенных сутыкненняў з Вялікім княствам Літоўскім, а потым і з Рэччу Паспалітай. Вядомы гісторык В. Ключэўскі адзначаў, што з дзевяноста гадоў (з 1492 па 1582 гг.) не менш чым сорак былі ваеннымі[38]. За некаторымі выключэннямі граніца няўхільна будзе пасоўвацца на захад...

Вільня, відаць, прадбачыла такі паварот гістарычнага лёсу і таму вырашыла парадніцца з маскоўскім дваром і паслала сватоў да дачкі Івана III — Алены. Але і гэты, ужо другі ў гісторыі адносін паміж Вільняй і Масквой, шлюбны кантракт не выратаваў зяця, вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра Казіміравіча, ад вайны. Уласна кажучы, вайна маскоўскай стараной і не была абвешчана: рабіліся налёты на пагранічныя землі. Тым часам ад Вялікага княства адпадаюць Ноўгарад Северскі, Чарнігаў і іншыя гарады Северскага краю (пра гэта яшчэ пойдзе гаворка). Нарэшце, беларуска-літоўскае войска рушыла на ўсход і 14 ліпеня 1500 г. сустрэлася з маскоўскім воінствам на рэчцы Вядрошы (Ведрашы), што непадалёк ад Дарагабужа. Літва прайграла бітву, у палон трапіла мноства людзей, а сярод іх і будучы славуты князь Канстанцін Астрожскі.

У дагаворнай грамаце аб перамір'і на шэсць гадоў, падпісанай 25 сакавіка 1503 г., пералічваліся тыя мясціны, што яшчэ ўдавалася ўтрымаць: «Нашых зямель Александра... волостей Мозыря, Буйча, Брягина, Речицы, Горволя, Стрешина, Чичерска, Пропойска, Могилева, города Мстиславля з волостьми, города Кричева з волостьми, города Смоленска, и волостей Рославля, Иванкова, Прудов, Белика, Ельни, Ратщина, Новоселья, Свидита, Жереспера, Поречья, Нежоды, Руды, Мушкович, Ветлицы, Шучья; города Витебска, волостей Бруса... Свята




Смаленскі край.

(Усвята), Озерища...»[39]. Перагаворы аб перамір'і вялі ў Маскве паслы: ваявода Пётр Мышкоўскі, маршалак Станіслаў Глябовіч і Войцех Яновіч. У выніку гэтай няўдалай вайны Вялікае княства Літоўскае страціла 19 гарадоў і 70 валасцей[40].

Аляксандр Казіміравіч спадзяваўся на адно — што яго цесць ужо ў даволі пажылым веку... І як толькі Іван III памёр (восень 1505 г.), у Маскву на пачатку наступнага года паехала дэлегацыя з прапановай «вечнага міру». Вялікае княства Літоўскае хацела вярнуць усе захопленыя маскалямі землі. Аднак новы гаспадар Масковіі — Васіль III Іванавіч — у сваю чаргу ўважліва прыглядаўся да стану здароўя свайго апанента. І нездарма: у жніўні 1506 г. слабы здароўем Аляксандр аддаў Богу душу. Якраз у той час, калі князь Міхайла Глінскі пад Клецкам учыніў разгром крымскім татарам, саюзнікам Масквы.

А ўвесну 1507 г. пачалося паўстанне Глінскага супраць новага вялікага князя літоўскага Жыгімонта Казіміравіча (Старога). Адразу ж маскоўскае войска рушыла на Літву ў накірунку Віцебска і Мсціслава, абмінаючы Смаленск. У гэты час Жыгімонт, які быў адначасова і каралём польскім, сабраўшы значныя сілы (упершыню польскі сойм згадзіўся на грашовыя выдаткі на «маскоўскую справу»), пачаў энергічна дзейнічаць у напрамку Орша—Смаленск і дайшоў да Дарагабужа і Белай, а потым — да Ржэва і Мажайска. Але скарыстаць з гэтага выгаду не ўдалося, таму летам 1508 г. у Маскву паехала «вялікае пасольства», каб дамовіцца аб чарговым «вечным міры». І дарма, бо ў 1512 г. зноў разгарнуліся ваенныя дзеянні. Гэта была ўжо чацвёртая вайна на маскоўска-літоўскім пагранічччы. Пасля некалькіх упартых намаганняў маскоўскаму войску ўдалося ўзяць (31 ліпеня 1514 г.) Смаленск, які ўжо больш за сто гадоў бесперапынна знаходзіўся ў Вялікім княстве Літоўскім. Цяпер прыкладна сто гадоў ён будзе знаходзіцца ў складзе Расійскай дзяржавы. Гэта была вялікая стратэгічная страта. Неўзабаве маскалямі былі заняты Дуброўна, Крычаў і Мсціслаў. Яны без перашкод фарсіравалі Дняпро і Друць і толькі каля Бярэзіны сустрэлі літоўска-беларускае войска на чале з гетманам К. Астрожскім, якому ўдалося яшчэ ў 1507 г. уцячы з палону. Для апошняга настаў час помсты за Ведраш. 8 верасня 1514 г. пад Оршай адбылася адна з найбольш значных бітваў. Маскоўскае войска было ўшчэнт разбіта. Але вярнуць Смаленск не ўдалося. На нейкі час ваенныя дзеянні прыпыніліся, а мірнай ініцыятывы ніхто не падаваў.

Пасля няўдалых спроб ударыць у паўночным напрамку — на Пскоў — Вялікае княства вымушана было накіраваць пасольства ў Маскву. Вядомы падарожнік Герберштэйн, які ў тым, 1517 годзе знаходзіўся ў Маскве, быў сведкам дыпламатычных спрэчак. Абодва бакі пачыналі «гульню» з непрымальных прапаноў. Васіль III патрабаваў вярнуць «отчины предков» — Кіеў, Полацк і Віцебск, а літоўска-беларуская старана хацела, каб вярнулі ёй Смаленск, Вязьму, Северскія землі і іншыя, раней страчаныя ўладанні. Дарэчы, Герберштэйн выконваў ролю пасрэдніка на гэтых бурных перагаворах, але так и не дамогся пагаднення. Можа, і гатовы былі абодва бакі чымсьці пашупіцца, але толькі не Смаленскам. Паслы вярнуліся ў Вільню, а ў 1518 г. маскоўскае войска з'явілася пад сценамі Полацка. У наступным годзе яны дэманстравалі ваенную сілу каля Крэва і Ашмян, але ўсё безвынікова. У рэшце рэшт мілітарная актыўнасць пайшла на спад. Пасля зацяглага абмену лістамі ўлетку 1520 г. літоўскае пасольства рушыла ў дарогу. Перагаворы зацягнуліся аж на некалькі гадоў. Зноў ніхто не выракаўся Смаленска, таму ўмова абмежавалася пяцігадовым перамір'ем і пацвярджэннем ранейшай (на 1508 г.) мяжы, апрача Смаленска. Так узнікла новая, «смаленская граніца». Яна пачыналася паміж Дзвіной і Касплей, далей ішла ў паўднёва-ўсходнім напрамку, уздоўж Дняпра, вусця Мярэі і аж да ракі Іпуць, дзе ізноў паўтарала ранейшую мяжу[41].

Цікава, як праходзіла працэдура зацвярджэння (ратыфікацыі) мірных дагавораў у тыя часы. Пасля агульных дэбатаў выпрацоўваўся тэкст перамірнай граматы, які адпавядаў інтарэсам абодвух бакоў. Нарэшце ён прадстаўляўся вялікаму князю літоўскаму і вялікаму князю маскоўскаму. У абодвух выпадках галава дзяржавы павінен быў прысягнуць, што будзе прытрымлівацца ўсіх пунктаў трактата,

прычым абавязкова гэта адбывалася ў прысутнасці паўнамоцных паслоў, якія пільна сачылі за ўсімі пунктамі тэксту дагавору.

Прысяга, якая зацвярджала перамірную грамату, адбывалася ў Маскве ў прысутнасці паслоў: полацкага ваяводы Пятра Станіслававіча, падскарбія Богуша Багацівінавіча і пісара Івашкі Гарнастая. У копіі граматы, датаванай 22 лютым 1523 г., што напісана ў Кракаве, азначаецца тэрмін трывання перамір'я — пяць гадоў, пачынаючы з Каляд. У тыя «перамірныя лета» абодва бакі, вялікія гаспадары, абяцаюць «не воевати, не занимати, в землю чужую не вступати».

У перамірнай грамаце дэталёва ўдакладняецца новая смаленская граніца: «А рубеж городу Рославлю со Мстиславлем промеж Словнева да Шибнева ко Гневкову, Доброю речкою на Водонос, а от Водоноса Доброю же речкою в Остр через Великий Бор в реку в Шумячу к Стрекуле, к рубежу Кричовскому; а от Кричова городу Рославлю рубеж река Шумяча, а Шумячею в речку Немелицу, а из Немелицы старым рубежом к Заборью в Ипуть реку, да на низ Ипутью к Хмелю... А рубеж Смоленску и волостем Смоленским з Дубровною и з Романовым, и з Горами, и со Мстиславлем от Днепра нижей города Смоленска, рекою Мереею вверх, межи Пречистое, Взруба и Зверович в Иваку, а из Иваки на Еленский рубеж да в Городню, а Городнею у Вехру в Чорный Мох, а из Вехры у Прудильны в Железницу, а Железницею под Дуденки у Вехру, а из Вехры в Лютую у Воду, а из Лютой Воды в Выпино, а из Выпино в Сож, а Сожом на низ в Березыню, а Березынею вверх сухом промежи сел Почина и Гладковичи, по холмом, а оттоле к Пулневу; а за рекою за Днепром рубеж Смоленску вниз по Днепру ниже Климентия святого пять верст...»[42].

Мы прывялі гэты дакумент так падрабязна таму, што большасць пералічаных у ім фрагментаў граніцы захавалася аж да нашых дзён, увайшоўшы часткова ў сучасную мяжу Беларусі са Смаленшчынай і Браншчынай. Тым больш што і далей, у XVI і XVII стст., да гэтай гранічнай лініі будуць вяртацца яшчэ не раз.

Смерць Васіля III (1533 г.) нібыта давала Вялікаму княству Літоўскаму магчымасць для рэваншу. Нягледзячы на пацвярджэнне граніц і працяг перамір'я, на літоўска-маскоўскіх рубяжах было неспакойна. Абедзве дзяржавы вялі цеганіну за прыгранічныя воласці, нярэдка ўступаючы ва ўзброеныя сутычкі. Гэта пастутова прывяло да вайны. Літоўскі бок патрабаваў вярнуцца да граніц мінулага стагоддзя. Ваенныя дзеянні 1534—1537 гг. вяліся на тэрыторыі, што належала Маскоўскай Русі. Была занята ўся Севершчына. Але калі апусцела казна, давесці гэтую вайну да лагічнага канца не было магчымасці. Ізноў было падпісана перамір'е на пяць гадоў, якое ў 1549 г. было працягнута на такі ж тэрмін. Вялікія спрэчкі падчас перагавораў выклікаў тытул маладога цара — Івана IV Васільевіча. У гэты тытул упершыню афіцыйна ўключалася назва «князь смаленскі», на што літоўскі бок катэгарычна не згаджаўся.

У 1558 г. Расія пачала вайну з Лівоніяй, каб завалодаць выхадам да Балтыкі. Лівонія («Інфлянты») прасіла апекі ў Вялікага княства Літоўскага. Тады пачалася так званая Полацкая вайна. У пачатку 1562 г. маскоўскія войскі спусташаюць мсціслаўскія землі, у наступным годзе дабраліся аж да Шклова, Дуброўны, Оршы і Віцебска. Літва адказала паходам на Смаленск. Нечакана, калі яшчэ ў Маскве знаходзіўся літоўскі пасол з прапановамі аб міры, вялікае маскоўскае войска рушыла на Полацк і аблажыла яго пад канец студзеня 1563 г., а 15 лютага горад быў узяты. І адразу Іван IV стаў зваць сябе «вялікім князем полацкім». Пасля Смаленска гэта была другая вялікая страта беларуска-літоўскай дзяржавы. Цар адкрыта абвяшчаў, што павінен вярнуць усю Манамахаву спадчыну — аж да Валыні і Падоліі — і нават Вільню. Праўда, гэты вялікадзяржаўны імпэт быў астуджаны жорсткім паражэннем ваяводы Шуйскага на рацэ Уле, недалёка ад Чашнікаў, 26 студзеня 1564 г. А крыху пазней — 2 ліпеня таго ж года — было разбіта войска князя Сярэбранага пад Оршай. У абодвух выпадках беларуска-літоўскае войска ўзначальваў Мікалай Рыжы Радзівіл. Вайна працягвалася з пераменным поспехам. Часамі згаджаліся на перамір'е. У 1575 г. дзеянні актывізаваліся. Новаабраны кароль Рэчы Паспалітай[43] Стэфан Баторый (Сцяпан Батура) у 1579 г. вярнуў Полацк, у 1580 — узяў Вялікія Лукі і аблажыў Пскоў. Цар вымушаны быў пайсці на мірныя перагаворы.

Паводле трактату, падпісанага ў Ям-Запольску (на поўдзень ад Пскова) 15 студзеня 1582 г., маскоўскай старане былі вернуты Вялікія Лукі, Холм, Завалочча, Апочка, Себеж, Востраў і іншыя воласці. У Вялікае княства забралі назад Вяліж з воласцю. Так аднавілі тут мяжу, якая існавала да 1514 г.[44]. У дадатак да гэтага Рэч Паспалітая заняла ўсе землі былога Лівонскага ордэна.

На пачатку XVII ст., у так званы «смутны час», Рэч Паспалітая вярнула частку некалі страчаных тэрыторый. У чэрвені 1611 г. кароль Жыгімонт Ваза пасля доўгай аблогі ўзяў Смаленск. І калі ў падмаскоўным сяле Дэўліна 3 студзеня 1619 г. падпісалі перамір'е на 14 гадоў, Смаленская зямля вярнулася на наш бок[45].

У 1632 г., калі яшчэ не закончыўся тэрмін перамір'я, маскоўскае войска на чале з ваяводам Міхайлам Шэіным стала пад Смаленскам. Цікава, што яшчэ ў 1609—1611 гг. ён гераічна абараняў гэты горад ад Жыгімонта Вазы. Але на гэты раз яму не пашанцавала: Смаленск не ўзяў, а сам вымушаны быў капітуляваць, калі сюды падаспелі жаўнеры караля Уладзіслава IV (15 лютага 1634 г.). За гэта ваявода быў пазбаўлены жыцця — так вырашыла баярская дума. Вайна 1632—1634 гг. закончылася падпісаннем мірнага дагавора 4 чэрвеня 1634 г. у сяле Семлева на рацэ Палянаўка (паміж Дарагабужам і Вязьмай). Палянаўскі мір захаваў за Рэччу Паспалітай Смаленск і іншыя мясцовасці, Расіі ж вярнулі толькі некаторыя прыгранічныя воласці на Севершчыне[46]. Дваццаць гадоў на тых межах было адносна спакойна.

1648 год. Хмяльніцкі разгортвае вызваленчую барацьбу на Украіне, агонь яе перакідваецца на Беларусь. З 1654 г., калі цар Аляксей Міхайлавіч узяў пад сваю «дзяржаўную руку» украінскія землі (а хутка ў Польшчу ўварваліся і шведы), само існаванне Рэчы Паспалітай стала пад пагрозай. Расійскімі войскамі быў узяты Смаленск, амаль усе беларускія землі, Вільня. І хаця з-за двурушніцкай пазіцыі Швецыі, якая пагражала Расіі, і было

заключана перамір'е ў 1656 г., ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі не прымусілі сябе доўга чакаць. На гэты раз стала цярпець паражэнні руская армія. 20 студзеня 1667 г. у сяле Андрусава, каля Смаленска, было падпісана перамір'е на 23,5 года. У складзе Расіі засталіся Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы, а таксама — Левабярэжная Украіна з Кіевам[47]. Апошняя кропка ў гэтай шматвяковай драме была пастаўлена ў маі 1686 г., калі ў Маскве быў падпісаны «вечны мір» — так званы «трактат Гжымультоўскага» (ад прозвішча польскага дыпламата Крыштофа Гжымультоўскага, які ўзначальваў пасольства Рэчы Паспалітай). Трактат канчаткова замацаваў існаваўшую на той момант граніцу паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай[48]. Гэта значыць, што сфарміравалася мяжа паміж Расіяй і Беларуссю ў тым выглядзе, што будзе заставацца аж да 1772 г., да першага падзелу Рэчы Паспалітай.

## СЕВЕРСКАЯ СТАРАНА

Калі геаграфічна абазначыць гэты пагранічны бок, то на сучаснай карце ён выглядае як сумежжа нашай рэспублікі (паўднёвы ўсход Магілёўскай вобласці і ўсходняя ўскраіна Гомельскай) з Бранскай (Расія) і Чарнігаўскай (Украіна) абласцямі. Калісьці, стагоддзяў гэтак семсот—васемсот, тут, у басейне ракі Дзясны, размяшчалася Чарнігава-Северскае княства, з якога і выдзелілася Северская зямля, як адзін з многіх старажытнарускіх удзелаў. Але драбленне працягвалася, і ў XII—XVI стст. тут узніклі яшчэ больш невялічкія княствы, якія атрымалі агульную назву «Северскія гарады» — Бранск, Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Пуціўль, Старадуб, Трубчэўск, Пачэп і інш.

Калі ж зазірнуць у перадгісторыю гэтых мясцін, то акажацца, што тут па суседству жылі два этнічна блізкія плямёны — радзімічы і вяцічы. Радзімічы размяшчаліся ў міжрэччы Дняпра і Дзясны, а далей на ўсход, па басейну Верхняй Акі — вяцічы. Парэчча Дзясны, Сулы і Сейма засялялі іншыя плямёны — севяране. Пазней радзімічы разам з іншымі плямёнамі створаць такое аб'яднанне, якое назавём мы этнагенезісам беларускай народнасці.

Першыя, яшчэ не зусім дакладныя звесткі пра далучэнне да беларуска-літоўскай дзяржавы, дакладней — да Навагародскага княства, няблізкіх Северскіх земель звязаны з летапіснымі імёнамі князёў Скірмунта і Рынгольта[49]. Падзеі, напрамую звязаныя з барацьбой супраць захопніцкіх набегаў татар. Больш дакладныя сведчанні прыпадаюць на сярэдзіну XIV ст. у сувязі з усходнімі паходамі вялікага князя літоўскага Альгерда, які бараніў жыхароў Севершчыны ад ардынцаў. Ва ўсіх большменш значных северскіх гарадах ён пасадзіў у якасці намеснікаў сваіх дзяцей: Дзмітрыя Карыбута — ў Бранску, Андрэя Вогунта — у Трубчэўску, Канстанціна Скіргайлу — у Чарнігаве[50]. Да дзяржавы, створанай Альгердам, былі далучаны на васальнай аснове нават яшчэ больш аддаленыя тэрыторыі на ўсходзе — Вярхоўскія княствы (у вярхоўях Акі). Калі ж пры Вітаўце была далучана Смаленская зямля, у Вялікае княства ўвайшоў практычна ўвесь Дняпроўскі басейн. Зараз нават цяжка ўявіць, наколькі далёка на ўсходзе знаходзіліся тыя беларуска-літоўскія рубяжы.

Прыкладна да самага пачатку XVI ст. ішло асваенне (у сацыяльным і этнічным сэнсе) усходніх тэрыторый. Апрача паселішчаў, якія існавалі тут здаўна, з'яўляліся новыя. Былі ўзведзены замкі ў Почапе, Радагошчы, Рыльску і ў Пуціўлі. Гарнізоны Вітаўта стаялі ў Гомелі і ў Любечы. Адміністрацыйна яны адносіліся па тым часе да Северскай зямлі[51].

Пасля смерці Вітаўта (1430 г.) усходняя мяжа — Северская старана — амаль 60 гадоў была нязменнай. Затое змяніўся характар суседа. Ад поўначы да поўдня цяпер даводзілася мець справу не з асобнымі рускімі княствамі, напрыклад Разанскім ці Цвярскім, а з адзіным княствам Маскоўскім.

На першы погляд, палітыка Казіміра Ягайлавіча (правіў 1440—1492 гг.) у адносінах Севершчыны дастаткова прадуманая. Сэнс яе быў у тым, што, па-першае, на самых далёкіх рубяжах — па рацэ Ака — былі размешчаны моцныя гарнізоны, па-другое, апрача вялікакняжацкіх намеснікаў у Чарнігаве, Пуціўлі, Радагошчы і Бранску, у астатніх гарадах пад патранатам самога Казіміра сяліліся звычайна феадалы, якія пазбягалі з Масквы: Іван Мажайскі — у Тарадубе, Гомелі і Бранску, патомкі Шамякі — у Ноўгарадзе-Северскім і Рыльску, князь Вярэйскі — у Любечы[52]. Разлічвалі на поўную лаяльнасць былых ворагаў і канкурэнтаў вялікага князя маскоўскага. Але верная Вільні заставалася толькі першая генерацыя эмігрантаў. Іх патомкі спакусіліся на абяцанні Масквы і адзін за адным сталі пераходзіць на яе бок. Гэты працэс прыспешылі дзве літоўска-маскоўскія вайны (1492—1493 і 1501—1503 гг.). У выніку няўдалага зыходу ваенных дзеянняў беларуска-літоўская дзяржава страціла даволі вялікія тэрыторыі на ўсходзе, асабліва ж — на Севершчыне.

У дагаворнай грамаце ад 25 сакавіка 1503 г. аб перамір'і, якая ўступала ў сілу з Благавешчання таго ж года, прыводзіцца спіс тых страт. Працытуем частку гэтага дакумента: «На тыи перемирныи лета в шесть лет не воевати, не зачепляти ни чем... тых ваших (г. зн. Вялікага княства Літоўскага, але ўжо адваёваных Маскоўскай дзяржавай. — Л.К.) городов, и волостей, и земель, которыи за вашими слугами, за князем Сем. Ив. за Стародубским, и за князем Васильем Ив. за Шемячом, и за князем Сем. Ив. за Бельским, и за Трубецким князми, и за Масальскими и за иными вашими слугами за князями, и за вашими наместники, и за волостели, и за вашими приказчики, за какими нибуди, города Чернигова з волостьми, города Стародуба з волостьми, города Путивля з волостьми, города Рыльска з волостьми, города Гомья Гомеля з волостьми, города Любеча з волостьми, города Почепа з волостьми, города Трубецка з волостьми, города Радогоща з волостьми, города Брянска з волостьми, да волостей Карачева, Хотимля, Поповы горы, Мглина Дрокова, и сел Уварович, Телешович, Терешич...»[53].

Крыху пазней, у 1508 г., па «вечнаму міру» Літоўскай дзяржаве быў вернуты Любеч, але гэта

Северская старана.

была слабая ўцеха. Скарыстаўшы смерць Васіля III (1533 г.) і аслабленне цэнтральнай улады ў Маскве з-за малалецтва Івана IV Васільевіча, Вільня ў наступным годзе распачала вайну за вяртанне Севершчыны. Яна ішла з пераменным поспехам, таму ў канцы 1536 г. прыступілі да мірных перагавораў. Адзіным сур'ёзным набыткам гэтай вайны для Вялікага княства Літоўскага стаў Гомель, вакол якога ў 1537 г. распачаліся дыпламатычныя дэба-ты[54].

На жаль, дакладнага апісання Северскай мяжы да нас не дайшло, а мажліва, і не было яго зусім. Удзельнікі перагавораў палічылі дастатковым вызначыць усяго толькі некалькі арыенціраў. Напрыклад, граніца паміж Гомелем і Старадубам павінна была пралягаць на аднолькавай адлегласці — у 50 вёрстаў ад аднаго і другога горада. На самай жа справе яна аказалася пасунутай больш на ўсход, да Старадуба. Пачынаючыся ад вытокаў Іпуці, што на беларуска-літоўскім баку, мяжа перасякала гэтую раку, потым крута паварочвала на захад, далей апускалася на поўдзень — уздоўж міжрэчча той жа Іпуці з Сожам, паміж Паповай Гарою і Чачэрскам, ізноў клінам ішла на ўсход, пад Старадуб, адтуль ужо апускалася ў накірунку міжрэчча Дняпра і Дзясны, да іх сутокаў, адзяляючы Любеч (літоўскі) ад Чарнігава (маскоўскага)[55].

Паспяховыя ваенныя дзеянні Рэчы Паспалітай у першым і другім дзесяцігоддзях XVII ст. супраць Расіі дазволілі на некаторы час вярнуць, разам са Смаленшчынай, асноўную частку Северскай зямлі[56]. Граніца пасунулася на ўсход, нават дасягнула Дзясны. Былі вернуты гарады Старадуб, Почэп, Трубчэўск, Ноўгарад-Северскі і Чарнігаў, але Бранск і Пуціўль былі за Расіяй.

Пралогам апошняга акта ў гісторыі той мяжы — Северскай стараны — стала вайна 1632—1634 гг. паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. Яна закончылася падпісаннем Палянаўскага мірнага дагавору[57]. Хаця тэрытарыяльныя змяненні аказаліся невялікімі — Расіі быў аддадзены Сярпейск з пагранічнымі землямі Севершчыны[58], — але гэта стане, нягледзячы на дваццацігадовае адноснае зацішша, гістарычным рубяжом, з якога пачнецца далейшае адступленне на захад, да сучасных рубяжоў.

Руска-польская вайна 1654—1667 гг. прывяла да вялікіх страт ва ўсходніх уладаннях Рэчы Паспалітай. Апрача тых зямель, што адышлі да Расіі (Смаленск і Левабярэжная Украіна), адпаведна Андрусоўскаму дагавору, да Расійскай дзяржавы далучалася ўсё Чарнігаўскае ваяводства і Старадубскі павет[59]. Так фактычна ўся Севершчына адпала ўжо назаўжды.

І пакуль тая Северская мяжа з дзяржаўнай яшчэ не пераўтварылася ва ўнутрыадміністрацыйную (падчас падзелаў Рэчы Паспалітай), паглядзім, як жа яна выглядала. Дэталёвае ўяўленне аб ёй дае ўжо цытаваная намі карта 1770 г. Караля Пертэеса[60].

На ўсход ад Хоцімска, у міжрэччы Бесядзі і Іпуці, сыходзіліся межы трох ваяводстваў: Мсціслаўскага, што належала Рэчы Паспалітай, і Смаленскага з Чарнігаўскім (Северскім), якія адышлі да Расіі. Па гэтаму ж міжрэччу ў паўднёва-заходнім накірунку і пайшла тая дзяржаўная граніца. Прыкладна у вытоках рэчкі Каўпыты (правы прыток Іпуці) яна рэзка паварочвала на ўсход, адсякаючы пры гэтым Папову Гару з аколіцамі на правабярэжжы Бесядзі. Вядома, на карысць Расіі. Ізноў перасекшы ніжэй па цячэнню Бесядзь у паўднёва-ўсходнім накірунку (ля ўпадзення правага прытока Калпыты), мяжа дасягала Іпуці ў ніжнім яе цячэнні (на ўсход ад Гомеля), затым перабіралася на яе левы бераг і, ідучы далей проста на поўдзень, перасякала невялікія рачулкі Няцечу і Харапуць. Неўзабаве пасля гэтага яна рабіла круты выгіб на ўсход — да рэчкі Цата (у Пертэеса — Цэта), а ўжо пасля гэтага вярталася на захад — да сутокаў Сожа і Дняпра. Каля Лоева, калі крыху падняцца ўверх па Дняпры, было месца сустрэчы Северскай мяжы з наступнай — Палескай.

## ПАЛЕСКАЯ ЎСКРАІНА

На першы погляд, гісторыя гэтай мяжы павінна вылучацца сваім шматвяковым спакойным існаваннем. Быццам бы ніхто на гэтай паласе, што складалася з непраходных багнаў і пушчаў, і не займаўся межавымі справамі. Увогуле цяжка прыпомніць, калі і хто ваяваў тут за тое, каб змяніць граніцы на сваю карысць. Але ўсё ж знайшлі свае праблемы этнічнага і палітычнага характару. Не




Палеская ўскраіна.

абышлося і без ваенных дзеянняў, якія паўплывалі на выгляд палескай мяжы, надаючы ёй то дзяржаўны, то ўнутрыадміністрацыйны характар. У цэлым жа сфарміраваная граніца паміж Украінай і Беларуссю выглядала сапраўды даволі статычна.

Палеская ўскраіна працягнулася з захаду на ўсход, ад Уладавы над Бугам да Лоева над Дняпром, пры гэтым амаль цалкам змясціўшыся ў Прыпяцкім басейне. Улічваючы складаныя прыродныя ўмовы, лёгка здагадацца, што доўгі час пытанні сапраўднай дэмаркацыі тут не ўзнікалі. На самых старых еўрапейскіх картах «Палессе» лакалізавалася, як па тым часе, вельмі дакладна[61].

Першыя звесткі аб межах у гэтым рэгіёне, зразумела, няўстойлівых і ледзь пазначаных, можна знайсці ў летапісах. Падзеі, што ўплывалі на іх вызначэнне, звязаны былі з гісторыяй Кіеўскай Русі, крыху пазней — Галіцкай Русі ці Галіцка-Валынскага княства і Літоўскай дзяржавы.

Але найбольш старажытныя сляды меж звязаны з рассяленнем на Палессі дрыгавічоў — на поўначы, драўлян — на поўдні і дулебаў-валынян — на паўднёвым захадзе[62]. Калі за ўмоўную вось прыняць раку Прыпяць, то адразу стане відаць, што дрыгавічы займалі больш паўднёвае правабярэжжа ва ўсходняй частцы Палесся (прыкладна ад міжрэчча Стары і Гарыні і ўбок Дняпра). Валыняне дасягнулі ў паўночным накірунку берагоў Ясельды і поўдня Белавежскай пушчы.

З паяўленнем у Палескай паласе гарадоў і першых дзяржаўных утварэнняў — княстваў — уяўленні аб мясцовых межах становяцца больш канкрэтнымі. Прынамсі, дакладна відаць, каму належаў у XI—XII стст., тым больш — у XIII, той ці іншы населены пункт з акругай (воласцю). Напрыклад, самымі паўднёвымі гарадамі Турава-Пінскага княства ў XII ст., калі яно дабілася незалежнасці ад Кіева, былі Небель, Дубровіца і Чартарыйск. Княству таксама належалі Брагін, Рэчыца і Мазыр[63]. Пазней, у XIII ст., з выдзяленнем самастойнага Галіцка-Валынскага княства, межы гэтай славянскай дзяржавы дасягнулі Нарава і Ясельды. Берасцейская зямля стала яе састаўной часткай[64]. Магчыма, ў гэты час тут пачала пераважаць валынская каланізацыя. Валыняне актыўна стварылі апорныя пункты, абарончыя ўмацаванні. Напрыклад, Камянецкая Белая вежа узведзена ў васьмідзесятыя гады XIII ст. Уладзімірам Васільевічам, унукам галіцкага князя Рамана Мсціславіча, які валодаў Кобрынам. Гэта зафіксавана ў Іпацьеўскім летапісе 1287 г. З пачаткам XIV ст. сюды ўсё часцей заглядвае Літва. Ёсць свед-чанні, што ў 1315 г. літоўскі князь Віцень далучыў Берасцейшчыну да сваёй дзяржавы[65]. А ў 1340 г. валынскія баяры запрасілі на княжацкі прастол Любарта Гедзімінавіча, бо мясцовая дынастыя вырадзілася. Так у заходняй частцы Палесся закончылася галіцка-валынская эпоха і пачалася эпоха літоўская.

У гэты час за падзеямі на тэрыторыі былога княства пільна сачыла Польскае каралеўства. Неўзабаве кароль Казімір Вялікі (1310—1370 гг.) у 1344 г. заняў Перамышль і Санак, а праз пяць гадоў — Галіч, Львоў, Уладзімір-Валынскі і Берасць. Але на дапамогу Любарту, які не змог стрымаць польскія войскі, прыйшлі яго старэйшыя браты — Кейстут і Альгерд Гедзімінавічы. У выніку дзвюх войн Казімір Вялікі вымушаны быў пакінуць большую частку сваіх зямель. У трактаце ад 1366 г. сцвярджалася, што «...королеви держати львовскую землю исполна, а нам (г. зн. Гедзімінавічам. — *Л.К.*) держати володимерскую, луцкую, белзскую, холмскую, берестейскую исполна ж...»[66]. Кароль адракаўся ад правоў на Берасць, Камянец, Дарагічын, Мельнік, Бельск і на Кобрын.

За часы панавання Гедзіміна і яго сыноў, у прыватнасці Альгерда, тэрыторыя сучаснай Беларусі і большая частка Украіны ўвайшлі ў Вялікае княства Літоўскае. Старыя дробныя княствы і землі з рурыкавіцкіх часоў паступова сталі знікаць з палітычнай карты. Паявіліся новыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі — ваяводствы і паветы. Берасцейшчына апынулася ў Троцкім ваяводстве, якім валодаў Кейстут. «У адзін Берасцейскі ўдзел аб'ядналіся тады і Палессе берасцейскае, і пінскае, і тураўскае, якое выцягнулася па Мухаўцу

далей па Прыпяці»[67]. А паўднёвая мяжа яго была агульнай з Валынскай зямлёю і Кіеўскім ваяводствам.

Але якім чынам паявілася мяжа паміж Берасцейшчынай і Валынню? Яна была даволі ўмоўнай да таго часу, пакуль Карона не завалодала Уладзімірскай і Холмскай зямлёю. Спачатку Казімір Вялікі дабіўся ў 1366 г. леннай залежнасці гэтых тэрыторый, хаця намінальна там уладарылі літоўскія князі[68]. У 1432 г. Жыгімонт Кейстутавіч, вялікі князь літоўскі, уступіў Холмскую зямлю Кароне. Гэта было зацверджана польскім каралём Уладыславам Ягайлам на з'ездзе ў Едльні[69]. Вось з таго моманту (добра відаць на гістарычных картах: у XV — першай палове XVI стст.)[70] і ўтварыўся той першы, бадай, самы старажытны і ўстойлівы (праіснаваў да нашага часу) адрэзак граніцы: ад Уладавы на Бугу і да сумежжа паміж Дывінам (зараз у Кобрынскім раёне) і вёскай Самары (зараз Ратненскі раён, Украіна). З гэтага месца накірунак граніцы мяняўся, зварочваючы больш на поўнач. У тыя стагоддзі ў Ратненскі павет (староства) уваходзіла сяло Павіцце з аколіцай (зараз у Кобрынскім раёне)[71]. Гэта была самая канцавая частка Холмскай зямлі, якая, трапіўшы ў Карону, адрэзала Берасцейскую зямлю ад Валыні. І тут жа, сутыкнуўшыся з межамі Кобрынскага і Пінскага паветаў (староствaў), дзяржаўная граніца паміж Польскім каралеўствам і Вялікім княствам Літоўскім зварочвала рэзка на паўднёвы захад, ідучы паміж Ратнам і Каменем Кашырскім, бо Валынь пакуль яшчэ заставалася падуладнай Вялікаму княству.

Непасрэдна перад падпісаннем Люблінскай уніі ў 1569 г., выкарыстаўшы драматычную сітуацыю Вялікага княства Літоўскага ў сувязі з Лівонскай вайной, Карона інкарпаравала ў свой склад Валынь, Кіеўскае ваяводства, Падляшша і іншыя землі. У Любліне заставалася толькі юрыдычна зацвердзіць гэтыя «набыткі»[72]. Такім чынам, Палеская паласа пераўтварылася ў адміністрацыйна-палітычную граніцу паміж Польскім каралеўствам і Вялікім княствам, паміж Украінай і Беларуссю.

Цяпер тая граніца прадоўжылася ад Холмскага ваяводства (сяло Павіцце) на ўсход, аддаўшы Кароне самы верх Прыпяці разам з дробнымі прытокамі. І толькі перад Нобелем (Ноблем) яна зварочвала на поўдзень, пакінуўшы вялікую палескую раку амаль поўнасцю ў Беларусі. Далей граніца перасякала некалькі правых прыпяцкіх прытокаў: Стыр, Гарынь са Случчу, Убарць, пакуль ізноў не дасягала Прыпяці ў ніжнім цячэнні. На нашым баку заставаліся Высоцк і Дубровіца, некалькі сёл, што зараз знаходзяцца на ўкраінскай тэрыторыі. Мяжа Берасцейшчыны з Валынню ў асноўным захоўвала ранейшы абрыс. Далей цягнулася сумежжа паміж Менскім і Кіеўскім ваяводствамі, якое ўздоўж рэчкі Славечны дасягала Прыпяці (ніжэй Нароўлі). Перасекшы Прыпяць, мяжа зварочвала на поўнач, пакінуўшы на баку Кароны Брагінскую воласць і частку Любечскай. Заканчвалася мяжа ля Лоева, які належаў Вялікаму княству.

## ПАДЛЯШСКІ РУБЕЖ

Ад басейна сярэдняга Буга, выцягнуўшыся паласою на поўнач, да Аўгустоўскіх пушчаў размяшчаўся некалі гістарычны рэгіён, што зваўся Падляшшам. У X—XIII стст. тут жылі яцвягі, але пад канец XIII ст. яны былі часткова вынішчаны, а часткова асіміляваны суседзямі — мазаўшанамі, дрыгавічамі і дулебамі-валынянамі. Былая яцвяжская зямля стала месцам актыўнай каланізацыі з усходу і захаду. Першымі, у якасці новых гаспадароў, з'явіліся ў тутэйшых мясцінах галіцка-валынскія князі, якія ўключылі большую частку іх у Берасцейскую зямлю. Але неўзабаве тэрыторыя з-за свайго непасрэднага суседства з ляхамі-мазаўшанамі набывае назву «Падляшша» («пад» — тое, што і «каля»). Яна ўдасканальваецца і структурна: у сувязі з ростам гарадоў з'яўляюцца Дарагіцкая, Мельніцкая і Бельская землі. Апрача Берасця, Камянца, Кобрына, Дарагічына-на-Бугу, Мельніка і Бельска (другая палова XII — пачатак XIII ст.), у Берасцейскае Падляшша ўваходзілі і так званыя «ўкраінныя» гарады: Вогіна, Жур і Візна[73].

Каля 1316 г. Падляшша, асноўную частку жыхароў якога ўжо складала праваслаўнае валынска-дрыгавіцкае насельніцтва, было далучана да Вялікага княства Літоўскага. Яно стала асобным удзельным валоданнем вялікага князя літоўскага Кейстута (каля 1337—1382 гг.)[74]. Блізкае суседства з Мазовіяй, натуральна, не магло не прывесці да шматлікіх тэрытарыяльных канфліктаў. Мазаўшане, хаця і запознена, але таксама ўключыліся ў асваенне былой яцвяжскай спадчыны.

Яшчэ ў 1358 г. размежаваннем Гараднянскага павета з уласнасцю мазавецкага князя Земавіта Тройдзенавіча (каля 1326—1381 гг.), якое правёў Кейстут, быў пакладзены пачатак афармленню граніцы на паўночна-ўсходняй ускраіне[75]. Але суседзі, нягледзячы на дамоўленасць, імкнуліся самі вырашаць зямельныя праблемы за кошт падляшскага фонду, захопліваючы кавалкі на поўдні — па Бугу, у Дарагіцкай зямлі. Гэтаму спрыяла грамадзянская вайна 1432—1439 гг. у Вялікім княстве Літоўскім. Адна з прычын вайны — спроба Свідрыгайлы пазбавіцца польскае апекі.

Абраны ў 1440 г. вялікім князем Казімір Ягайлавіч (1427—1492 гг.) аднавіў заходнія рубяжы, што існавалі на той час. А неўзабаве, як падае «Хроника Літоўская і Жамойцкая», «...Болеславови, княжати мазовецкому, взял Белско, Мелник и Дорогичин»[76].

Прынцыповую пазіцыю Казімір захоўваў да таго часу, пакуль яму не прапанавалі польскую карону. Адной з сустрэчных умоў, якія ён паставіў, было адмаўленне Польшчы ад тых зямель, якія набыла яна за кошт Вялікага княства. Будучаму каралю паабяцалі: як толькі ён сядзе на трон, дык сам і вырашыць гэтую справу. Таму з 1447 г., калі адбылася гэтая падзея, тэрытарыяльныя пытанні перайшлі ў сойм. Бясконцыя спрэчкі цягнуліся дзесяць гадоў. Нарэшце яго міласць кароль і вялікі князь выдаў прывілею, у якой урачыста заяўлялася: «...обецуем и шлюбуем иж в землях тых наших Великого князства земль, городов, мест... на имеем дати в честь никоего чюжеземца, але только тым родичам тых земель наших



Падляшскі рубеж.

предвечных Великого князства Литовского»[77]. Такую ж палітыку імкнуўся праводзіць і наступны вялікі князь, а потым і кароль Аляксандр Казіміравіч (1461—1506 гг.).

У 1492 г. у сваіх лістах да мазавецкіх княжат Аляксандр прапанаваў дэлегаваць у канфліктныя месцы паўнамоцныя камісіі, каб тыя вырашалі справы адразу на мяжы[78]. Так узнікла ідэя з межавымі камісарамі, якія змаглі б нарэшце прывесці ў парадак граніцу «подле обычая права старого, яко ухвалено на первых соймах». На такія лісты апаненты не адгукаліся. Але як толькі на Літву пайшла пагроза з усходу, калі тэрытарыяльныя прэтэнзіі стала выказваць Масква, актывізавалася жыццё і на заходніх рубяжах.

Надышоў час панавання апошніх Ягайлавічаў. Ураўнаважаны Жыгімонт Стары, кароль польскі і вялікі князь літоўскі з 1506 г., на працягу свайго доўгага жыцця (памёр у 1548 г.) уважліва выслухоўваў скаргі сваіх усходніх падданых і абяцаў прытрымліваца законаў. Цікава, што ў 1529 г., калі вырашаўся лёс Мазовіі, рада Вялікага княства Літоўскага, маючы на ўвазе дынастычныя сувязі згасшай лініі мазавецкіх князёў з Гедзімінавічамі[79], раіла ў адным з пасланняў да Жыгімонта Старога далучыць яе землі да Вялікага княства і тым самым зняць усе пагранічныя праблемы. Трапны дыпламатычны ход! Але ў той жа час у іншых пасланнях неаднаразова адзначаліся факты эканамічнага пранікнення польскіх феадалаў у Княства, галоўным чынам праз шлюбныя справы, дзяржаўствы і арэнды. Карыстаючыся своеасаблівым падвойным грамадзянствам, польскія «земяне» наогул выходзілі з-пад усялякай залежнасці ад дзяржавы, уяўлялі сабой нейкую касмапалітычную «пятую калону». «Бо кгды потреба якая укажеть у Великом князстве, они едуть до Коруны, кгды в Коруне, они за ся до Великого князства»[80]. І вось ужо нярэдкім робіцца з'яўленне каронных адміністрацыі ў пагранічных паветах — Бранскім, Дарагіцкім і Мельніцкім. А незадаволеныя беларускія і літоўскія «княжата, панята і шляхта» вымушаны адбываць у далёкае і дарагое падарожжа — у Кракаў на каралеўскі суд.

«Не помножати коруны князством, а ни тех короною князство» — такім быў прынцып Жыгімонта Старога. Але, відаць, вельмі ж дапякалі яго пагранічныя скаргі, бо, аддаючы фармальна каралеўскую карону і вялікакняжацкую мітру свайму сыну Жыгімонту Аўгусту (1520—1572 гг.), якому споўнілася ўсяго дзевяць гадоў, аўгусцейшы бацька юрыдычна адгарадзіўся ад дакучлівых чалабітчыкаў. Класічным абяцальнікам' ледзь не стаў і Жыгімонт Жыгімонтавіч, апошні з роду Ягайлавічаў. Але чым бліжэй насоўвалася рэальнасць новай уніі, тым больш адчайныя крыкі аб недатыкальнасці і вечнасці меж несліся з беларуска-літоўскага боку. Пасля некалькіх няўдалых спроб стварыць пагранічныя камісіі паны рады Вялікага княства ўнеслі прапанову назначыць камісарамі тых «земян», якія не мелі ніякай уласнасці пры граніцы і былі нібыта нейтральнымі. У 1536 г. адбылася намінацыя камісараў для разграпічэння Люблінскага ваяводства і Мазоўшы з паветамі Вялікага княства Літоўскага[81]. Пра гэта згадвае Літоўская метрыка дакладна, але сціпла, бо на граніцу ніхто не паехаў. І толькі праз год нанава намінаваныя камісары рушылі на справу...

Тое месца, дзе пачынаўся Падляшскі рубеж і сыходзіліся тры дзяржаўныя мяжы, знаходзілася прыкладна ў сярэдзіне трохкутніка, утворанага прускім сялом Просткі (Просткен), польскім — Багушы і «літоўскім» (беларускім) — Тачылава. Тут, на беразе невялікай рачулкі Лекі (Элкі), узвышаўся тады вялікі трохбаковы капец з мураванай калумнай, на якой былі прымацаваны тарчы (шчыты) з гербамі — Пагоня, прускі Чорны арол і польскі Белы арол[82]. Ад гэтага капца, які з-за сваёй формы і згодна з тагачаснай традыцыяй называўся «трыангулярытус» (адсюль — трыангуляцыя), жнівеньскім днём 1546 г. і пачаўся «за росказаньем его милости великого князя Жигимонта Августа... попис границ и шкод межи великого князства Литовского и Коруны Польское»[83].

У падарожжа па Падляшскаму рубяжу выехалі дзве камісіі. У першую былі пакліканы: ад Вялікага княства — Мікалай Андрушэвіч, канюшы літоўскі (асоба, адказная за вялікакняжацкіх коней) і Станіслаў Камароўскі — каралеўскі натарыус; ад Кароны — Давід Панятоўскі, канонік (член кафедральнай капітулы, або калегіі пры касцёле) гнезненскі і пазнанскі, і Лаўрэнці Пшыбароўскі (назва пасады адсутнічае). У другой камісіі літоўска-беларускі бок прадстаўлялі: Васіль Тышкевіч, вялікакняжацкі маршалак (пасада, звязаная з доглядам двара і адказнасцю за побыт вялікага князя), Альберт Нарбут (паводле іншых крыніц — Васіль Ленартовіч) — каралеўскі пісар; польскі бок — канонік варшаўскі Матэвуш Варгаўскі (Варгант) і Мацей Гурэцкі, каралеўскі сакратар[84].




Заходняя граніца ВКЛ.

Першая з гэтых камісій адправілася ўздоўж Падляшскага рубяжа, каб дабрацца да Парчава на рэчцы Півоніі. Адсюль у гэты ж час граніцу, але ўжо Холмшчыны (належала Польшчы, з Берасцейшчынай), даследавала другая камісія. Камісары з першай камісіі рушылі па абодвух берагах ракі Лекі да ўпадзення яе ў Бобр (Бебжу) каля Ганязі (Гонёнз). Далей па Бабру да яго сутокаў з ракою Нараў, што непадалёк ад мястэчка Візна, потым уверх па Нараву да Гаштольдава моста. Дарога вяла з Ганязі і адсюль зварочвала на поўдзень — уздоўж рачулкі Трасціны да сумежных сёлаў Куляшы, Старыя Уноры. Гэта былі населеныя пункты, якія належалі Вялікаму княству. А Замбраў, размешчаны крыху на захад, быў ужо польскім[85].

Калі мяжа праходзіла па полі ці праз луг альбо лес, то абодва бакі вельмі часта скардзіліся на розныя замеры і захопы, знішчэнне ці перанос межавых знакаў. Нічога дзіўнага, бо ў той феадальны час у аснове пагранічных канфліктаў хаваўся звычайны землеўласніцкі інтарэс. Таму менавіта на такіх межавых адрэзках камісія і адзначала «спрэчны абвод». Нярэдка розніца ў паказаннях мясцовых сведкаў дасягала некалькіх міль (1 міля — 7,798 км). І такія выпадкі ў апісаннях граніц, зробленых абедзвюма камісіямі, здараліся часта.

Далей камісары выехалі на гасцінец Ломжа-Цехановец, які праходзіў праз сяло Расахаты, падзяляючы яго на мазавецкі і падляшскі бакі. Наогул, на тым старым пагранiччы шмат назваў, якія маюць аж да гэтае пары гісторыка-геаграфічнае тлумачэнне: «мазавецкі» ці «падляшскі». Калі граніца пасоўвалася на ўсход, то на новым пагранiччы нараджалася тлумачальнае дапаўненне — «літоўскі». Нярэдка такі прыём ўжываўся і ў выпадку аднолькавых назваў: Мінск—Мазавецкі, Янаў—Палескі.

Ад Расахатаў і суседняй вёскі Дуброва камісія перабралася на другі гасцінец — з Высокага—Мазавецкага да літоўскага Цеханоўца. Неўзабаве паказаўся Нурэц — водны рубеж аж да самага Буга. Менавіта ён падзяляў з даўніх часоў абедзве дзяржавы. Дарагічынскі (на Бугу) падстароста Андрэй Фалькові заявіў, што раней граніца ішла ад вусця Ліўца і аж да самых яго вытокаў. Праўда, на той момант землі па ніжнім цячэнні Ліўца ўжо знаходзіліся пад уладай Кароны, а мяжа праходзіла паміж мястэчкамі Сточак (польскае) і Угошча (літоўскае) прыкладна ўздоўж мерыдыянаў 22° у напрамку да Ліва і Вуграва (Венгруў). Паміж імі і цягнуўся той самы водны рубеж аж да вытокаў Ліўца. Адсюль граніца ішла далей на поўдзень, мінаючы на літоўска-беларускім баку Міжрэчча-Падляшскае, Астраўкі, туды, дзе пачыналася рэчка Півонія. Вось тут, зусім блізка, знаходзіўся Парчаў, таму «ў дзень трэцяй нядзелі месяца жніўня року Божага Нараджэння 1546» камісія палічыла сваю работу скончанай[86].

Ужо ў сярэдзіне XVI ст. насельніцтва Падляшша значна папоўнілася выхадцамі з Мазовіі ці іншых польскіх зямель[87]. Паланізацыю краю давяршыла Люблінская унія 1569 г., адной з умоў якой стала далучэнне да Кароны большай часткі падляшскіх тэрыторый — зямель Дарагіцкай, Мельніцкай і Бельскай[88]. У Вялікім княстве Літоўскім застаўся толькі Берасцейскі павет, да якога, як ужо адзначалася раней, далучылі абшары Палесся (былое Турава-Пінскае княства) і ўтварылі ваяводства. Праўда, калі параўнаць тыя межы з сённяшнімі граніцамі, то тое-сёе засталося і ў Гародзенскім павеце (у складзе Троцкага ваяводства). Мяжа, як і раней, пачыналася ад Прусіі, але ішла ўжо з Аўгустова амаль проста на поўдзень, пакідаючы на баку Вялікага княства такія гарады і мястэчкі, як Даўспуда, Супрасль, Васількаў, Гарадок, Заблудаў[89]. На невялічкім адрэзку, непадалёк ад польскага мястэчка Нараў, межавалася тады з Каронай Навагародскае ваяводства.

Мяжа Берасцейскага ваяводства, з ужо польскім Падляшскім ваяводствам, пачыналася ад таго ж Нарава. Уся Белавежская пушча знаходзілася ў той час на гэтай, берасцейскай старане. Далей межаваліся Кляшчэлі (польскія) і Мілейчыцы (літоўскія). Граніца перасякала Буг, пакідаючы ў Кароне Няміраў, а ў Княстве — Янаў-Падляшскі, і дасягала ракі Кшна. Тут знаходзіліся самыя заходнія населеныя пункты тагачаснага Вялікага княства Літоўскага — вёскі Вязаўка і Астравок[90]. А сённяшні Мендзыжэч-Падляшскі, некалі Межырэчча, быў найбольш значным горадам на заходняй мяжы. Далей, адступаючы на ўсход, тая мяжа злівалася з вядомай нам старажытнай граніцай, якая пачыналася ад Уладавы.

Вось так выглядаў Падляшскі рубеж у больш познія часы, у другой палове XVI і да апошняй чвэрці XVIII ст., да падзелаў Рэчы Паспалітай.

## ПА СЦЭНАРЫЮ ІМПЕРАТРЫЦЫ

У 1762 г., калі каранавалася Кацярына II, у Маскву з нагоды гэтае ўрачыстасці прыехаў беларускі праваслаўны епіскап Георгій Каніскі. Гутарка з царыцай вялася пра абарону праваслаўнай рэлігіі ў Рэчы Паспалітай. Кацярына, якая толькі-толькі стала займацца дзяржаўнымі справамі на такім узроўні, асцярожна спытала, якую ж карысць яна будзе мець ад гэтага. Адзін з прысутных, ігумен, тлумачыў без дыпламатыі: Расія, маўляў, законным чынам можа адабраць у палякаў кавалак урадлівай зямлі ў 600 вёрст ды яшчэ атрымаць безліч праваслаўных, якія будуць тую зямлю апрацоўваць[91]. Імператрыца, як заўжды, ветліва выслухала гэтую параду і... зрабіла свае вывады. Ва ўсякім разе, усё ж распрацавала планы пашырэння расійскіх уладанняў у заходнім напрамку.

А абставіны, і міжнародныя, і тыя, што склаліся ў самой Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст., спрыялі гэтым планам. Шматнацыянальная краіна «абодвух народаў»[92] з-за свайго кансерватызму, памножанага на анархічнае разуменне «залатой вольнасці»[93], зрабілася практычна безабароннай. А вакол — тры магутныя дзяржавы. Спакуса вялікая. Мілітарызм у спалучэнні з цэнтралізаванай уладай толькі і шукаў моманту для захопаў суседніх тэрыторый. Гэты момант вышукваўся дыпламатамі, сярод якіх асаблівую ролю ў лёсе Рэчы Паспалітай адыграў Мікалай Рэпнін. Пры яго непасрэдным удзеле адбываліся выбары ў сойм, выпрацоўваліся

праграмы дзеянняў на карысць суседкі на ўсходзе. Калі ж здарылася непаслушэнства — паралізавалася дзейнасць дзяржаўных устаноў, была нават прынята «патрэбная» канстытуцыя[94].

Расія абяцала пакуль не чапаць граніц Рэчы Паспалітай, гарантавала недатыкальнасць яе зямель. Тым часам, аднак, вяліся актыўныя перагаворы паміж Венай, Берлінам і Пецярбургам. І вось сталіца Расійскай імперыі становіцца галоўным штабам па вырашэнню лёсу польска-літоўскай дзяржавы. 5 ліпеня 1772 г. трыма зацікаўленымі бакамі падпісваецца сакрэтная канвенцыя[95]. Пачынаецца першы акт гістарычнай трагедыі...

Адпаведна з канвенцыяй, па першаму падзелу да Расіі адыходзілі ваяводствы Мсціслаўскае, Віцебскае, Полацкае, Інфлянцкае і частка Мінскага за Дняпром[96]. Гэтыя землі разам з часткай Лівоніі склалі плошчу каля 93 тыс. кв. км з насельніцтвам у 1 млн. 300 тыс. чалавек[97].

У верасні 1772 г. тэкст канвенцыі быў афіцыйна накіраваны польскаму ўраду, які рашуча пратэставаў супраць гэтага, нават звярнуўся да кіраўнікоў Англіі і Францыі за падтрымкай, але дарэмна[98]. Паслы трох дзяржаў — Аўстрыі, Прусіі і Расіі — ультыматыўна «рэкамендавалі» ратыфікаваць трактат. Рэч Паспалітая такім чынам страчвала свае землі на карысць суседзяў. Адначасова была «аказана дапамога» ў дэлегаванні паслоў на сойм. Патрыятычна настроеных прадстаўнікоў гінучай дзяржавы аказалася зусім мала: толькі Тадэвуш Рэйтан, пасол навагародскі, ды яшчэ колькі асоб. 30 верасня 1773 г. адбылася ратыфікацыя[99].

Але яшчэ задоўга да гэтых падзей, 28 мая 1772 г., генералу графу Захару Чарнышову быў дадзены імянны загад (наказ) з дакладнай інструкцыяй. Ён быў прызначаны генерал-губернатарам новых расійскіх зямель. Царыца загадала ўтварыць дзве новыя губерні: Пскоўскую з правінцыямі Пскоўскай, Вялікалуцкай, Дзвінскай (у якую ўключаліся Польскія Інфлянты), Полацкай (на поўнач ад Дзвіны), Віцебскай (правабярэжная Дзвіна); Магілёўскую — з правінцыямі Магілёўскай, Аршанскай, Рагачоўскай і Мсціслаўскай. І калі цэнтрам Магілёўскай губерні натуральна павінен быў стаць Магілёў, то ў Пскоўскай — чамусьці Апочка (!)[100].

У наступным імянным загадзе ад 16 жніўня 1772 г. граф Чарнышоў называецца ўжо «беларускім генерал-губернатарам», якому прадпісваецца «...паміж 1-ым і 7-ым чыслом надыходзячага верасня месяца ўзяць у сапраўднае наша валоданне ўсе пад Расійскі скіпетр прызначаныя месцы і землі...»[101].

Нарэшце, 23 кастрычніка 1772 г. з'явіўся афіцыйны дакумент для ўсёй дзяржавы, які абвяшчаў аб далучэнні да Расійскай імперыі ад Рэчы Паспалітай зямель, а таксама падзеле іх на Пскоўскую (губернскі горад Апочка) і Магілёўскую губерні. Губернатарамі прызначаліся: у першую — генерал-маёр Крачэтнікаў, у другую — генерал-маёр Кахоўскі[102]. Пазней асобным актам, які ўвайшоў у ратыфікацыйныя дакументы («...для непарушальнага зацвярджэння граніц на адвечныя часы...»), абодва бакі дэлегавалі паўнамоцныя камісіі. Месцам сустрэчы стала мястэчка Чарэя, адкуль камісары і накіраваліся да пачатковага пункта новай граніцы — месца ўпадзення Авіксты (Эўсты) у Дзвіну[103].

У акце разгранічэння «Беларускіх зямель, нанабытых да Расійскай Імперыі», складзеным канчаткова па выніках дэмаркацыі 4—15 ліпеня 1775 г. і падпісаным каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім, вялікім канцлерам каронным Анджэем Маладзіеўскім і падканцлерам Янам Боргам, а таксама — вялікім канцлерам літоўскім Аляксандрам Сапегам і падканцлерам Іяхімам Хрэптовічам у Варшаве 12 кастрычніка 1777 г., у артыкулах 1—4 даецца падрабязнае апісанне той мяжы. Яна ішла ўверх па Дзвіне аж да ўпадзення ў яе рэчкі Чарнагосці. Уздоўж гэтага прытоку граніца заварочвала на паўднёвы захад проста да возера Сцержэня[104].

Але спынім на момант апісанне мяжы, каб даведацца пра яе канкрэтны выгляд у XVIII ст.: «По всей дистанции проведенных линий поставлены с Российской стороны с Российским гербом граничные столбы и оставлен интервал по всем линиям между Российских и Польских столбов на тридцать локтей (1 лок. — 45—47 см) широты для сделания рва, когда оный со стороны России проводиться будет»[105].

Ад возера Сцержаня (зараз у Чашніцкім раёне) граніца набліжалася да вытокаў ракі Друць і да мястэчка Талачына, далей уніз па Друці (левы бераг — расійскі, правы — Рэчы Паспалітай) і да ўпадзення ў Днепр, дзе знаходзіўся Лоеў (на польскім баку)[106]. Тут па Дняпры ішла ўжо старая граніца.

На далейшы лёс беларускіх меж паўплывалі змены, што адбыліся ў апошняй чвэрці XVIII ст. Маецца на ўвазе адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Расіі ў сувязі з губернскай рэформай 1775 г. Замест правінцый і дыстрыктаў з'явіліся паветы і акругі. Неўзабаве ў 1776 г. ад Пскоўскай губерні былі аддзелены нованабытыя беларускія і інфлянцкія (латгальскія) паветы, з якіх і была ўтворана Полацкая губерня[107]. Полацкая губерня-намесніцтва складалася з 11 паветаў: Віцебскі, Вяліжскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Дынабургскі, Люцынскі, Невельскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі і Суражскі[108]. Вось так у Беларусь трапіла частка Інфлянтаў (Дынабург, Люцын і Рэжыца). Але калі прыпомніць гісторыю Лівонскай граніцы XI—XII стст., то гэта быў своеасаблівы акт вяртання тых зямель, што некалі належалі Полацкаму княству. У «Абазрэнні Полацкага намесніцтва 1785 года» гаварылася, што кожны павет мае сваю акружную мяжу, таксама як і губернскую, якая разгранічвае яго тэрыторыю з суседзямі[109]. Пра новую Лівонскую мяжу Полаччыны мы яшчэ скажам ніжэй, а пакуль нас чакаюць новыя падзеі, якія маюць прамое дачыненне да лёсу Рэчы Паспалітай.

Два наступныя падзелы гэтай дзяржавы былі працягам першага. «Тыя ж саўдзельнікі і такія ж прыёмы дзяльбы»[110]. З адной, праўда, асаблівасцю — Аўстрыя ў другім падзеле не ўдзельнічала, хаця трэці шанц яна не ўпусціць. Ну, а што да Расіі і Прусіі, то яны ў канцы 1792 г. пачалі непасрэдныя перагаворы, якія закончыліся падпісаннем (зноў жа ў Пецярбургу) адпаведнай канвенцыі[111]. І зноў гэтаму папярэднічала актыўная дыпламатычная дзейнасць пецярбургскага двара. 6 мая 1792 г. расійскі пасол у Варшаве Якаў Булгакаў уручыў дэкларацыю польскаму ўраду, дзе абгрунтоўвалася неабходнасць рускіх войск на тэрыторыі Рэчы Паспалітай[112]. І як толькі пачаліся пруска-рускія перагаворы, генерал Крачэтнікаў 8

нарэшце, што сабой уяўлялі Віцебская і Гародзенская губерні.

Яшчэ ў снежні 1796 г. была скасавана Полацкая губерня, а яе тэрыторыя злілася з Магілёўскай. Узамен стварылі новую — Беларускую губерню, якая праіснавала да лютага—сакавіка 1802 г.[124]. Як толькі жыхарам Полацка стала вядома, што па ўказу Сената Беларуская губерня перастае існаваць, а на яе месцы ўтвараюцца Магілёўская і Віцебская губерні, узнялася актыўная кампанія за аднаўленне раней існаваўшага губернскага цэнтра. Пасля дэталёвага разгляду ўсіх довадаў Сенат усё ж аддаў перавагу Віцебску, які і стаў з таго часу губернскім горадам[125].

Слонімская губерня знікла (у юрыдычным сэнсе гэтага слова) па загаду Паўла І. Яе ізноў аб'яднал і 23 ліпеня 1797 г. з Віленскай губерняй, стварыўшы губерню Літоўскую[126]. Але праз чатыры гады, ужо на аснове загада наступнага цара, Аляксандра І, у жніўні 1801 г. Літоўская губерня ў чарговы раз падзялілася на дзве часткі: Віленскую і Гародзенскую[127].

Вернемся, аднак, да дзяржаўнай мяжы на захадзе Беларусі. Гэта была мяжа паміж каралеўствам Прусіяй і Расійскай імперыяй. У тым выглядзе, якой мы яе пакінулі ў ліпені 1796 г., граніца праіснавала да 1815 г. Пасля напалеонаўскіх войн і па ўмовах Венскага кангрэсу да Расіі адышло так званае Царства Польскае, тэрыторыя якога дагэтуль належала Прусіі[128]. У снежні 1842 г. з'явіўся ўказ Мікалая І «Аб пераўтварэнні паўночна-заходніх губерняў», паводле якога Гародзенская губерня ў 1843 г. пашырылася за кошт далучэння да яе са скасаванай Беластоцкай вобласці Бельскага, Сакольскага і Беластоцкага паветаў[129]. Праўда, у Віленскую губерню адышоў Лідскі павет, а ў Менскую — Навагародскі.

Амаль увесь гэты час, пачынаючы ад уключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі (з перапынкамі на ваенныя гады), праводзілася межаванне акруг, паветаў, намесніцтваў і губерняў. Гэтым займаўся спецыяльна створаны Трэці (межавы) дэпартамент Сената. Акты з дэталёвымі апісаннямі павятовых і губернскіх межаў захоўваюцца зараз у пецярбургскім Гістарычным архіве[130].

Адміністрацыйна-тэрытарыяльная структура, што склалася ў нашым рэгіёне ў канцы XVIII — першай палове XIX ст., праіснавала даволі доўга — аж да першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Губернскія граніцы яшчэ адыграюць сваю адпаведную ролю пры вызначэнні дзяржаўных меж Беларусі.

*А. К. ЦІТОЎ,*
*гісторык*

# ПАХАБНЫ МІР

Першы ў XX ст. падзел Беларусі адбыўся 3 сакавіка 1918 г. Дзень падпісання Брэст-Літоўскага Мірнага дагавора мала што скажа чытачу. Таму варта нагадаць ранейшыя падзеі. Яшчэ ў тэзісах аб Устаноўчым сходзе, што з'явіліся на свет 24—25 снежня 1917 г., Ленін пісаў: «Апошнія падзеі на Украіне (часткова ў Фінляндыі і ў Беларусі, а таксама на Каўказе) паказваюць таксама на новую групоўку класавых сіл, якая складаецца ў працэсе барацьбы паміж буржуазным нацыяналізмам Украінскай Рады, Фінляндскага сойма і г.д., з аднаго боку, і Савецкай уладай, пралетарска-сялянскай рэвалюцыяй кожнай з гэтых нацыянальных рэспублік, з другога»[1].

Такім чынам бальшавіцкі ўрад апынуўся ў даволі складаным становішчы. З аднаго боку, пагроза ваеннага краху і перамогі кайзераўскіх войск на Расійска-Германскім фронце, з другога — рост нацыянальна-вызваленчага руху на ўскраінах, якія Ленін трапна назваў «турмой народаў». Працэс бражэння на гэтых ускраінах адзначаўся Леніным і раней — у рабоце «Аграрная праграма сацыял-дэмакратаў у першай рускай рэвалюцыі». Ён пісаў: «З прадстаўнікоў **нярускіх** (выдзелена намі. — *А.Ц.*) народнасцей у Думе выказваліся па аграрнаму пытанню палякі, беларусы, латышы і эстонцы, літоўцы, татары, армяне, башкіры, кіргізы, украінцы»[2], якія патрабавалі аўтаномных форм землекарыстання, адпаведных з нацыянальнымі і гістарычнымі традыцыямі. У гэты ж перыяд, да захопу ўлады бальшавікамі, Ленін «бажыўся», што пралетарская дзяржава прыме «неадкладныя і рэвалюцыйныя меры супраць памешчыкаў» і зробіць усе захады дзеля неадкладнага «аднаўлення **поўнай свабоды** (выдзелена намі. — *А.Ц.*) для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульман і г.д.»[3]. Але адна справа гучна сыпаць лозунгамі з трыбуны, знаходзячыся ў апазіцыі, і зусім іншая — выконваць абяцанні, апынуўшыся пры ўладзе.

З'яўленне рэальных сіл, здольных наладзіць жыццё ў адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі, гісторыяй і жаданнямі народаў, не ўпісвалася ў планы сусветнай рэвалюцыі. Таму «каб не даць нацыянальнасцям «буржуазнага» самавызначэння, нацыянальны рух быў цалкам узяты пад кантроль. Дзеля гэтае мэты былі створаны нацыянальныя секцыі Камуністычнай партыі»[4].

Балансаванне паміж прагай утрымацца пры ўладзе і пагрозай з боку кайзераўскіх войск, страх перад цэнтрабежнымі настроямі ўскраін — галоўныя прычыны заключэння Брэсцкага дагавора. Гэта шчыра адзначыў Ленін 7(20) студзеня 1918 г.: «...Сялянская армія, невыносна стомленая вайной, пасля першых паражэнняў — магчыма, нават не праз месяцы, а праз тыдні — звергне сацыялістычны рабочы ўрад»[5].

Аб'яўлены 9 лістапада 1917 г. «Дэкрэт аб міры» не знайшоў падтрымкі ў краін — саюзніц Расіі [у] першай сусветнай вайне. Як згадваў С. Мсціслаўс[кі] (С. Д. Маслоўскі), «у момант аб'яўлення ленінска[га] «Дэкрэта аб міры» прапанова аб перамір'і ўяўл[я]лася пустым гукам, таму што было самавідавочн[а], што ніхто — ні саюзнікі, ні праціўнікі — не паст[а]вяцца сур'ёзна да дэкрэта такога роду, які выходзі[ў] ад улады «часовай» у самым дакладным і літа[]ральным сэнсе слова»[6]. Але ўсе яны вельм[і] памыліліся, бо «часовасць» працягвалася звыш сям[]дзесяці гадоў.

Саўнарком аддаў загад Вярхоўнаму Галоўна[]камандуючаму Расійскай арміі Духоніну тэрміно[ва] звярнуцца да краін Чацвярного Саюза (Германі[і], Аўстра-Венгрыі, Балгарыі і Турцыі) з прапанова[й] агульнага перамір'я і пачатку мірных перагавора[ў] з краінамі Германскага блоку. Генерал Духоні[н] адмовіўся выконваць гэты загад і ў той жа дзен[ь] быў зняты, а яго месца заняў прапаршчык Кры[]ленка. Апошні аддаў загад вайсковым часцям, н[а] свой страх і рызыку, пачаць перагаворы з праці[ў]нікам, што магло прывесці да значных, непра[д]казальных вынікаў як у знешняй, так і [ва] ўнутранай палітыцы.

Перагаворы аб перамір'і працягваліся з 20 па 2[] лістапада (3—5 снежня). Ад савецкага боку ў і[х] удзельнічалі Каменеў Л. Б., Сакольнікаў Г. Я[.], Біцэнка Н. А., Маслоўскі-Мсціслаўскі С. Д[.], Карахан Л. М. Яны прапанавалі звярнуцца да ўсі[х] краін, якія не ўдзельнічалі ў перагаворах, прыняц[ь] удзел у стварэнні ўмоў перамір'я на ўсіх франта[х]. Дзяржавам Чацвярнога Саюза было прапанавана н[е] перакідваць вайсковыя часці на Заходні (Еўра[]пейскі) фронт. Канчатковы дагавор аб перамір'і бы[ў] падпісаны 2(15) снежня 1917 г. У адпаведнасці з і[м] устанаўлівалася перамір'е на 28 дзён, з 4(17) снежн[я] 1917 г. па 1(14) студзеня 1918 г.

Агульная лінія паводзін, за якую выступалі Ле[]нін і ўсе іншыя лідэры партыі, складалася з таг[о], каб як мага болей зацягваць мірны перапынак[,] максімальна выкарыстоўваючы агітацыйныя ма[г]чымасці Брэста дзеля далейшай рэвалюцыянізацы[і] міжнароднага рабочага класа з мэтай хутчэйшаг[а] набліжэння сусветнай рэвалюцыі. Кіраўнік[і] РСДРП(б) прыходзілі да думкі, што Германія н[е] гатова да наступальных дзеянняў. Гэтая чыст[а] гепатэтычная ідэя падводзіла іх да думкі, што яны здолеюць падпісаць мір на ўмовах, прадыктаваны[х] Савецкай уладай[7].

Пленарнае пасяджэнне Мірнай канферэнцыі [у] Брэсце пачалося 9(22) снежня 1917 г. Сярод шас[ці] пунктаў прапаноў, вылучаных РСФСР, пад № [] быў наступны: — «Нацыянальным групам, якія н[е] карысталіся палітычнай самастойнасцю да вайны[,] гарантуецца магчымасць свабодна вырашаць пытан[не] не аб сваёй прыналежнасці да той або інша[й] дзяржавы або аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці [] шляхам рэферэндуму. Гэты рэферэндум мае быц[ь]

Карта этнаграфічных беларускіх зямель па М.В. Доўнар-Запольскаму, Я.С. Канчэру, Я.Ф. Карскаму.

арганізаваны такім чынам, каб была забяспечана поўная свабода галасавання насельніцтва дадзенай тэрыторыі, не выключаючы эмігрантаў і ўцекачоў»8.

Такая, вельмі рэвалюцыйная, умова не магла не выклікаць сімпатый усіх прыгнечаных нацый не толькі ў Расіі, але і ў Аўстра-Венгрыі, Германіі, якія, у большай ці меншай ступені, таксама былі «лоскутными». І тэрыторыі іх таксама ўтварыліся за кошт прымусовага захопу зямель іншых народаў.

Такім чынам, трэці пункт поўнасцю адпавядаў прынятай яшчэ 15 лістапада 1917 г. «Дэкларацыі правоў народаў Расіі». Яна ж агалошвала роўнасць, незалежнасць, правы народаў на самавызначэнне, аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў. Не гледзячы на тое што «Дэкларацыя» была агалошана партыяй бальшавікоў, яна была для іх не праграмай дзеянняў, а толькі прапагандысцкай зброяй, прызначанай для знешняга карыстання. Для больш дасведчаных, тых, хто стаяў ля партыйнага руля, яшчэ 29 красавіка (12 мая) 1917 г. на VII красавіцкай канферэнцыі РСДРП(б) была прынята напісаная Леніным рэзалюцыя па нацыянальнаму пытанню. У ёй, між іншым, гаварылася: «Вопрос о праве наций на свободное отделение непозволительно смешивать с вопросом о целесообразности отделения той или другой нации в тот или иной момент. Этот, последний, вопрос партия пролетариата (заўважым — не народ! — *А.Ц.*) должна решать в каждом отдельном случае совершенно самостоятельно, с точки зрения интересов всего общественного развития и интересов классовой борьбы пролетариата за социализм»9. Гэта давала падставы для шырокага манеўру. З аднаго боку, калі цэнтр, па нейкіх прычынах, не мог утрымаць ускраіны (Фінляндыя, Польшча і інш.), — гаварыць аб згодзе партыі з правам нацый на самавызначэнне; з другога, калі была магчымасць утрымаць сілай зброі ў сферы ўласных уплываў, — спасылацца на агульнакласавыя або грамадскія інтарэсы. Аб тым, што чыста тэарэтычная ідэя сусветнай рэвалюцыі была дамінуючай у бальшавіцкім светапоглядзе і падмінала тым самым законныя правы народаў, сведчыць і наступнае выказванне правадыра міжнароднага пралетарыяту — «ни один марксист, не разрывая с основами марксизма и социализма вообще, не сможет отрицать, что интересы социализма стоят выше, чем интересы права наций на самоопределение»10.

Кіруючыся пастулатамі хуткага набліжэння сацыялістычнай рэвалюцыі і другаснасці, у параўнанні з ёй, ідэі нацыянальнага самавызначэння, і зыходзілі бальшавікі ў правядзенні брэсцкіх перагавораў.

І ўсё ж у Брэст на другі этап перагавораў трэба было ехаць. 27 снежня 1917 г. (9 студзеня

Зак.5429.




Карта беларускага племені (1917 г.) выдадзена пецярбургскім выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца» не пазней сакавіка 1918 г., перавыдадзена Белнацкамам у красавіку 1920 г.

1918 г.) пачаліся спрэчкі аб агульных прынцыпах будучага міру. Расійская дэлегацыя складалася з наступных асоб: Іофе, Л. Каменеў, Пакроўскі, Бічэнка, Карахан. Вайсковыя кансультанты — А. Самойла і В. Ліпскі. Кансультанты па нацыянальных пытаннях — С. Бабінскі, К. Радэк, П. Стучка і В. Міцкявічус-Капсукас. Першыя два «прадстаўлялі інтарэсы польскага пралетарыяту», ад імя латышоў выступаў Стучка, ад літоўцаў — Міцкявічус-Капсукас. Ад імя Украіны аж дзве дэлегацыі — ад бальшавікоў і ад Цэнтральнай Рады. Пра беларусаў увогуле «забыліся».

Але шыла ў торбе не схаваеш. 30 снежня 1917 г. (12 студзеня 1918 г.) нечакана для бальшавікоў усплыло беларускае пытанне. Нават не пытанне, а непрыемны аргумент у палеміцы. Пасля палымянага выступлення Л. Каменева з патрабаваннем волі і самавызначэння для народаў на акупіраваных немцамі тэрыторыях з заявай выступіў старшыня нямецкай дэлегацыі генерал-маёр М. Гофман. Ён сказаў: «Я хацеў бы... звярнуць увагу, што Руская дэлегацыя патрабуе прызнання права на самавызначэнне ў такой форме і ў такім аб'ёме, якога яе Урад не прызнае ва ўласнай краіне.

Яе Урад кіруецца толькі прымусам, з дапамогай якога ўціскае кожнага іншадумца. Усялякі іншадумец проста аб'яўляецца контррэвалюцыянерам і буржуа, які стаіць па-за законам.

Я хацеў бы праілюстраваць сваю апінію толькі двума прыкладамі. У ноч з 30 на 31 снежня першы Беларускі Кангрэс[11] у Мінску, які хацеў настаяць на праве самавызначэння беларускага народа, быў разагнаны бальшавіцкімі багнетамі і кулямётамі.

Калі ўкраінцы запатрабавалі сабе права на самавызначэнне — Петраградскі ўрад паставіў ультыматум і паспрабаваў дабіцца свайго пры дапамозе ўзброенай сілы»[12].

Такая заўвага выклікала абураны адпор Лейбы Троцкага. Ён назваў гэтую заяву «утручэннем ва ўнутраныя справы Расіі», потым даў даведку (звычайны прыклад дэмагогіі. — *А. Ц.*) аб тым, што пакуль грамадства складаецца з класаў, якія змагаюцца паміж сабой, дзяржава будзе ўжываць апарат прымусу. Заявіўшы катэгарычны пратэст супраць «зусім памылковага сцвярджэння» (быццам бы «мы ставім усіх іншадумцаў па-за законам»), Троцкі расказаў аб падзеях у Мінску. Па яго версіі выходзіла, што «Беларускі кангрэс складаўся з прадстаўнікоў беларускіх аграрыяў». Кангрэс зрабіў спробы прысвоіць сабе тыя правы, якія належаць выключна беларускаму народу[13]. (Цікава, што б сказаў гэты прамоўца, успомніўшы, што яго партыя атаясамлівала сябе не проста з народам, а была «розумам, гонарам і сумленнем усёй эпохі»?)

Што ж датычыць згаданага Гофманам факта, то, па версіі Троцкага, на кангрэсе прысутнічалі толькі «прадстаўнікі беларускіх аграрыяў», якія, бачыце, не прадстаўлялі ўвесь беларускі народ. Нават калі б гэта было і так, то, вядома ж, у іх былі ўсе падставы гаварыць ад імя беларускага народа. Можа, Троцкі не ведаў работ свайго паплечніка Леніна, які адзначаў неаднолькавы сацыяльны склад розных нацый? У свой час ён пісаў: «беларусы і літоўцы—галоўным чынам сяляне (выдзелена намі. — *А. Ц.*), немцы (у Расіі — Прыбалтыйскі край) — дваране і інтэлігенцыя, палякі (у беларускім і літоўскім краі, часткова на Украіне) idem — яўрэі — гандлёвыя слаі і рамеснікі[14].

Ды і ўвогуле, усе прадстаўнікі расійскай дэлегацыі «раптоўна» забыліся яшчэ аб адным факце: 2(15) снежня 1917 г. Савет Народных Камісараў прызнаў грашовыя сродкі для з'езда па справе самавызначэння Беларусі. Таксама як і пра той факт, што ў падрыхтоўцы кангрэса актыўны ўдзел прымала Беларуская сацыял-дэмакратычная работніцкая партыя, лідэрамі якой з'яўляліся З. Жылуновіч, А. Чарвякоў, Я. Дыла. Крыху пазней гэтая партыя памяняла сваю назву на Беларускую камуністычную партыю, стаўшы секцыяй Расійскай камуністычнай партыі.

Але няхай у чытача не ўзнікае думка, што інтарэсы беларускага народа былі бліжэй кайзераўцам, чым бальшавікам. Літаральна праз месяц руская дэлегацыя аказваецца ў ролі «абаронцаў» прынцыпу нацыянальнага самавызначэння беларусаў. На пленарным пасяджэнні, якое праходзіла 10 лютага 1918 г., ужо пасля таго як германцамі былі аб'яўлены прапановы па лініі размежавання, адбыліся наступныя дэбаты:

Прадстаўнік Расіі Пакроўскі: «Лінія перасякае шэраг рускіх (! — АЦ.) уездаў, населеных беларусамі. Такім чынам нашыя адзінапляменнікі аказваюцца падданымі нейкай чужой дзяржавы; аб прапанове стварыць самастойную Беларускую Дзяржаву мы не чулі».

Гофман: «Аб якіх частках Беларусі ідзе гаворка?»

Пакроўскі: «Справа ідзе аб заходняй і паўднёвай частках Гродзенскай губерні. Мы маем вельмі падрабязную карту, выдадзеную генеральным штабам Германскай арміі».

Гофман, апынуўшыся ў далікатным становішчы, пачынае выкручвацца (не можа ж ён аб'явіць фальшывай ці хлуслівай карту, выдадзеную ўласным камандаваннем). Ягоны адказ зводзіцца да тлумачэння, што матэрыялы гэтага перапісу быццам бы не зусім дакладныя, а этнічная стракатасць насельніцтва перашкаджае аб'ектыўнасці.

Пакроўскі: «Там паказаны наступныя лічбы: Сукольскі (трэба Сакольскі. — *А. Ц.*) уезд — 89,8 працэнта беларусаў; Гродзенская губерня — 65,8 працэнта; Лідскі ўезд Віленскай губерні — 73,2 працэнта; «Волковышский» (так у тэксце — *А. Ц.*) — 82,5 працэнта; Лужанскі (мусіць, Пружанскі? — *А. Ц.*) Гродзенскай губерні — 75,5 працэнта; Ольшанскі (мусіць, Ашмянскі? — *А. Ц.*) — 81,1 працэнта і, нарэшце, Віленскі ўезд, які поўнасцю ўваходзіць у гэтую вобласць, — 42 працэнты беларусаў. У Віленскім павеце, наколькі я разумею, — беларусы складаюць адносную большасць. Як бачым з гэтых даных... беларусы складаюць ва ўсіх гэтых уездах поўную большасць...»

Гофман: «Я думаю, пану Пакроўскаму вядома, што на падставе статыстыкі можна давесці ўсё»[15]. Большага ён сказаць не мог. Так скончылася гэтая размова аб беларусах, другі этап перагавораў неўзабаве спыніўся. У гэты ж дзень Расійская дэлегацыя зрабіла славутую заяву аб адмове ад подпісу анексіяністкага міру і поўнай дэмабілізацыі рускіх войск па ўсяму фронту. Заява была падпісана Л. Троцкім, А. Іофе, М. Пакроўскім, А. Біцэнка, В. Карэліным.

Гэты крок быў адобраны ЦВК РСФСР, аб чым




Карта падзелу беларускіх зямель у адпаведнасці з Расійска-Германскім дагаворам 1918 г.

сведчыць рэзалюцыя, прапанаваная Свярдловым на пасяджэнні 14 лютага 1918 г. У ёй гаварылася: «Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад Мірнай дэлегацыі, ЦВК адабрае ўзор дзеянняў сваіх прадстаўнікоў у Брэсце»[16].

Праз чатыры дні пачалося нямецкае наступленне. Увечары гэтага ж дня (18 лютага) на пасяджэнні ЦК было прынята рашэнне аб згодзе Савецкага ўрада з нямецкімі ўмовамі міру. Раніцай 19 лютага была адпраўлена радыёграма. Але немцы працягвалі наступаць, заявіўшы пры гэтым, што радыёграма — не афіцыйны дакумент, і запатрабавалі пісьмовага пацвярджэння. З Петраграда тэрмінова быў адпраўлены спецыяльны дыпламатычны кур'ер, які вярнуўся 23 лютага з прадыктаванымі ўмовамі міру. Іх неабходна было прыняць да 7 гадзін раніцы 24 лютага.

У 3 гадзіны раніцы таго ж дня адбылося пасяджэнне ЦВК. З прапановай прыняць нямецкія ўмовы выступіў Ленін. У выніку паіменнага галасавання была адобрана рэзалюцыя бальшавікоў аб прыняцці германскіх умоў міру. З сакавіка 1918 г. Брэсцкі дагавор быў падпісаны з боку Расійскага ўрада — Г. Сакольнікавым, Л. Караханам, Г. Чычэрыным і Г. Пятроўскім, а таксама адпаведнымі асобамі з боку Германіі, Аўстра-Венгрыі, Балгарыі і Турцыі.

Ратыфікаваны Савецкім урадам (на IV Усерасійскім з'ездзе Саветаў 15 сакавіка 1918 г., а з боку немцаў — адобраны рэйхстагам 22 сакавіка і ратыфікаваны кайзерам Вільгельмам II 26 сакавіка 1918 г.) дагавор стаў фактам гісторыі.

Паказальна, што для тэрміна «Беларусь» у ім не знайшлося месца. І гэта зразумела — усе бакі (у нашым выпадку Расія і Германія) былі зацікаўлены ў анексіі тэрыторыі на стратэгічным напрамку Захад—Усход, таму з'яўленне незалежнай дзяржавы, у якасці буфернай зоны паміж імі, не адпавядала іхнім вялікадзяржаўным апетытам, таму інтарэсы і нацыянальныя правы нашага народа былі праігнараваны абодвума зацікаўленымі бакамі.

Але лёс не наканаваў доўгага жыцця гэтаму дагавору. Рэвалюцыя ў Германіі стварыла новую палітычную сітуацыю ў Еўропе. Расійскі ўрад пастановай УЦВК ад 13 лютага 1918 г. ануляваў Брэст-Літоўскі дагавор. Яго падпісалі — Старшыня УЦВК Я. Свярдлоў, старшыня СНК Ул. Ульянаў (Ленін) і сакратар УЦВК В. Аванесаў. У дакуменце гаварылася: «Усім народам Расіі, насельніцтву ўсіх акупіраваных абласцей і зямель.

Усерасійскі ЦВК сім урачыста заяўляе, што ўмовы міру з Германіяй, падпісаныя ў Брэсце 3 сакавіка 1918 г., страцілі значэнне і моц. Брэст-Літоўскі дагавор... у цэлым і ва ўсіх пунктах аб'яўляецца знішчаным...»

Далей ідзе апеляцыя да працоўных мас Расіі, Ліфляндыі, Эстляндыі, Польшчы, Літвы, Украіны, Фінляндыі, Крыма, Каўказа, якія самі могуць вырашаць свой лёс. У гэтай жа пастанове даецца і падказка народам, на якім шляху шукаць гэты лёс, — вядома, на шляху барацьбы за стварэнне і ўмацаванне савецкага ладу. Потым яшчэ раз пералічваюцца свабодныя народы, згадваецца і сусветны саюз працоўных усіх краін і нацый![17]

А пра беларусаў і Беларусь шаноўныя правадыры зноў забыліся. Ці, можа, яны думалі пра іх, калі згадвалі пра «сусветны Саюз працоўных»?

Яшчэ 24 студзеня 1918 г. на пасяджэнні ЦК РСДРП Ленін гаварыў: «Бясспрэчна, мір, які мы вымушаны заключыць зараз, — мір пахабны, але калі пачнецца вайна, наш урад будзе зменены, і мір будзе заключаны іншым урадам»[18].

Урад утрымаўся, падпісаўшы дагавор. Але былі зняважаны правы беларусаў на самавызначэнне. Увогуле пра нас згадвалі толькі тады, калі гэтага патрабавала палітычная кан'юнктура. Калі для ўрада бальшавікоў Брэст-Літоўскі дагавор быў «пахабным», дык для народа Беларусі ён быў пахабным удвая. Аб гэтым сведчылі і падзеі, якія развіваліся паралельна з апісанымі вышэй, але вынікі свае далі пазней.

## НА ПОЎНАЧ АД МІНСКА

Брэсцкі мір даў магчымасць бальшавікам гандляваць зямлёй, якая фактычна ім не належала. Чарговым крокам у гэтым накірунку з'явілася «вырашэнне» Віленскага пытання.

Яшчэ пад германскай акупацыяй Літоўская Тарыба выдала 11 снежня 1917 г. дакумент, у першай частцы якога заяўляла аб утварэнні літоўскай дзяржаўнасці, а ў другой звярталася да кайзера аб дапамозе, таму што Тарыба «стаіць за цвёрдыя саюзныя сувязі Літоўскай дзяржавы з Германіяй». Але нават пасля такога рэверансу Германія не прызнала незалежнасці Літвы. Толькі праз два месяцы — 16 лютага 1918 г. — літоўцы рашыліся абвясціць дэкларацыю аб суверэнітэце. Але і гэты акт не стварыў новую дзяржаву: Германія прызнала Літву, але як частку сваёй імперыі. Улада Тарыбы існавала на тэрыторыі сямі паветаў былой Ковенскай і паўночных тэрыторыях некаторых паветаў Віленскай губерні (паветы — Уцянскі, Панявежскі, Вілкамірскі, Цельшаўскі, Шавельскі, Расіенскі і інш.). Гэты рэгіён, адрэзаны ад мора і размешчаны ў баку ад галоўных еўрапейскіх шляхоў зносін, мала цікавіў улады імперскіх краін. Галоўныя акты трагедыі разгорталіся на поўдзень ад яго. Таму Германія, згадзіўшыся з узнікненнем новага дзяржаўнага ўтварэння на ўсход ад меж Прусіі, даволі спакойна назірала за валтузнёй, якая адбывалася ў самой Тарыбе паміж прыхільнікамі розных палітычных плыняў. Пасля лістападаўскай рэвалюцыі 1918 г. у самой Германіі ўвогуле стала не да гэтага. На тэрыторыі Віленскай губерні, дзе існавалі асобныя літоўскія паселішчы, пад непасрэдным уплывам бальшавікоў быў абнародаваны Маніфест аб стварэнні альтэрнатыўнай — Літоўскай Савецкай Рэспублікі. Адбылося гэта 16 снежня 1918 г. у Вілейцы. І ўжо праз чатыры дні пасля яе абвяшчэння ўрад РСФСР прызнаў новую дзяржаву.

У дэкрэце, падпісаным Леніным, гаварылася, што ўрад Савецкай Расіі прызнае незалежнасць Літоўскай Савецкай Рэспублікі. Яшчэ б не прызнаць сваё роднае дзіця!

Але вернемся з Вілейкі ў Вільню.

Разам з кайзераўскімі войскамі ў канцы 1918 і

пачатку 1919 г. горад пакінулі і ўлады Літоўскай Тарыбы. Ужо 2—3 снежня 1919 г. буржуазны ўрад Сляжавічуса пачаў сваю працу ў законнай сталіцы Літвы — Коўне. Якраз у гэты момант прапольскі настроеная частка насельніцтва спрабавала ўзяць уладу ў свае рукі, але 5 студзеня 1919 г. Вільня была занята войскамі Чырвонай Арміі.

Праз месяц у Беластоку быў падпісаны сакрэтны дагавор паміж камандаваннем Польшчы і Германіі. У адпаведнасці з ім Германія прапускала польскія ўзброеныя фарміраванні праз тэрыторыю, акупіраваную ўласнымі войскамі. Створаная па загаду бальшавікоў Літоўска-Беларуская рэспубліка не магла ўтрымаць сваіх пазіцый. Пад ударамі польскай арміі яна мусіла была ў ліпені—верасні самаліквідавацца.

19 красавіка 1919 г. польскія войскі ўзялі прадмесці Вільні, а 21 поўнасцю авалодалі сталіцай ЛітБела. Да восені 1919 г. на ўсёй тэрыторыі Літоўска-Беларускай рэспублікі савецкая ўлада была ліквідавана. Праблему нашых паўночных тэрыторый Польшча імкнулася вырашаць дыпламатычным шляхам, тым больш што на гэта націскалі краіны Антанты. Рашэннем Вышэйшай Рады Антанты ад 18 чэрвеня, а потым 27 ліпеня 1919 г. былі праведзены дэмаркацыйныя лініі, якія раздзялілі ўдзельнікаў канфлікту — польскі і літоўскі бакі. У адпаведнасці з гэтым рашэннем за акупацыйнымі польскімі ўладамі быў пакінуты Віленскі край. У тым жа годзе пачаліся перагаворы паміж польскімі і тарыбаўскімі ўладамі аб стварэнні антысавецкага альянса. Літва была гатова падпісаць пагадненне, але з умовай, што Вільня застанецца літоўскім горадам. Палякі ж згаджаліся на ўтварэнне канфедэрацыі з Літвой. Вільні, Коўне і Гродне, дзе літоўскае насельніцтва (акрамя Коўны) складала мізэрны працэнт, прадугледжваўся статус асобных кантонаў. Літоўцы, натуральна, скардзіліся ва ўсіх інстанцыях пасля гэтага рашэння. Каб прыпыніць размовы, палякі прапанавалі правесці плебісцыт на Віленшчыне. Такі паварот спраў, вядома, не задавальняў Літву. Яе ўрад добра прадбачыў ягоныя вынікі, таму катэгарычна выступіў супраць плебісцыту. Непрыхільнасць польскага ўрада штурхнула Тарыбу ў абдымкі да бальшавікоў. Тым больш што вайсковае шчасце адвярнулася ад Польшчы: Чырвоная Армія распачала імклівае наступленне.

Перагаворы паміж Літоўскай Рэспублікай і РСФСР пачаліся 7 мая 1920 г. Каб зарабіць сабе аўтарытэт у вачах Крамля, міністр замежных спраў Літвы Вальдэмарас у адным з інтэрв'ю заявіў (11 чэрвеня): «Польшча вядзе палітыку авантур... Польшча стварае штучную Беларусь і незалежную Украіну, лёс якіх Літва лічыць пытаннем рускай унутранай палітыкі... Літоўцы хутчэй адмовіліся б ад Вільні, чым згадзіліся б на канфедэрацыю з Польшчай»[1] І гэта ў той час, калі тая ж Тарыба прызнала БНР! Перагаворы працягваліся амаль два месяцы. Літоўскі бок імкнуўся іх зацягнуць, уважліва назіраючы пры гэтым за дзеяннямі Чырвонай Арміі. Савецкай жа Расіі дагавор быў неабходны, каб забяспечыць флангі ад магчымай канцэнтрацыі там варожых сіл. Думалі бальшавікі і над тым, як падвесці міну пад свайго саюзніка. Абодва бакі скарысталі магчымасці найлепшым чынам. 12 ліпеня 1920 г. у Маскве быў падпісаны дагавор паміж Савецкай Расіяй і Літвой. Па дагавору, беларуская частка Віленскай губерні, разам з Вільняй, пераходзіла Літве. Але гэта быў не адзіны расійскі падарунак літоўцам за кошт беларусаў: у артыкуле XII п. 2 гаварылася: «У бліжэйшых да межаў Літвы мясцовасцях і па магчымасці бліжэй да сплаўных рэк і чыгунак прадаставіць літоўскаму ўраду права рубкі лясоў на плошчы ста тысяч дзесяцін[2] на працягу дваццаці год...» Далей, у якасці «пасашка на дарогу», расійскі ўрад абавязваўся выдаць Літве тры мільёны рублёў золатам. Дагавор падпісалі А. Іофе, Ю. Мархлеўскі, Л. Абаленскі з рускага боку, а з літоўскага — Н. Нарушэвічус, П. Клімас, С. Розенбаўм, І. Вайколайціс, В. Рачкаўскас[3].

Як заведзена, увечары адбыўся банкет пры ўдзеле абедзвюх дэлегацый, на якім з прамовамі выступілі нарком замежных спраў РСФСР Чычэрын, прадстаўнікі абедзвюх дэлегацый і член літоўскай дэлегацыі Розенбаўм.[4] Позна ўвечары, добра павячэраўшы, літоўская дэлегацыя рушыла ў Коўну.

Трэба адзначыць, што, калі падпісваўся дагавор, Вільня яшчэ кантралявалася польскімі войскамі. Толькі 14 ліпеня, пасля жорсткіх баёў, часці Чырвонай Арміі ўвайшлі ў горад. Так савецкімі багнетамі літоўцы заваёўвалі сабе сталіцу. Адпаведна з умовамі Руска-Літоўскага дагавору, і беларуская Гародня мусіла перайсці да іх. А ці былі яны добрымі саюзнікамі? Паспяховае наступленне чырвонаармейцаў на захад і поўнач вяло да збліжэння аператыўных зон савецкай і літоўскай армій. Узнікала пытанне аб іх узаемадзеянні. Але літоўцы не ішлі на супрацоўніцтва з бальшавікамі. Толькі пасля чатырохдзённых перагавораў было дасягнута пагадненне, адпаведна з якім правы фланг Заходняй арміі не пераходзіў умоўную лінію Новыя Трокі — Араны — Гродна — Сібра. Пазней яна была заменена на лінію Араны — Мерач — Аўгустаў. Праўда, літоўская армія не пажадала прытрымлівацца падпісанай канвенцыі, нават не хацела падтрымліваць сувязь з савецкім камандаваннем. Такая тактыка, вядома, прыводзіла да непаразуменняў, якія літоўская дыпламатыя імкнулася раздзьмуць на ўвесь свет. Паводзіны ўрада і камандавання літоўскай арміі добра адлюстраваны ў тэлеграме ад 1 жніўня 1920 г. Галоўнакамандуючага С. Каменева наркому замежных спраў Г. Чычэрыну: «Войскі Літвы праявілі бяздзейнасць ці нават болей таго, калі ад іх патрабавалася дапамога. У сілу поўнай бяздзейнасці літоўцаў, палякі кінулі на нас усе часці, якія знаходзіліся на літоўскім фронце. З нашым прасоўваннем літоўцы палічылі магчымым неадкладна па нашых пятах рухаць свае часці ў занятыя намі раёны, нават не ўвайшоўшы з намі ў якія-небудзь пагадненні, каб пазбегнуць заўсёды магчымых у такіх выпадках непаразуменняў. Лічу, што гэтым літоўцы стварылі абставіны, пры якіх немагчыма пазбегнуць шэрагу непаразуменняў»[5]. Так чужымі рукамі з полымя вайны выцягваліся для Літоўскай рэспублікі не каштаны, а спрадвечныя беларускія землі.

У канвенцыі, падпісанай Расійскім вайсковым камандаваннем і літоўскім (адпаведна членам рэўваенсавета Межлаўкам, міністрам народнай абароны Жукасам і сакратаром віленскага рэўкома Хахальковай), былі прадугледжаны тэрміны і тэмпы выхаду Чырвонай Арміі з «літоўскай» тэрыторыі. Лі-

тоўцы так стараліся хутчэй выправадзіць рускія войскі, што замест аднаго цягніка і шасцідзесяці вагонаў дадаткова прадаставілі яшчэ адзін цягнік і сорак вагонаў на ст. Ландварава і дваццаць вагонаў і платформ на ст. Сувалкі[6].

Згодна з падпісанай канвенцыяй, улада ў Вільні павінна была перайсці ад рэўкома літоўцам 26 жніўня 1920 г. а дванаццатай гадзіне. Апошні тэрмін канчаўся роўна праз суткі — 27 жніўня. Але ў сувязі з пераменамі на польска-савецкім фронце — не на карысць Саветаў — паводзіны літоўскага боку рэзка змяніліся.

Уведзены з мэтай прадстаўніцтва ў Вільні літоўскі камендант запатрабаваў, каб 25 жніўня да 12 гадзін ночы Чырвоная Армія пакінула Вільню. Тэрмінова была склікана нарада, на якой прысутнічаў камендант ад Саветаў Муклевіч, а таксама Рафес і Міцкявічус-Капсукас. Яны вырашылі не прымаць гэтай прапановы. Рафес давёў рашэнне да ведама літоўскага каменданта, а Муклевіч і Міцкявічус-Капсукас тэрмінова звязаліся з Мінскам па тэлефоне, адкуль ім была дадзена дырэктыва — па магчымасці пазбягаць канфліктаў.

Але ў горадзе яны ўжо наспявалі. Напрыклад, карэспандэнт «Звязды» Данілаў прыйшоў на пошту, каб атрымаць карэспандэнцыю, а яго адтуль выштурхнулі літоўскія салдаты. Калі ж ён спрабаваў растлумачыць мэту свайго візіту, пачуў у адказ — «не понимаем!». Яшчэ раней той жа Данілаў паведамляў у «Звяздзе» ( 1 верасня 1920 г.), што ў трох вярстах ад ст. Алькенікі на чыгунцы Вільня—Гродна здарылася аварыя. Было разбіта 15 вагонаў з людзьмі, колькасць ахвяр — не высветлена. Высланая санлятучка разам з 250 рабочымі была перахоплена на ст. Ландварава, усіх арыштавалі. Толькі пасля доўгіх перамоваў (а тым часам паміралі параненыя людзі) яны былі вызвалены. Калі тая ж злашчасная лятучка вярталася ў Вільню, літоўскі атрад паступіў вельмі «шляхетна», папярэдзіўшы іх: сцеражыцеся — будзе крушэнне! Зноў у двух месцах аказаліся разабранымі чыгуначныя рэйкі. Сведкі, рабочыя на іншым адрэзку чыгункі, у шасці вярстах ад Вільні, бачылі чатырох літоўскіх кавалерыстаў, якія разбіралі рэйкі, выцягвалі кастылі са шпалаў[7]. Так літоўскі бок «выконваў» прынятыя на сябе абавязацельствы, хаця па дамоўленасці эвакуацыя расійска-савецкай адміністрацыі з Віленшчыны мусіла быць скончана толькі 15 верасня 1920 г. І не толькі дыверсіі былі ў іхнім арсенале. 26 жніўня 1920 г. быў забіты старшыня Ландвараўскага рэўкома — Марозаў[8]. Рэпатрыянты з тэрыторыі, якая адыходзіла да Літвы, скардзіліся на тое, што ўлады абіраюць іх перад перасячэннем мяжы, зневажаюць і абражаюць як словамі, так і дзеяннямі. Вельмі ж хацелася літоўцам хутчэй умацавацца на гэтай тэрыторыі. Дзеля гэтай мэты яны не спыняліся ні перад чым.

Нельга думаць, што іх чакалі на гэтай тэрыторыі: яны прыходзілі сюды як акупанты, якіх не жадае насельніцтва. Таму былі патрэбны пэўныя захады. Так, яшчэ 10 верасня літоўскі камендант аддаў загад, якім забараняліся мітынг і сходы. Каб неяк улагодзіць апазіцыю, па яго ж распараджэнню быў арганізаваны часовы магістрат, у які ўваходзілі тры палякі, два яўрэі, адзін беларус і два літоўцы. Прэзідэнтам магістрата быў назначаны літовец[9].

Але хіба можна было падпарадкаваць загадамі ўсю тэрыторыю ды яшчэ пракантраляваць іхняе выкананне?! Можа, таму ў пачатку верасня ў Ашмянах адбылася беспартыйная сялянская канферэнцыя, на якой прысутнічала 240 дэлегатаў ад 22 валасцей. На ёй была адобрана рэзалюцыя ў падтрымку Савецкай улады і аб далучэнні да Савецкай Беларусі[10]. Аналагічнае рашэнне было прынята і на агульным сходзе прадстаўнікоў Беліцкай воласці Ашмянскага павету. У ім гаварылася, што насельніцтва пратэстуе супраць далучэння воласці, населенай выключна беларусамі, да буржуазнай Літвы. Сяляне патрабавалі далучэння іх да Савецкай Беларусі[11].

А ці было каму пачуць гэтыя рашэнні, убачыць гэтыя рэзалюцыі? Беларусь рэзалі на часткі, а «Звязда» — орган ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі — пісала, суцяшаючы сваіх чытачоў: «Часткі Лідскага і Ашмянскага паветаў, адыходзячыя ад Літвы па мірнаму дагавору, будуць далучаны да суседніх паветаў С.С.Р.Б»[12]. Усё паставілі з ног на галаву! Быццам бы Беларусь не страчвала, а дзякуючы Расійска-Літоўскаму дагавору нават набывала нейкія чужыя землі!

Вельмі арыгінальна тая ж газета, выказваючы афіцыйную думку Масквы, каменціравала матывы перадачы нашых зямель: «Российская советская республика... полагала, что Литовская республика должна располагать теми землями, которые населены литовцами **или хозяйственно связаны с Литвой**»[13] (выдзелена мной. — *А. Ц.*). Своеасаблівае меркаванне. Чаму ж яны не ўлічылі, што Літва, за царскім часам, была звязана і з агульнарасійскім рынкам. Але вось не прапанавалі ж ім частку, скажам, Тамбоўшчыны ці Сімбірскай губерні. Чаму «вялікі брат», падпісваючы гэты дагавор, не згадаў аб беларусах? Ці ім ён адводзіў ролю пятай калоны? Па даных прафесараў Ягелонскага універсітэта Крыжаноўскага і Куманецкага, у тых паветах, якія былі прапанаваны Расіяй Літве, бясспрэчную большасць складала менавіта беларускае насельніцтва[14].

Яны пакідалі іх наўмысна, бо сімпатыі да Савецкай Беларусі падняволеных братоў у Літве спрыялі б рэвалюцыянізацыі насельніцтва. А гэта — добрая падстава для наступнага ўмяшання ва ўнутраную палітыку Літвы. Нездарма ж у заяве кампартыі ЛітБела было сказана, што Чырвоная армія вяртаецца, а кампартыя застаецца[15]. Праўда, памянуты рэцэпт не спрацаваў у Літве, але ён добра працаваў у Польшчы да 1939 г., якая пазней анексіравала гэтыя землі. Сквапнасць літоўскіх улад прыводзіла да неабачлівых рашэнняў, дазваляла Маскве на акупіраваных тэрыторыях метадам прымусова-пагаджальнай палітыкі змешваць розныя этнасы, ствараючы падмурак для міжнацыянальных канфліктаў і забяспечваючы сабе месца вярхоўнага суддзі.

Тая ж аперацыя была праведзена праз месяц (11 жніўня 1920 г.), калі тры паветы — Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі, часткова заселеныя беларусамі, — былі перададзены Латвіі. У дагаворы, падпісаным з рускага боку А. Іофе, Я. Ганецкім, а з латышскага І. Весманам, П. Бергісам, А. Бушэвічам, Э. Кальніным і К. Паўлукам, гаварылася, што дзяржаўная мяжа з РСФСР ідзе па «граніцы Люцынскага, Рэжыцкага і Дзвінскага ўездаў з Апочацкім, Себежскім і Дрысенскім да Падзіна на р. Асуніца, далей праз воз. Белае, воз.




Карта падзелу беларускіх зямель у адпаведнасці з Літоўска-Маскоўскім дагаворам.

Чорнае.., далей да вусця рэчкі, што ўпадае ў Заходнюю Дзвіну паміж Коськаўцамі, фальваркам і вёскай Новае Сяло, далей да фальварка Шафранаў». І, нарэшце, развітальны падарунак — «У залік каштоўнасцей, якія маюць быць вернуты Расіяй Латвіі, выплачана авансам чатыры мільёны рублёў золатам»[16]. Як адзначаў кіраўнік Расійскай дэлегацыі А. Іофе, заключэннем міра з Латвіяй Савецкая Расія набыла ўжо не фортачку, а шырокія дзверы ў Еўропу, у выглядзе выдатных латышскіх портаў — Лібавы і Віндавы, праз якія яна можа ўвозіць і вывозіць свае тавары»[17]. У другім месцы той жа А. Іофе адзначаў, што «прыгнечаныя народы і дзяржавы яшчэ раз на справе пераканаліся, што адзіным іхнім абаронцам і выратавальнікам з'яўляецца Рабоча-Сялянская Расія. У гэтым ґалоўнае значэнне руска-латвійскага пакту»[18]. Такім чынам Расія набыла дзверы ў Еўропу.

А беларусы, што яны? Яны зноў страцілі, каб іншыя маглі набыць. Ад іхняй зямлі «добры» дзядзька Іофе з блаславення Крамля адрэзаў кавалак і аддаў, як і Віленшчыну, разам з насельніцтвам на закланне, на асіміляцыю.

Але аб'ектыўны ход падзей крыху скарэкціраваў іофаўскія дагаворы. У пачатку кастрычніка 1920 г. вайсковыя часці, сфарміраваныя з ураджэнцаў Віленшчыны, пад камандай генерала Л. Жэлігоўскага выбілі (9 кастрычніка) з Вільні літоўскія ўлады. Толькі ў час апошняй — шырвінсцка-гедройскай — аперацыі ў войску Жэлігоўскага было




Карта падзелу беларускіх зямель у адпаведнасці з Латышска-Маскоўскім дагаворам.

52 тыс. салдат і 12 тыс. коней. Урад Літвы уцёк у Шаўлі (Шаўляй).

29 лістапада пад кантролем вайсковай камісіі Лігі Нацый паміж прадстаўнікамі генерала Жэлігоўскага і літоўскім буржуазным урадам было падпісана перамір'е. Этнаграфічная Літва (Жмудзь) і Віленшчына былі размежаваны дэмаркацыйнай лініяй. Каб надаць легітымнасць набыцця Віленшчыны, Жэлігоўскі прапанаваў правесці плебісцыт. Умовы яго былі наступныя — войскі Польшчы і Літвы выводзяцца поўнасцю, войскі Жэлігоўскага, у выпадку іх раззбраення, прымаюць удзел у галасаванні або выводзяцца з «Цэнтральнай Літвы» узброенымі. Адміністрацыя польская і літоўская застаецца, але калі яна будзе неаб'ектыўнай (весці прапаганду ў свой бок), тады яна распускаецца Лігай Нацый. Форма аб'яднання Віленшчыны з Польшчай не прадугледжваецца. Гэта магла быць федэрацыя — па жаданню насельніцтва. (Апошні пункт вельмі цікавы. Прыкладна як у праекце саюзнага дагавора прапанавалася — Саюз суверэнных дзяржаў. А з другога боку — Федэратыўнае падпарадкаванне).

Газета «Звезда» 23 снежня 1920 г. паведамляла: «Сярод беларускіх нацыяналістаў... няма прыхільнікаў плебісцыту ні на карысць Польшчы, ні на карысць Літвы. Нацыяналісты хацелі б бачыць Вільню ў тэрыторыі жаданай імі буржуазнай Беларусі». Што ж, жаданне натуральнае.

Спрэчкі аб плебісцыце па віленскаму пытанню працягваліся яшчэ некалькі месяцаў. Літоўцы падавалі адну заяву за другой, у якіх настойвалі, што не згодны на правядзенне плебісцыту ў Вільні. Яны ўпарта сцвярджалі, што Вільня павінна быць, безумоўна, сталіцай Літвы, але ніяк не дапускалі плебісцыт на тэрыторыі, якая знаходзілася пад кантролем Жэлігоўскага, на захад ад Аран.

Для назірання за плебісцытам Ліга Нацый прыслала камісію пад старшынствам палкоўніка Шардзіні. Апошні адхіліў патрабаванні Літвы і вызначыў плебісцытную тэрыторыю ад лініі Дзвіна—Вільня. І тады Тарыба адмовілася ад удзелу ў галасаванні[19].

У рэшце рэшт Жэлігоўскі вымушаны быў аб'явіць выбары ў мясцовы Сойм на тэрыторыі Сярэдняй Літвы, якая ўключала ў сябе паветы Віленскі, Троцкі, Свянцянскі, Лідскі, Ашмянскі і Браслаўскі. Як бачым, усе яны знаходзяцца па наш бок этнаграфічнай мяжы. У гэты час пачынаецца наступленне з боку ўлад Сярэдняй Літвы на праявы беларускай культуры і самавызнання. Беларускія школы ліквідуюцца, закрываюцца нацыянальныя газеты і часопісы. Па ўсяму фронту ідзе барацьба з культурай і адукацыяй мас. У адказ беларускія інтэлігенцкія колы пачалі працаваць вельмі актыўна, патрабуючы аграрнай рэформы[20]. Мясцовыя беларусы сталі на бок Літвы (з двух бед выбіраюць меншую). У барацьбе супраць урада Жэлігоўскага іх падтрымалі і яўрэйскія колы. У рэшце рэшт гэта прывяло да таго, што замест плебісцыту Польшча пагадзілася на міжнародны арбітраж.

Чаму змяніліся настроі ў большай часткі насельніцтва Сярэдняй Літвы? Адказ тут такі — адміністрацыя Жэлігоўскага на падкантрольнай яму тэрыторыі (як і на астатняй, што апынулася пад Польшчай) вылучалася антысемітызмам, а гэта адштурхнула яўрэяў. Апошніх тут было шмат з-за даўнейшых, яшчэ царскіх абмежаванняў (рыса аселасці). Што ж датычыць беларусаў, дык польскі шавінізм вымушаў іх абараняць сваю ўласную годнасць і свае правы на нацыянальнае існаванне.

У чэрвені 1921 г. па Віленскаму пытанню была створана міжнародная падкамісія, якую ўзначаліў Гюмансо. У саставе літоўскай (ковенскай) дэлегацыі ад імя беларусаў выступаў Цвікевіч, які заявіў аб жаданні віленскіх і гродзенскіх беларусаў далучыцца да Літвы.

У гэтым была пэўная рацыя: беларускае насельніцтва гэтых рэгіёнаў перавышала ўласна літоўскае, нават разам з Тарыбаўскай Літвой. Пабудаванае на дэмакратычных прынцыпах, такое аб'яднанне дзвюх нацый магло быць жыццяздольным і гарантавала б абарону ад хцівых суседзяў як з усходу, так і з захаду. Але гэта не вельмі падабалася Тарыбе, якая «імкнулася ў карысных мэтах выкарыстаць беларускі нацыяналізм, дакладней, ягоныя няўдачы, звязаныя з стварэннем беларускай буржуазнай дзяржавы»[21].

Без дакораў сумлення яны нават спрабавалі гандляваць тэрыторыяй свайго саюзніка, які апынуўся ў больш складанай сітуацыі. У спрэчках аб Вільні яны прапанавалі польскаму боку сваё поўнае адмаўленне ад Гродні (быццам бы яна ім належала!) у абмен на згоду палякаў аддаць ім Вільню[22].

Міжнародная падкамісія Гюмансо ў Брусэлі пацвердзіла «правы» Польшчы на Вільню, але прапанавала стварыць Польска-Літоўскі саюз і звязаць федэратыўную Літву з Польшчай. Прапаноўвалася прыняць меры да палітычнай стабілізацыі і абароны палітычных правоў польскага і літоўскага насельніцтва на Віленшчыне, а таксама тых палякаў, што жывуць на Ковеншчыне[23]. Пра карэннае ж насельніцтва Віленшчыны, пра беларусаў, зноў «забыліся»!

Спрачаючыся аб Вільні, Тарыба «касіла вокам» і на Балтыйскае ўзбярэжжа — Мемельшчыну, якая на працягу амаль сямісот гадоў уваходзіла ў склад Усходняй Прусіі. Вядомая справа, апошні чалавек, які ведаў прускую мову, памёр у канцы XVIII ст. На той падставе, што пруская мова таксама належала да балцкіх моў, літоўскія ідэолагі мусіравалі тэзіс аб блізкасці паміж імі і старажытнымі прусамі. У выніку паражэння Германіі ў першай сусветнай вайне апошняя страціла Мемельшчыну, якая апынулася пад міжнародным кантролем і апекай Францыі. Нават не выказаўшы спачування той дзяржаве, якая хоць і не вельмі ахвотна, але зрабіла сёе-тое для прызнання Літвы ў якасці суверэннай дзяржавы, літоўцы пачалі рабіць закіды і ў гэты бок.

Міжнародная апінія ў дачыненні да Літоўскай дзяржавы была неаднолькавай. Англія, Бельгія больш-менш добразычліва ставіліся да нованароджанага дзіцяці. Французскі ўрад разглядаў Польшчу як заслону супраць бальшавізму. Літва ж, наадварот, бачылася парыжскім уладам камуністычным фарпостам.

Жадаючы зрабіць з Літвы больш надзейнага партнёра, яны і разыгралі мемельскую карту. Францыя заявіла, што будзе задаволена, калі Польшча адмовіцца ад прэтэнзій на Мемель, а Літва атрымае яго ў абмен на Вільню.

Віленскае пытанне перастала існаваць пасля рашэння Часовага Сойма Цэнтральнай (Сярэдняй) Літвы, якое было праведзена ўладамі Жэлігоўскага.




Дэмаркацыйная лінія, або мяжа савецка-фашысцкіх інтарэсаў ва Усходняй Еўропе (з газеты «Звязда». № 226, 1939 г.).

запрашэнне. Прыехаў у Сопат, пачакаў у калідоры, але прыняты не быў. Ды і прымаць яго ўжо не было каму, бо ў гэты ж дзень, 22 верасня, Рыбентропа ўрачыста сустракалі ў Маскве. Там і было падпісана Савецка-Германскае камюніке аб дэмаркацыйнай лініі паміж фашысцкай і савецкай арміямі. А Шкірпа з чым прыехаў у Сопат, з тым і вярнуўся ў Берлін. Матывы запрашэння так і засталіся невядомыя.

Безумоўна, германскі ўрад хацеў звузіць сферу ўплыву СССР у Прыбалтыцы. Так бы яно і атрымалася, калі б літоўцы атрымалі Вільню з гітлераўскай падачы. Яны ж, напалоханыя стратай Мемеля і жадаючы зберагчы палітычную цноту, праінфармавалі Крэмль аб будучай сустрэчы. Такая неабачлівасць з боку Літвы паўплывала на ход перагавораў 22—28 верасня паміж Берлінам і Масквой. У выніку быў падпісаны Савецка-Германскі дагавор аб сяброўстве і ўстанаўленні агульнай граніцы. У адпаведнасці з ім, дзяржаўная мяжа праходзіла ўздоўж так званай «Лініі Керзона», якая была прапанавана краінамі Антанты яшчэ ў 1919 г. у якасці ўсходняй мяжы Польшчы. Гэта была этнічная мяжа паміж палякамі, беларусамі і ўкраінцамі. Што датычыць літоўцаў, дык яны атрымалі Вільню, але з рук іншага дыктатара — Сталіна. Усе зацікаўленыя бакі разважалі аб нацыянальным вызваленні, аб свабодзе. Толькі гэта была звычайная палітычная дэмагогія, бо адны бачылі «Вялікую Літву», а другія прыспешвалі набліжэнне сусветнага сацыялізму.

Вільня заставалася цэнтрам культурнага жыцця беларусаў нават тады, калі, адпаведна з умовамі Рыжскага міру (1921 г.), яна разам з Заходняй Беларуссю апынулася ў складзе буржуазнай Польшчы. Газеты Савецкай Беларусі ўвесь міжваенны перыяд называлі Вільню сэрцам Заходняй Беларусі. Не віна, а бяда жыхароў Віленшчыны, што яны апынуліся па-за межамі гісторыка-этнаграфічнай

тэрыторыі Беларусі. Суседнія дзяржавы вырашалі свае спрэчкі за іх кошт. Так адбывалася ў 1920—1921 гг., па гэтаму ж сцэнарыю дзейнічалі ў 1939 і 1940 гг.

Пачатак другой сусветнай вайны супаў з вызваленчым паходам Чырвонай Арміі на землі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Якія б сёння ні ўсплывалі меркаванні, але адмаўляць пазітыўнае значэнне гэтай падзеі наўрад ці хто зможа. Народ вітаў Чырвоную Армію-вызваліцельніцу, звязваў з яе прыходам надзеі на лепшую будучыню, глядзеў на яе як на гаранта міру ў час сусветнага пажару... Вядома, большая частка насельніцтва не здагадвалася аб тых жахах сталінізму, пад якімі жылі іхнія адзінакроўныя браты. Тым не менш уз'яднанне гвалтоўна раз'яднаных частак народа было з'явай прагрэсіўнай. Але, прыкрываючыся святымі лозунгамі, сталінізм задавальняў свае імперскія памкненні.

Пагартаем зводкі Генштаба Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміи. Першая паведамляе, што з раніцы 17 верасня войскі РСЧА перайшлі граніцу па ўсёй Заходняй лініі ад ракі Заходняя Дзвіна (нашая мяжа з Латвіяй) да ракі Днестр (мяжа СССР з Румыніяй). На поўначы — у Заходняй Беларусі — вызвалілі м. Глыбокае, ст. Парафіянава, авалодалі чыгуначным вузлом Маладзечна і м. Валожын.

На баранавіцкім напрамку фарсіравана р. Нёман і заняты м. Карэлічы, м. Мір, Паланечка, чыгуначны вузел Баранавічы і Сноў.

Апусцім падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі Заходняй Украіны...

Зводка заканчваецца: «Население встречает повсеместно части Красной Армии с ликованием»[27].

Наступная. На працягу 18 верасня войскамі Чырвонай Арміі былі заняты: на поўначы — у Заходняй Беларусі — г. Свянцяны, чыгуначны вузел Ліда, г. Навагрудак, Орля (над р. Нёман), гарады Слонім, Ваўкавыск і чыгуначная станцыя Яглевічы (на чыгуначнай лініі Мінск—Брэст—Літоўск)...

Перадавыя калоны Чырвонай Арміі наблізіліся да Львова і Вільні.

У чарговай зводцы, ад 19 верасня, паведамлялася: «На поўначы — у Заходняй Беларусі — пасля двухгадзіннага бою нашы войскі занялі г. Вільню, м. Вялікая Берастовіца (50 км. ад Беластока), г. Пружаны, г. Кобрын (40 км. на паўднёвы ўсход ад Брэст-Літоўска).

У пазнейшых паведамленнях па Заходняй Беларусі адзначаецца, што 20 верасня быў вызвалены г. Гродна; 21 — у 19 гадзін — Пінск; 22 — Беласток і крэпасць Брэст-Літоўск. Пасля выхаду на дэмаркацыйную лінію (23 верасня) былі заняты гарады — Сейны, Аўгустаў, Кнышын, Бранск, Расна, Пясчатка. 25 верасня — Сувалкі, Ганіодзь. Апошняя зводка з'явілася ў газетах 29 верасня 1939 г. Такім чынам, войскі Чырвонай Арміі фактычна размясціліся амаль па так званай «лініі Керзана», якая адпавядала размеркаванню этнічных груп на гэтай тэрыторыі.

Пасля вызвалення Вільні ў 1939 г. было створана часовае ўпраўленне, якое ўзначаліў прадстаўнік вайсковых улад Жылянін. У горадзе прымаліся тэрміновыя меры для ліквідацыі няроўнасці ў адукацыі — было створана некалькі беларускіх школ. У існаваўшую раней Беларускую гімназію паступіла 500 заяў ад жадаючых вучыцца ў ёй. Адначасова пры гэтай гімназіі былі створаны курсы для настаўнікаў беларускай мовы ў вясковых школах. Рыхтаваліся ўмовы для хутчэйшага з'яўлення беларускай, яўрэйскай і рускай тэатральных труп. Віншавальную тэлеграму атрымала 3 кастрычніка ад нацыянальнай газеты «Ороты правда», што выходзіла на Калыме, толькі што створаная «Віленская праўда». У тэлеграме гаварылася: «Калектыву рэдакцыі «Віленская праўда» і ўсім чытачам маладой брацкай газеты, вызваленым ад векавечнага гнёту польскіх паноў, ад гэтага часу — свабоднаму, шчасліваму народу шлём мы брацкае бальшавіцкае прывітанне з далёкага Прыпаляр'я савецкай Калымы... Будаўнікі далёкай Поўначы з захапленнем і радасцю слухаюць па радыё дарагія весткі аб першых рэвалюцыйных мерапрыемствах брацкіх народаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Горача паціскаем вам рукі і жадаем паспяхова змагацца на карысць беларускага народа ў дружнай сям'і народаў СССР. Няхай жыве Беларусь!»[28]

У газетах даюцца кароткія нарысы аб гарадах, якія знаходзіліся на вызваленай тэрыторыі. Аб Вільні пісалася, напрыклад, што горад пасля адлучэння зямель Заходняй Беларусі прыйшоў у заняпад.

Тымі ж днямі (кастрычнік 1939 г.) у Маскву зрабілі бліц-візіт міністр замежных спраў Літвы Ю. Урбшыс, надзвычайны пасланец і паўнамоцны міністр Літвы Наткевічус. Разам з імі ў Маскву прыбылі ўпаўнаважаныя ў справах СССР у Літве Н. Пазнякоў і іншыя. Пасля сустрэчы ў аэрапорце адбылася двухгадзінная гутарка, якую вёў з прыбыўшымі Молатаў. Акрамя памянёных асоб на ёй прысутнічалі Сталін і Пацёмкін. Пры асвятленні гэтай падзеі літоўскія газеты «націскалі» ў сваіх перадавіцах на факты прыяцельскіх, дружалюбных зносін паміж СССР і Літвой, нагадвалі дагаворы 1920 і 1926 гг. Між іншым, абодва яны былі заключаны і падпісаны без удзелу БССР, хоць у іх прадугледжвалася перадача Літве часткі тэрыторый Гродзеншчыны. Гэтыя дагаворы, арыентаваныя на стварэнне прыяцельскіх зносін паміж СССР і Літвой, нацкоўвалі Літву супраць Польшчы. У той жа час ні Польшча, ні Літва нават не пацікавіліся думкай беларусаў, хоць гэтыя здзелкі рабіліся якраз за кошт іхняй гісторыка-этнаграфічнай тэрыторыі. Менавіта газеты Літвы маглі паведаміць чытачам, аб чым вялася размова ў час «бліц-візіту». Але займацца палітычнымі прагнозамі ў атмасферы страху проста не было каму. Тым больш, што савецкая прэса толькі канстатавала факт, не даючы ніякай іншай інфармацыі.

На вызваленых землях наладжвалася новае жыццё. Узмацняліся эканамічныя і культурныя сувязі, пасылалася рознабаковая дапамога. Са сталіцы БССР была ўстаноўлена авіяпаштовая сувязь з гарадамі Заходняй Беларусі — Гродна, Вільняй, Брэст-Літоўскам, Кобрынам. Народ рыхтаваўся да выбараў дэпутатаў у Народны Сход Заходняй Беларусі. Праходзілі мітынгі, дэманстрацыі.

Вось урывак з рэзалюцыі мітынгу, які адбыўся ў Эйшышках (зараз Эйшышкес — Літоўская Рэспубліка): «20 год народы Заходняй Беларусі... былі прымусова аддзелены ад сваіх адзінакроўных братоў — народаў Савецкай Беларусі... Мы за тое, каб




**Сталінскі падарунак Літве, або вынік пакта Молатава-Рыбентропа, які «забыліся» апратэставаць дэпутаты Літоўскай Рэспублікі на II З'ездзе народных дэпутатаў СССР.**

вобласці Заходняй Беларусі ўвайшлі ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі...».

Падобныя рэзалюцыі былі прыняты і ў іншых заходнебеларускіх гарадах — Свянцянах (зараз Швянчоніс — Літоўская Рэспубліка), Баранавічах, Лідзе, Беластоку, Гродна. Але найбольш грандыёзны ва ўсёй Заходняй Беларусі мітынг адбыўся ў Вільні. На Лукішскай плошчы горада сабралася звыш 75 тысяч чалавек (тагачаснае насельніцтва Вільні — 250 тысяч чалавек). На ім была прынята рэзалюцыя, дзе гаварылася: «Трудящиеся города Вильно, как и все трудящиеся Западной Белоруссии, голосуют за Советскую власть, за присоединение Западной Белоруссии к Советскому Союзу, единодушно поддерживают обращение Временного управления города Белостока». Нагадаем чытачу, што ўпамянуты зварот ад 6.X.1939 г. гаварыў аб неабходнасці дамагацца ўваходу Заходняй Беларусі ў склад БССР.

У гэты ж дзень, 7 кастрычніка, у Маскву зноў прыбыла літоўская дэлегацыя, на гэты раз ужо на больш працяглы тэрмін і ў пашыраным складзе. Акрамя ўпамянутых вышэй асоб прыбылі намеснік старшыні Савета Міністраў К. Бізаўскас, камандуючы літоўскай арміяй С. Рашцікіс, дырэктар эканамічнага дэпартамента І. Баркайцic і некалькі экспертаў. Дэлегацыя была ўрачыста сустрэта намеснікам наркома замежных спраў СССР С. Лазоўскім і яшчэ дзесяццю афіцыйнымі асобамі. Рухавік перагавораў закруціўся. Забаўляючыся геапалітычнымі амбіцыямі літоўскай буржуазіі, сталінскае кіраўніцтва разам з літоўскім урадам зрабіла гешэфт за кошт этнічнай тэрыторыі беларусаў. 10 кастрычніка 1939 года паміж Масквой і Каўнасам быў заключаны «Дагавор аб передачы горада Вільні і Віленскай вобласці і аб узаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам і Літвой». Яго падпісалі Старшыня Савета Народных Камісараў, народны камісар замежных спраў, упаўнаважаны Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Молатаў і міністр замежных спраў, упаўнаважаны Прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі Урбшыс.

Вось першы артыкул гэтага дагавора: «У мэтах замацавання дружбы паміж СССР і Літвой горад Вільня і Віленская вобласць перадаюцца Савецкім Саюзам Літоўскай Рэспубліцы з уключэннем іх у састаў дзяржаўнай тэрыторыі і ўстанаўленнем граніц паміж СССР і Літоўскай Рэспублікай згодна з прыкладзенай картай; прычым больш падрабязна гэта граніца будзе апісана ў дадатковым пратаколе».

Наступныя артыкулы прадугледжвалі пропуск савецкіх войск праз літоўскую тэрыторыю, дапамогу на льготных умовах узбраеннем і іншымі вайсковымі матэрыяламі літоўскай арміі, няўдзел у кааліцыях, накіраваных супраць аднаго з бакоў. Артыкул чацвёрты дазваляў трымаць абмежаваны кантынгент савецкіх наземных і паветраных сіл.

Па іроніі гісторыі газета «Звязда» (№ 234 ад 10 кастрычніка 1939 г.) у дзень падпісання савецка-літоўскага дагавора надрукавала дзве карэспандэнцыі з Вільні. Першая аб тым, як працоўныя




*Ключи от Финского и Рижского заливов находятся в крепких руках Красной армии, Красного флота.*
*1 — граница СССР, 2 — территория, переданная Советским Союзом Литве (Виленская область), 3 — границы европейских государств, 4 — база береговой артиллерии СССР в Латвии, 5 — базы военно-морского флота и авиации Советского Союза в Эстонии, Латвии и Финляндии.*

Савецкія інтарэсы ў Прыбалтыцы.

горада рыхтуюцца да выбараў дэпутатаў у Народны Сход Заходняй Беларусі. Другая — пад аптымістычнай назвай «Народ — гаспадар свайго лёсу». Вось так, росчыркам двух алоўкаў, лёс народа Віленшчыны быў перакрэслены.

11 кастрычніка В. Молатаў «накрыў стол» у гонар Ю. Урбшыса. З найбольш адыёзных постацей мінулага там прысутнічалі І. Сталін, К. Варашылаў, А. Мікаян, М. Калінін, Л. Кагановіч, А. Жданаў, М. Булганін. Ад БССР прадстаўнікі запрошаны не былі. Як пісала прэса, «абед прайшоў у цёплай і дружалюбнай атмасферы».

Можна ўявіць гэту атмасферу: члены літоўскай дэлегацыі задаволена паціраюць рукі і паляпваюць адзін аднаго па плячы, а за імі, хаваючы «ласкавую» ўсмешку ў вус, назірае «бацька ўсіх народаў».

Заключаны дагавор быў скрынкай з двайным дном — адны атрымалі тое, што не было іхнім, другім было ўсё роўна, у якую «кішэню» — літоўскую ці беларускую — «пакласці» Віленшчыну. Агульны кацёл быў ужо падрыхтаваны, а вогнішча распалена. Цікавую, з падтэкстам, адзнаку дала падпісанню дагавора гітлераўская «Дойчэ альгемайнэ цайтунг». Яна падкрэсліла, што «далучэнне Вільні да Літвы з'яўляецца абсалютна лагічным вынікам савецкай палітыкі ва Ўсходняй Еўропе».

Дапусціць, што каманда Сталіна не ведала аб тым, хто жыве на Віленшчыне, — немагчыма. Молатаў у дакладзе аб знешняй палітыцы СССР гаварыў: «Савецкі Саюз пайшоў на перадачу Вільні Літоўскай Рэспубліцы не таму, што ў ім пераважае літоўскае насельніцтва. Не, у Вільні большасць складае нелітоўскае насельніцтва. Але Савецкі ўрад лічыўся з тым, што горад Вільня, які Польшчай быў насільна «адлучаны», павінен належаць Літве, як такі горад, з якім звязана, з аднаго боку, гістарычнае мінулае Літоўскай дзяржавы, а з другога, спадзяванні літоўскага народа». Быццам бы з гісторыяй Беларусі і спадзяваннямі яе жыхароў, асабліва Заходняй Беларусі, Віленшчыны, горад і яго гісторыя ніяк не былі звязаны. А ўсё тлумачыцца проста. Патрэбна была «смачная нажыўка», і яна была праглынута тымі, каго праглынулі ў наступным, 1940 годзе...

А цяпер вернемся ў Каўнас — сталіцу Літоўскай Рэспублікі. 12 кастрычніка ў горадзе адбылася дэманстрацыя, на якой выступіў прэзідэнт Сметона. Ён падкрэсліў, што адносіны паміж Літвой і СССР былі заўсёды дружалюбныя і ў далейшым гэтая дружба ўмацуецца, што «атрыманне Вільні з'яўляецца вялікай радасцю літоўскага народа». Літоўскі пісьменнік Пятрас Цвірка зрабіў заяву для ТАСС, дзе выказвалася «глыбокая падзяка ад імя прагрэсіўных літоўскіх пісьменнікаў Савецкаму Саюзу і яго правадырам — Вялікаму І. Сталіну, В. Молатаву, К. Варашылаву!». Міністр замежных спраў Літвы Ю. Урбшыс накіраваў Молатаву пяшчотную тэлеграму са словамі ўдзячнасці і ў гэты ж дзень атрымаў «дружалюбны» адказ. Неўзабаве дагавор паміж Масквой і Каўнасам быў ратыфікаваны.

15 кастрычніка, раніцай, прадстаўнікі ўрада Літвы выехалі ў Вільню для «прыняцця спраў» ад савецкага камандавання і адміністрацыі. А 27 кастрычніка літоўская армія ўступіла ў Віленскую вобласць. Наступным днём так званы «віленскі корпус» пад камандаваннем генерала Віткаўскаса ўвайшоў у горад. У 16 гадзін таго ж дня была распачата перадача ахоўваемых савецкімі войскамі дзяржаўных аб'ектаў — тэлеграфа, тэлефоннай станцыі, мастоў і г.д.

Як паведамляла ТАСС, 29 кастрычніка 1939 г. у Вільні адбылася ўрачыстая цырымонія ўзняцця літоўскага флага на гары Гедыміна. Перад публікай у гарадскім садзе выступіў генерал Віткаўскас. Ён адзначыў «радасць літоўскага народа ў сувязі з **далучэннем** (выдзелена намі — *А. Ц.*) Вільні да Літвы».

А публіка? А народ Віленшчыны? Яны маўчалі. Бязмерная радасць у сувязі з вызваленчым паходам Чырвонай Арміі, уздым нацыянальных пачуццяў, імкненне аб'яднацца ў адзіную сям'ю пасля 20-гадовага штучнага размежавання — шчырыя жаданні, спадзяванні, памкненні і пачуцці людзей — усё, як калісьці, як у 1920—1921 гг., было растаптана і прынесена ў ахвяру імперскай палітыцы двух дзяржаў.

А Літва? «Літва, — згадваў Ю. Палецкіс, — перажывала «мядовыя месяцы» ўз'яднання з Вільнюсам, але **горкім** быў гэты вільнюскі мёд (выдзелена намі — *А. Ц.*). Урад не спяшаўся пераязджаць з Каўнаса... А вось войскі і паліцыя з'явіліся вельмі хуценька. У горадзе было неспакойна. Шавіністычна настроены польскі натоўп стаў чыніць дэманстрацыі, антылітоўскія і антысеміцкія эксцэсы[29].

Узнікае пытанне, чаму ж не здаралася такога раней. Той самы Ю. Палецкіс піша далей: «Аб становішчы ў Вільнюсе было вядома тое, што

край, які страціла ў 1939 г. Але зноў набыла яго, дзякуючы крыві, пралітай войскамі Савецкай Арміі ў 1945 г.

У кастрычніку 1939 г. са сталінскай падачы атрымала «сэрца Заходняй Беларусі» — Вільню. Гэты ж падзел быў пацверджаны ў 1941 г. гітлераўскім фашызмам.

У верасні — лістападзе 1940 г., зноў з той жа падачы, Літва набыла яшчэ каля 2 ты квадратных кіламетраў беларускіх зямель.

Больш сціплыя «дасягненні» былі ў Латвіі, яка акрамя згаданай часткі Курляндскай губерні атры мала ў жніўні 1920 г. частку беларускіх зя мель — Дзвінскі, Люцынскі і Рэжыцкі паветы.

Такой была дынаміка тэрытарыяльных зме якія адбываліся на паўночных ускраінах Беларусі.

# РЫЖСКІ ГЕШЭФТ

Набытая бальшавікамі практыка заключэння двухбаковых дагавораў — за кошт беларускіх зямель — дасягнула свайго трагічнага апагею 17 сакавіка 1921 г.

Дзеі гэтай трагедыі разгортваліся на працягу амаль трох гадоў. Пасля лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі, скасавання ўмоў ганебнага Брэст-Літоўскага міру Беларусь зноў апынулася ў цэнтры ўвагі і хцівых памкненняў суседзяў — галоўным чынам Польшчы і Расіі.

Дзеяч польскага адраджэння Ю. Пілсудскі, марачы аб стварэнні незалежнай дэмакратычнай Польшчы, бачыў (не без падстаў) у Расіі небяспеку для свайго народа. Дзеля забеспячэння аховы ад бальшавіцкіх уплываў і ваеннай пагрозы ён прапанаваў стварыць федэрацыю ўскраінных дзяржаў. Вядома, Польшчы адводзілася роля ваеннага гегемона ў гэтым вайсковым хаўрусе.

Тым часам тэрыторыя, якая раней была занята кайзераўскімі жаўнерамі, пачала акупіравацца з Усходу чырвонаармейцамі, а з Захаду — польскімі легіянерамі. На 13 лютага 1919 г. была дасягнута пэўная раўнавага на лініі Панявеж — Слонім — Картуз - Бяроза — Янава (зараз Іванава — пад Пінскам) — Сарны—Оўруч.

Тэрмінова створаная па загаду з Масквы Літоўска-Беларуская Рэспубліка паспрабавала ўстанавіць дыпламатычныя кантакты. Але не атрымалася.

У выніку палітычных пагадненняў, на карысць краін Антанты, апошнія даравалі Пілсудскаму тое, што ён ваяваў на баку Германіі у час першай сусветнай вайны. Такім чынам, зніклі ўсе перашкоды на шляху стварэння палітычнага і ваеннага саюза паміж імі.

Узброеная за кошт Антанты польская армія вясной 1919 г. пачала адкрытае наступленне на тэрыторыю ЛітБела.

Пасля жорсткіх баёў 19—21 красавіка была захоплена Вільня. А ў пачатку чэрвеня лінія фронту выглядала так: Шаркаўшчына—Варапаева—воз. Нарач—ст.Залессе—левы бераг р. Беразіна—мяст. Валожын—Пяршай—Івянец—Камень—Налібокі—Калядзіна—Клецк—Ганцавічы—рэкі Ясельда і Прыпяць.

Перад польскімі войскамі ставілася задача дасягнуць межаў былой Рэчы Паспалітай. Маюцца на ўвазе межы перад першым падзелам ў 1772 г. Аднак не атрымалася, хаця ў канцы 1919 г. і былі дасягнуты значныя поспехі. Менавіта яны вымусілі СНК РСФСР звярнуцца 28 студзеня 1920 г. да польскага ўрада з паўторнай прапановай аб перагаворах. Першы захад быў зроблены яшчэ 22 снежня 1919 г. Тады ў звароце да Польшчы пацвярджалася прызнанне незалежнасці Польшчы даваліся гарантыі, што Чырвоная Армія не пера ступіць лінію Дрыса—Дзісна—Полацк—Барысаў— Парычы—ст.Пціч—Белакаровічы—мяст. Чуднаў—П лява. Але адказам на гэты зварот был наступленне польскай арміі ў Рэчыцкім напрамк На пачатку сакавіка імі былі заняты Мазы Калінкавічы, Оўруч. Чатыры контрнаступленні 16-а арміі бальшавікоў у сакавіку—маі 1920 г. з мэта авалодання Мазыршчынай не далі пажаданых вын каў. Але і для палякаў рубяжы сталі апошнімі н ўсходнім напрамку.

11 мая 1920 г. Чырвоная Армія пачала насту ленне уздоўж лініі Аляксандраўскай чыгункі, н поўначы Беларусі. Роўна праз два месяцы бы вызвалены Мінск, а яшчэ праз тры дні — папя рэдне падораная бальшавікамі літоўцам Вільня. Н 18 ліпеня 1920 г. лінія фронту праходзіла пра Баруны, Багданаў, Трабы, Слуцк. На наступн дзень была вызвалена Гародня. У якасці трафе ўзяты тры танкі, 32 гарматы (з якіх 1 буйнакаліберныя), звыш 100 кулямётаў, узята палон каля 5 тыс. чалавек. Пры набліжэнні д этнічных польскіх зямель супраціўленне войск Пілсудскага пачынае ўзмацняцца, а тэмпы прасоўвання Чырвонай Арміі на захад становяцца марудным.

У Дырэктыве Галоўнакамандуючага С. Каменева («№ 4344 (ОП)» ад 23 ліпеня 1920 г.) камандуючам Заходнім фронтам Тухачэўскаму загадваецца: «Н пазней 12 жніўня выйсці на лінію Прасныш—Нова-Георгіеўск, далей па р. Вісле на поўдзень да Нова-Александрыі ўключна, авалодаўшы пры гэтым горадам Варшавай»[1].

Яшчэ перад пачаткам наступлення на паўднёвым фронце (на Украіне) былы царскі генерал Брусілаў звярнуўся з адозвай да рускага афіцэрства. У ёй гаварылася, што польскае наступленне пагражае не толькі «расхищением России, но и полной гибелью»[2]. Думка настолькі своеасаблівая, наколькі і беспадстаўная: Польшча не прэтэндавала на расійскія землі. Непакоіцца мусілі якраз беларусы. Але імперскія думкі героя першай сусветнай вайны цалкам і поўнасцю адпавядалі бальшавіцкім настроям. Апошнія, праўда, гатовы былі ахвяравацц Беларуссю ці яе часткай, каб толькі самім утрымаць уладу. Цікавай аказалася ў гэтай сітуацыі і пазіцыя ўцекача — экс-галавы Часовага ўрада Расіі А. Керанскага. Даючы інтэрв'ю карэспандэнту «Газэты Варшаўскай» і гаворачы аб становішчы на Беларусі, ён сам сабе задаў пытанне «А можа, прымяніць на Беларусі плебісцыт?» Крыху падумаўшы, сам адказаў: «...не раю. Небяспэчная гэта рэч. Як на Беларусі, так і ва Усходняй Галіцыі»[3].

Карта-схема

Этнаграфічныя межы Беларусі па Я. Карскаму (1903 г.)

па М. Доўнар-Запольскаму (1919 г.)

па Я. Канчару (1919 г.)

межы БССР, вызначаныя пастановай І з'езда КП(б) Беларусі ад 30 снежня 1918 г.

тэрыторыя ССРБ на дадзеных на верасень 1920 г.

Тэрыторыя БССР на верасень 1920 г.

Інтэрв'ю у даным выпадку паказвае не што іншае, як вялікадзяржаўную сутнасць інтэрв'юера. Ён непакоіцца, як бы ў выніку свабоднага волевыяўлення народаў яны не выйшлі з-пад апякунства «старэйшага брата».

Не засталіся ўбаку і нацыянальныя сілы Беларусі, якія ў сваім звароце заявілі, што «бальшавік Троцкі і царскі генерал Брусілаў аб'ядналіся і шлюць маскоўскія банды на Беларусь»[4].

Польшча ў дачыненні да беларусаў займала палітыку лавіравання — ад пяшчотна-сяброўскага паляпвання па плячы да наўмыснага зневажання. Калі польскія войскі мелі ўнушальны поспех на франтах, урад, адпаведна, не шукаў падтрымкі ў стане беларускага войска. Калі ж становішча на фронце пачынала хістацца, а па Беларусі каціліся хвалі паўстанняў, тады з польскага боку гучала «спачуванне» нацыянальнаму адраджэнню. Каб затуманіць вочы беларускай грамадскасці ды набыць з яе боку падтрымку, пераканаць у сваіх сяброўскіх пачуццях, то, напрыклад, у час урачыстага прыёму з нагоды юбілею «начальніка паньства» Пілсудскага апошні «даў буську» Алексюку, першаму сярод запрошаных на ўрачыстасць. Такім чынам дэманстравалася ўсёй Еўропе яднанне беларускага і польскага народа[5]. Нядоўга працягвалася гэтае яднанне, бо, заключыўшы мірны дагавор з бальшавікамі, пілсудскія і постпілсудскія ўлады пачалі рабіць усё магчымае, каб выціснуць з беларусаў усё беларускае.

Але гэта было ўжо пазней, а ў тыя ліпеньскія дні Чырвоная Армія працягвала свой пераможны марш на Варшаву. Усе бальшавіцкія газеты публікуюць заклікі накшталт: «Польскага Врангеля не будзе. Мы мусім дабіць польскую буржуазію і вызваліць польскіх працоўных»[6].

Ды і задача здавалася не вельмі складанай. Па падліках нейкага Б. Данскога выходзіла, што «на дзесятак дарослага насельніцтва Польшчы прыходзілася шэсць рэвалюцыянераў, тры «колеблющихся» і адзін контррэвалюцыянер»[7]. Як пры такіх суадносінах сіл не працягнуць руку братэрскай дапамогі?!

Паспяховае наступленне бальшавікоў на Польшчу выклікала агульную занепакоенасць на Захадзе. Міністр замежных спраў Вялікабрытаніі лорд Керзан уручыў міністру замежных спраў РСФСР Красіну 12 чэрвеня 1920 г. ноту (народжаную ў нетрах Антанты). У ноце было патрабаванне, каб маскоўскія войскі не пераходзілі лінію Гродна—Ялоўка—Няміраў—Брэст-Літоўск—Крылоў...

Варта адзначыць, што памянутая лінія была згадана і пацверджана СССР 11 студзеня 1944 г., а потым прапанавана савецкімі ўладамі, з пэўнымі карэкцыямі на карысць палякаў, у якасці ўсходняй мяжы Польшчы. Гэта адбылося на Ялцінскай (Крымскай) канферэнцыі ў 1945 г. Але вернемся ў год 1920-ты. Нота Керзана была атрымана, але не

прымалася да ўвагі. Таму 4 жніўня старшыня англійскага ўрада Ллойд-Джорж запрасіў да сябе таго ж Красіна і заявіў апошняму, што калі савецкія войскі ўвойдуць у Варшаву, дык праз тры дні англійскі флот выйдзе ў мора[8]. У падтрымку польскага ўрада выказаліся і некаторыя іншыя дзяржавы Антанты.

Між тым у міжрэччы Заходняга Буга і Нарэва адступленне польскай арміі пачало набываць больш арганізаваны характар. Яны ўжо не ўцякалі, а з жорсткімі баямі адыходзілі на Захад, контратакуючы пры гэтым па ўсяму фронту.

Пераломам у савецка-польскай вайне пачаўся ў сярэдзіне жніўня 1920 г. Неўзабаве Чырвоная Армія пачала хуткімі тэмпамі аддаваць занятыя імі раней беларускія землі. На хвалі першых польскіх перамог і пачаліся 17 жніўня папярэднія перагаворы ў Мінску. Працягваючы наступальныя аперацыі, польскі бок прыслаў у Мінск даволі прадстаўнічую (84 чалавекі) дэлегацыю. І пачаліся гандаль ды спрэчкі за зямлю, якая не належала ні тым, ні другім.

Ужо на першым пасяджэнні Данішэўскі, які выступаў па даручэнню і ад імя расійска-ўкраінскай дэлегацыі, заявіў: «Мы прызнаём незалежнасць і суверэннасць польскай дзяржавы ў яе нацыянальных межах, больш шырокіх межах, чым гэта прызнана ў вядомай ноце лорда Керзана ад 11 ліпеня»[9]... Парадаксальна, але «імперыяліст» Керзан больш «непакоіўся» аб нацыянальных інтарэсах беларусаў, чым бальшавікі, якія з самага пачатку перагавораў пачалі жангліраваць «салодкай цукеркай» — чужымі землямі.

На другім пасяджэнні, якое адкрылася ў 2 гадзіны наступнага дня, былі агалошаны «Асноўныя палажэнні дагавору аб перамір'і і прэлімінарных умовах міру». Той жа Данішэўскі нагадаў аб абавязку ўласнай дэлегацыі перад «насельніцтвам разбураных абласцей Украіны, Беларусі і іншых абласцей, якія былі пад акупацыяй польскіх войск... і запатрабаваў кампенсацыі для іх. Цікава, што ў саміх «палажэннях» Беларусь як прававы суб'ект нават не згадвалася. Хаця ў пункце трэцім зноў жа гаварылася пра яе землі: «канчатковая мяжа Польскай рэспублікі ў асноўным супадае з лініяй, памечанай у ноце лорда Керзана... з адхіленнем на карысць Польскай рэспублікі на ўсход у раёне Беластока і Холма»[10].

Калі ж Польшча ўзняла пытанне аб Літве і Беларусі, Данішэўскі тут жа адзначыў, што ўсе народы маюць права на самавызначэнне. Пры гэтым падкрэсліў, што незалежнасць Літвы і Беларусі «была прызнана РСФСР яшчэ ў 1918 г.». Што датычыць пытання аб стварэнні часовага польскага ўрада... Па словах бальшавіцкай дэлегацыі выходзіла, што «ўзнік урад на тэрыторыі Польшчы па жаданню саміх працоўных мас...»[11]. Так гаварыў паўнамоцны прадстаўнік расійска-ўкраінскай дэлегацыі на пасяджэнні 24 жніўня 1920 г. А двумя тыднямі раней Дзям'ян Бедны, «выдаючы» стратэгію і тактыку бальшавікоў, пісаў:

...Смилга приехал в качестве члена
Реввоенсовета
Я — в качестве поэта...
...Оба едем через Вильню в Гродно
Из Гродно в Белосток
В Белостоке дадим свисток
И вслед за красными польскими повстанцами
(Мы при них, так сказать, «дружественными
иностранцами»)
Приедем в Варшаву по «Краковскому пшедместью»
Поедем в театр или какое там
помещение
Где состоится взаимное угощение:
Нам закатят речей двадцать приветственных
Да мы закатим речей двадцать
соответственных.
Измотаем речами себя и публику
за сим
провозгласим —
Польскую Социалистическую Республику!
... ... ... ... ... ...[12]

Не будзем прыводзіць далейшыя радкі верша, адзначым толькі, што наступныя этапы-прыпынкі бачацца «рупару бальшавізму» ў Нарвегіі, Ірландыі, Даніі і г.д. Цягнік рэвалюцыі, на шчасце, да гэтых краін не дацягнуў, але ў Беластоку «даў-такі свісток»...

Яшчэ 2 жніўня 1920 г. у гонар Часовага польскага Рэўкома ў Беларусі адбыўся мітынг. На ім ад імя Рэўкома выступіў старшыня Ю. Мархлеўскі, ад УЦВК — Палуян, ад іншых расійскіх устаноў — Скварцоў-Сцяпанаў, Тухачэўскі...

11 жніўня гэты ж Часовы Рэўком аддаў загад войскам Пілсудскага абраць Саветы салдацкіх дэпутатаў. Няма звестак аб ходзе выканання загаду, але, мяркуючы па выніках, ці быў наогул ён прыняты да ўвагі?

Як ужо пісалася, з 16 жніўня пачаўся імклівы адкат савецкіх войск. А 17 пачаліся папярэднія перагаворы, якія зайшлі ў тупік праз дзесяць дзён. Бальшавікі гулялі «ў правы нацый на самавызначэнне», а палякі націскалі на «гістарычныя правы...».

У ноч з 26 на 27 жніўня на экстраным пасяджэнні прэзідыумаў старшыня польскай дэлегацыі Домбскі заявіў дэлегатам Мірнай канферэнцыі, што мусіць ехаць на нараду з міністрам замежных спраў Сапегам у Брэст-Літоўск. Старшыня ж савецкай дэлегацыі адбыў на кансультацыю ў Маскву. Услед Домбскаму паляцела тэлеграма наркома знешніх спраў РСФСР. У ёй гаварылася, што знаходжанне польскай дэлегацыі ў Мінску служыць усяго толькі дзеля зацягвання перагавораў. Прапаноўвалася перанесці іх ў Эстонію. На гэта быў атрыманы адказ Сапегі з контрпрапановай — аб пераносе далейшых дэбатаў у Рыгу.

Апошняе, пятае, пасяджэнне ў Мінску адбылося 2 верасня. На ім было канстатавана, што перапынку ў перагаворах няма, ёсць толькі перанясенне іх на нейтральную тэрыторыю. Абмяняўшыся рэверансамі, дэлегаты раз'ехаліся.

І ўсё ж кожны з ваюючых бакоў імкнуўся сесці за стол перагавораў з найбольшымі ваенна-стратэгічнымі здабыткамі. Чырвоная Армія, замацаваўшыся ў пачатку кастрычніка 1920 г. на лініі Нарач—Койданава—Слуцк—Князь-Возера, зноў была адкінута. 15 кастрычніка польскія войскі ўвайшлі ў Мінск. Разграбіўшы горад, яны неўзабаве пакінулі яго пад націскам 27-ай стралковай дывізіі. Наступленне палякаў бальшавікі здолелі спыніць з вялікімі цяжкасцямі. Каб неяк узняць баявы дух Чырвонай Арміі і апраўдаць у вачах беларускай грамадскасці здрадніцка-захопніцкую палітыку, у Мінск прыбыў Троцкі. Галоўнай мэтай візіту наркома ўзброеных сіл было «прамыванне мазгоў» адказным работнікам. А з пункту гледжання су-

светнай рэвалюцыі трэба было неяк абгрунтаваць неабходнасць ахвяравання Беларуссю. Гэтая падвойная задача добра чытаецца ў загадах і выступленнях «перманентнага рэвалюцыянера».

На нарадзе 9 верасня Троцкі доўга і падрабязна спыняецца на... Врангелеўскім фронце ў Крыму (!), яркімі фарбамі малюе міжнароднае становішча. Затое вельмі сціпла гаворыць аб савецка-польскім фронце, абмежаваўшы сваё выступленне агульнымі разважаннямі.

Канкрэтная мэта візіту — падрыхтаваць грамадскую думку адносна здачы на карысць Польшчы значнай часткі Беларусі — аб'яўляецца ў ягоным выступленні на нарадзе ў гарадскім тэатры. Выдаючы яўнае паражэнне за перамогу, Троцкі гаварыў: «Быў час, не варта хаваць, мы думалі перавесці штаб Заходняга фронту са Смаленска ў Цвер. Зараз ён знаходзіцца ў Мінску... на 400 вёрст далей ад Смаленска, на 400 вёрст бліжэй да Варшавы...»[13]. Быццам бы ад гэтага Беларусі стала лягчэй!

Каб быць пераканаўчым, ім яшчэ 9 верасня быў аддадзены загад (№ 241), які абавязваў мабілізаваць масы на супраціўленне палякам. Там ёсць і такія радкі:«Польскія найміты, белагвардзейскія гады паднялі галаву ў нашым уласным тыле. Яны пачалі распаўсюджваць чуткі аб тым, што чырвоныя войскі хутка пакінуць Беларусь... Шляхецкія правакатары, якія называюць сябе часам эсэрамі (як, напрыклад, у Смаленску), спрабуюць унушыць беларускаму селяніну думку, што вайна скончыцца, як толькі Чырвоная Армія пойдзе з Беларусі прэч... Вайна спыніцца, як толькі Польшча адмовіцца ад сваіх прэтэнзій на Украіну, Беларусь і Літву...».

Загад заканчваецца лозунгам — «Да здравствует Советская Белоруссия!»[14]. Наколькі шчырым быў апошні заклік, пакінем на сумленні самога Троцкага.

У верасні пачалася падрыхтоўка да правядзення перагавораў у Рызе. З савецкага боку ў іх удзельнічалі А. Іофе — старшыня, С. Кіраў — сакратар, а таксама Л. Абаленскі, Д. Мануільскі і іншыя асобы.

Афіцыйна працяг перагавораў пачаўся 21 верасня 1920 г. Польская дэлегацыя на першым жа пасяджэнні прапанавала ўстанавіць граніцу па лініі «былых германскіх акопаў». Такое патрабаванне шмат у чым выходзіла за тыя межы, якія былі прадугледжаны «Дэкларацыяй Вярхоўнай Рады Антанты» ад 9 снежня 1919 г. Адзначым, што якраз у гэтай Дэкларацыі намалявана амаль сучасная заходняя мяжа, так званая «лінія Керзана» нашай рэспублікі, з невялічкімі адхіленнямі на Усход і Захад. Гэтая мяжа, як вядома, пакідала за Польшчай шэраг беларускіх этнаграфічных раёнаў.

Але польская дэлегацыя прыехала ў Рыгу не як краіна, што прайграла вайну. Вось чаму яе апетыты не маглі стрымаць аніякія этнаграфічныя межы. Думаецца, што і пазіцыя У. Леніна ў гэтым пытанні была добра вядома палякам. Апошні ў прамове на II Усерасійскім з'ездзе арганізатараў працы ў вёсцы (12 чэрвеня 1920 г.) гаварыў: «Мы прапануем мірныя перагаворы на аснове таго фронта... які Літву і Беларусь, нялольскія землі, пакідаў палякам»[15].

Звернем увагу на дату, калі гэта гаварылася, — 12 чэрвеня. Менавіта ў гэтыя дні Чырвоная Армія разгортвала імклівае наступленне на захад.



Фрагмент карты папярэдняга падзелу Беларусі паміж бальшавікамі і Польшчай.

Старшыня СНК мог бы ўстрымацца ад падобных заяў, якія, бясспрэчна, зніжалі баявы дух арміі. Навошта ісці ў атаку, паміраць, калі гэтыя землі могуць быць пакінуты праціўніку? Красамоўна і тое, што ленінская заява аб заходніх рубяжах была пакінута без каментарыя ў беларускім друку. Толькі ў жніўні 1920 г. карэспандэнт «Звезды» Ул. Сакольскі ў артыкуле «Аб заходняй мяжы Беларусі» пісаў: «Той факт, што Парыжская канферэнцыя ўключыла ў склад Польшчы чатыры беларускія ўезды — Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі Гродзенскай губерні і Аўгустаўскі Сувалкскай... ні да чаго не абавязвае. Па нацыянальнаму складу гэтыя ўезды, безумоўна, належаць Беларусі, і гэты факт




Тэрыторыя ССРБ у выніку ленінска-пілсудскага гешэфту ў сакавіку 1921 г.

не могуць зняпраўдзіць нават акупацыйныя статыстыкі»[16]. Рэдакцыя, бачачы разыходжанне Сакольскага з афіцыйнай лініяй і быццам бы просячы за гэта прабачэння, заўважае, што яна можа не падзяляць погляды сваіх карэспандэнтаў. Але не толькі карэспандэнты не падзялялі поглядаў афіцыйных улад. Падпісаныя ў Рызе 12 кастрычніка ўмовы міру, якія рэзалі новымі межамі Беларусь па жывому, выклікалі адпаведную рэакцыю насельніцтва. У тагачаснай свядомасці людзей бальшавікі былі больш рэальным гарантам права на нацыянальнае самавызначэнне, чым палякі. Якраз з гэтае прычыны беларусы-сяляне і пачалі звяртацца з хадайніцтвамі, каб іхнія вёскі былі пакінуты ў Беларусі. Так, у дакладзе загадчыка палітычнага пададдзела Зямельнага аддзела С. Яраша, які быў зроблены ў пачатку красавіка 1921 г. пасля паездкі па прыгранічных раёнах, адзначана: «Па апытанню насельніцтва, куды яны лепей згодны далучыцца, усе заяўляюць, што вельмі задаволены савецкай уладай. Сяляне вельмі жадаюць, каб застацца на баку Саветаў. Яны вельмі паспяхова арганізуюць сельсаветы і пасеўкомы. Сяляне вельмі жадаюць, каб перайшлі пад Савецкую ўладу два мястэчкі — Далгінава і Докшыцы»[17]. З такімі ж хадайніцтвамі выступілі і сяляне вёсак Максімаўка і Загорцы, а таксама жыхары ўсёй Хаценічыцкай воласці[18]. Прашэнне падалі і сяляне некаторых вёсак, якія адыходзілі ад Беларусі да Польшчы з Крайскай воласці[19].

Такіх прыкладаў можна прыводзіць шмат. Справа, аднак, у іншым. У тым, што большасць гэтых хадайніцтваў не была задаволена. Каму ахвота прыслухоўвацца да «мужыкоў», калі ішла вялікая палітычная гульня.

Прэлімінарныя ўмовы міру былі падпісаны ў Рызе ў кастрычніку 1920 г. Афіцыйна рэагуючы на гэтую падзею, В. Кнорын пісаў: «Над Белоруссией свершается насилие, — так должны кричать на весь мир мы, революционные рабочие и крестьяне Белоруссии. Наша воля потоптана ногами...». Але далей ён жа працягвае: «Мы должны идти на этот мир, который нужен для победы революции, — для всей великой Советской Российской федерации, ради интересов всей великой мировой революции мы готовы жертвовать своими местными маленькими интересами»...[20].

Чаго больш у гэтым выказванні — здзічэлага цынізму і знявагі да нацыянальных патрэб беларусаў ці фанатычнай веры ў перамогу сусветнай рэвалюцыі? Няўжо была ўпэўненасць у тым, што Беларусь і яе людзі ніколі не зразумеюць гэтага здрадніцтва?

Увогуле, і аб тым сведчыць даклад на III з'ездзе КПБ І. Рэйнгольда, Беларусь разглядалася як «заходная ўскраіна Савецкай Расіі, якая з'яўляецца

**Только братский союз рабочих и крестьян белоруссов, евреев, русских, поляков и латышей ведет к экономическому и культурному расцвету Советской Белоруссии.**

Граница БССР и Польши. — Граница БССР и Латвии. — Бывшая граница БССР до районирования. — Белорусские земли над польским владычеством.

Карта Беларусі (з газеты «Звязда», № 301, 1924 г.).

буферам паміж ёй і шляхецкай Польшчай...». Далей дакладчык адзначаў, што... «кіруючыя колы Польшчы імкнуцца авалодаць гэтым буферам, гэта значыць уз'яднаць белую і чырвоную Беларусь з мэтай яе буржуазнага самавызначэння ў бок Саюза з Польшчай»[21]. Як паказала далейшае развіццё падзей, такога не адбылося. Для ўрада Пілсудскага лозунг «самавызначэння нацый» быў такім жа «прапагандысцкім дахам», як і для бальшавікоў. Але абодва бакі «добра спеліся»...

Як пісаў бальшавік С. Мертэнс: «Польскую буржуазную кліку і іхні друк галоўным чынам цікавіць пытанне, які з чатырох беларускіх урадаў...[22] прад'яўляе больш прэтэнзій у дачыненні да так званай этнаграфічнай Беларусі. Найлепшым сярод усіх аказаўся Савецкі ўрад на чале з Чарвяковым, бо ён пагадзіўся на тэрытарыяльныя страты»[23]. Праўда, у артыкуле С. Мертэнса так нідзе і не згадваецца, што ўрад Чарвякова ніхто не пытаў пра тое.

Дагавор паміж Расіяй і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай, з другога, быў падпісаны 17 сакавіка ў 19 гадзін у Рызе. Бальшавікі, кіруючыся лозунгам «пралетарскага інтэрнацыяналізму» і жадаючы дагадзіць Польшчы, наладзілі з апошняй гешэфт за кошт беларускіх зямель. Ва ўрачыстай прамове пасля цырымоніі падпісання прадстаўнік Польшчы Ян Добскі, адзначаючы прынцып самавызначэння народаў, прызнаў незалежнасць Украіны і Беларусі. У прамове ў адказ старшыня савецкай дэлегацыі Адольф Іофе гаварыў многа і аб усім, але слоў «Беларусь» ці «беларускі» так ніхто і не пачуў. Быццам бы не яна, Беларусь, разрэзаная ўпоперак дзяржаўнай мяжой, стала ахвярай гегеманісцкіх імкненняў бальшавікоў і Польшчы.

## «УЗБУЙНЕННЕ»

У выніку заключэння Рыжскага міру Беларусь была перарэзана на дзве часткі савецка-польскай граніцай. З 1919 г. бальшавізаваныя Саветы Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў аб'явілі аб сваім уваходжанні ў склад РСФСР. Як гэта рабілася з першымі двумя губернямі, мы не высветлілі, а вось з апошняй сітуацыя склалася наступным чынам. У Наркамаце Зямельных спраў РСФСР 25 лютага 1919 г. сабралася міжведамасная нарада. На ёй сярод трох пытанняў ставілася на разгляд і пытанне аб Гомельшчыне. На нарадзе прысутнічалі прадстаўнікі ўрада Украіны — Іваноў і Мальцаў, упаўнаважаны СНК (РСФСР. — *А. Ц.*) па справах Беларусі і Літвы — Гопнер, прадстаўнікі Магілёўскага рэўкома — Гіндзін і Кацаф, Магілёўскага губвыканкама — Індэнбаум, ад Наркамата ўнутраных спраў — Спаскі і ад НКЗС прафесар Неміроўскі і Круцікаў. Апошні быў сакратаром, а шаноўны прафесар — старшынёй нарады. Вось як усё адбывалася па пратаколу:

СЛУХАЛІ: Аб вылучэнні Гомельскай губерні.

ПАСТАНАВІЛІ: Нарада аднагалосна прызнала неабходнасць перанесці губернскі цэнтр з Магілёва ў Гомель.

1) Са складу Магілёўскай губерні — паветы Быхаўскі, Магілёўскі, Чавусаўскі, Рагачоўскі, Чэрыкаўскі і часткі Горацкага і Клімавіцкага.

2) Са складу Мінскай губерні — Рэчыцкі.

3) Са складу Чарнігаўскай губерні — Суражскі і Новазыбкаўскі — умоўна, Мглінскі і Старадубскі — да высвятлення пытання аб вылучэнні Бранскай губерні (умоўна). Прынята аднагалосна. Гомельская губерня мусіць увайсці ў склад Вялікарасіі»[1].

Думаецца, з такой жа лёгкасцю былі вырашаны і пытанні Віцебшчыны і Смаленшчыны. Навошта гэта рабілася? Знешняй прычынай было тое, што польскія войскі паспяхова прасоўваліся па тэрыторыі Беларусі, вымушаючы Чырвоную Армію адступаць. Пілсудскі рабіў стаўку на Беларусь як край, які калісьці ўваходзіў ў склад Рэчы Паспалітай. А Рэч Паспалітая атаясамлівалася ім з Польшчай. (Дарэчы, падобную сітуацыю мы можам назіраць і сёння, калі штучна прыводзяць тоеснасць: Старажытная Русь — Кіеўская Русь — Расія — Расійская імперыя — СССР — Расія). Каб зменшыць рэгіён будучых тэрытарыяльных прэтэнзій Польшчы, і было тэрмінова, нават загадзя, аб'яўлена расійскай тэрыторыяй тое, што ёй у сапраўднасці не належала. Другая прычына нежадання ўлічваць




Гомельская губерня.

нацыянальныя інтарэсы ўскраінных народаў заключалася ў тым, што «з перамогай пралетарскай рэвалюцыі» бальшавікі мелі намер стварыць сусветны Саюз Сацыялістычных Рэспублік. Ні больш ні менш.

У выніку заключэння Рыжскага міру за Савецкай Беларуссю была пакінута тэрыторыя ў складзе шасці паветаў былой Мінскай губерні з агульнай плошчай 52398 вёрст$^2$ (59632 км$^2$)[2] і насельніцтвам, паводле даных на жнівень 1920 г., 1353078 чал. Пасля стабілізацыі лініі фронту ў канцы таго ж 1920 года ва ўрад ССРБ паступіла заява аб жаданні далучыцца да Беларусі з боку Крупскай воласці[3].

Тая ж думка была выказана і ў хадайніцтве (7.XII.1920 г.) валаснога з'езда Бобрскай воласці Сенненскага павета. Супраць выступіў Сенненскі выканкам, які матываваў свой пратэст тым, што Бобр — самы буйны фабрычна-заводскі цэнтр павета. На пагаджальнай камісіі было вырашана хадайніцтва задаволіць, але некаторыя прадпрыемствы вывезці ў іншыя воласці Віцебскай губерні РСФСР[4]. Быццам бы гэтыя прадпрыемствы не былі створаны працаю мясцовых жыхароў, а былі завезены аднекуль!

Толькі ў 1921 г. пачынаецца юрыдычнае прызнанне БССР. 16 студзеня, амаль праз паўгода пасля падпісання дагавору з буржуазнай Літвой, быў падпісаны дагавор паміж РСФСР і нашай рэспублікай. З боку РСФСР яго падпісаў намеснік народнага камісара па замежных справах Л. Карахан, з боку Беларускай рэспублікі намеснік Старшыні ЦВК і СНК Беларусі і народны камісар па ваенных справах Я. Адамовіч[5]. Якія захады рабіў беларускі ўрад дзеля вяртання сваіх законных тэрыторый? На жаль, высветліць гэта не ўдалося, хаця няма вялікіх падстаў сумнявацца ў нацыянальнай самасвядомасці большасці членаў першага беларускага (бальшавіцкага) ўрада. Акрамя таго, было небяспечна пакідаць большую частку Беларусі за межамі СССР. Тэарэтычна магло атрымацца так, што меншая частка захацела б далучыцца да большай. У выніку можна было страціць і рэшту.

У заходніх землях у гэты час беларускі нацыянальны рух — апанент мінскага савецкага ўрада — адыгрываў далёка не другарадную ролю. Прадстаўнікоў гэтага руху болей за ўсё хвалявала тэрытарыяльнае пытанне. Зразумела, у гэтым сэнсе да бальшавікоў былі сур'ёзныя прэтэнзіі, бо яшчэ не былі сцёрты з памяці ні абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў межах этнаграфічнай Беларусі, ні бальшавіцкая дэкларацыя (ад 1 студзеня 1919 г.) аб абвяшчэнні Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь. Апошняя ўключала ў сябе амаль усю тую ж тэрыторыю, якую ўключала і БНР (за выключэннем Вільні). Менавіта ў Вільні быў створаны альтэрнатыўны буржуазнаму Ковен-

скаму прабальшавіцкі ўрад В. Міцкявічуса-Капсукаса.

Першым крокам на шляху дэманстрацыі павагі нацыянальных правоў беларусаў, вядома, не без жадання насаліць замежным апанентам, з'явілася рашэнне аб перадачы частак Гомельскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў. Гэтым крокам дасягалася адразу некалькі мэт. Сусветная грамадскасць і прыгнечаныя нацыі ў іншых краінах пачыналі бачыць у Маскоўскім урадзе заступніка. Няхай сабе і тэарэтычнага. Быў і яшчэ адзін аспект. Не зважаючы на інструкцыю УЦВК і СНК аб парадку перадачы тэрыторый у іншыя адміністрацыйныя адзінкі, а яна прадугледжвала рабіць гэта толькі восенню, для Беларускай рэспублікі зрабілі выключэнне — перадалі вясной.

Дзеля чаго гэта рабілася? Каб радаснай вясенняй навіной прымусіць людзей забыцца пра іншую падзею ў жыцці народа — пра гадавіну нараджэння БНР. А яшчэ хацелася звярнуць увагу на «дабрыню» новай улады, на яе павагу да нацыянальных інтарэсаў.

7 сакавіка 1924 г. старшынёй ЦВК СССР Н. Нарымановым і сакратаром ЦВК СССР А. Енукідзе была падпісана адпаведная пастанова.

У ёй гаварылася аб далучэнні да БССР Віцебскай і часткі Смаленскай губерняў. Паведамлялася, што Цэнтральны выканаўчы камітэт Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік прызнае пагадненне, якое адбылося паміж Цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі РСФСР і Беларускай ССР. Адпаведна з гэтым пагадненнем у склад Беларускай рэспублікі ўвайшлі ўсе (выдзелена мной. — *А. Ц.*) тэрыторыі Савецкага Саюза з большасцю беларускага насельніцтва. Ну і, вядома, усё гэта — яркае сведчанне сяброўскіх і братэрскіх стасункаў народаў, якія насяляюць СССР»[6].

Паспрабуем пракаменціраваць сутнасць пастановы. Адпаведна з данымі акадэміка Я. Карскага, этнаграфічная тэрыторыя беларусаў, дзе яны складалі большасць, ахоплівала амаль усю Смаленшчыну (за выключэннем чатырох усходніх паветаў), Чарнігаўшчыну, створаную ў 1919 г. Гомельскую губерню і шэраг іншых зямель на ўсходзе. Было заяўлена аб вяртанні «*усіх*» зямель, у той час як вярталі толькі *часткі* Віцебскай і Смаленскай губерняў. Адзначым пры гэтым, што Гомельская губерня была створана з частак былых Магілёўскай, Мінскай і Чарнігаўскай губерняў. А да Смаленскай у тым жа 1919 г. былі далучаны Мсціслаўскі і Сенненскі паветы. Вось і атрымлівалася, што вышэйпамянутай пастановай вярталіся не ўсе, а толькі частка беларускіх зямель. Але Беларускі ўрад і за гэтае быў удзячны. Як кажуць, бяры, пакуль не перадумалі. Да таго ж трэба было адраджаць нацыянальную еднасць. Але і гэтая згодніцкая пазіцыя выклікала пярэчанні ў «старэйшага брата». Адразу былі прад'яўлены прэтэнзіі на тры паўночна-ўсходнія беларускія паветы Віцебскай губерні — Веліжскі, Невельскі і Себежскі. Дарэчы, там пераважала беларускае насельніцтва. Але гэты факт аніякім чынам не браўся пад увагу. Дадзім слова старшыні ЦВК Беларусі А. Чарвякову, які сведчыў: «...Што тычыцца далучэння да Беларусі Віцебскай губерні, дык у час II з'езда Саветаў (СССР) беларуская дэлегацыя атрымала паведамленне ад віцебскіх таварышаў аб тым, што пленум Віцебскага губвыканкама на першым сваім пасяджэнні пастанавіў дамагацца перад ЦВК РСФСР аб уваходжанні Віцебскай губерні цалкам у склад Беларускай рэспублікі, абгрунтоўваючы гэта культурным, эканамічным і адміністрацыйным адзінствам усяго раёна. Гэтая заява Віцебскай губерні была падтрымана Беларуссю, таму што апошняя і раней не пярэчыла супраць уключэння гэтых трох паветаў у склад Беларускай рэспублікі. Адпаведная калектыўная заява за подпісамі ўсіх дэлегатаў была перададзена спачатку для разгляду ў партыйным парадку. Гэтае ж пытанне паступіла на вырашэнне Камісіі Прэзідыума Саюзнага ЦВК. Да гэтага часу яно яшчэ не вырашана, але з прыватных размоў, якія мне давялося весці з таварышамі Калініным і Енукідзе, стала зразумелым, што наўрад ці гэтае пытанне будзе вырашана ў пазітыўным сэнсе, таму што некаторыя члены Саюзнага Прэзідыума і Прэзідыума ЦВК РСФСР ставяцца адмоўна да пытання аб перадачы гэтых трох паветаў Беларусі. Што ж тычыцца перадачы Беларусі часткі Смаленскай губерні, дык першапачаткова таварышы з Смаленска заявілі пратэст на рашэнне камісіі ЦВК, патрабуючы, каб Мсціслаўскі ўезд быў цалкам пакінуты ў складзе Смаленскай губерні»[7].

Нагадаем, што Мсціслаўскі павет, разам з Горацкім, быў далучаны да гэтай губерні адпаведна з пастановай НКУС РСФСР ад 11 ліпеня 1919 г., калі Мінск — сталіца Савецкай Беларусі — быў акупіраваны (8.08.1919 г.) польскімі войскамі. Такім чынам, урад РСФСР не пакінуў фактычна ўраду ЛітБела магчымасці для эвакуацыі органаў улады на сваю тэрыторыю, на ўсход. Сам горад Смаленск прыняў «урад у выгнанні» — ЦК КП(б) ЛітБела., адкуль апошні кіраваў камуністычным падполлем і партызанскім рухам.

Як бачым, за перыяд з 1919 да 1924 г. смаленскія губернскія ўлады вельмі парадніліся з Мсціслаўскім паветам, забыўшыся, што ў час абвяшчэння БССР 1.01.1919 г. уся Смаленская губерня, за выключэннем чатырох усходніх паветаў, была «неад'емнай» часткай Беларусі.

Пасля пастановы Прэзідыума Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага камітэта ад 3 сакавіка 1924 г. і пачалося перацягванне каната паміж БССР і губкамамі Смаленска і Пскова. Але сілы былі няроўныя. З аднаго боку — ССРБ разам з этнаграфічнымі, гістарычнымі і эканамічнымі абгрунтаваннямі, з другога — моцная падтрымка з боку ўрада РСФСР і СССР. Пратэсты і патрабаванні, адрасаваныя ЦВК СССР аб вяртанні Беларусі Веліжскага, Невельскага і Себежскага паветаў, заставаліся безвыніковымі. Не бралася пад увагу нават тое, што на пасяджэнні пагаджальнай камісіі 3.04.1924 г. старшыня Веліжскага ўезна-гарадскога выканаўчага камітэта Селязнёў заявіў, што «ўсе канферэнцыі па Веліжскаму ўезду прайшлі пад сцягам неабходнасці далучэння да Беларускай рэспублікі»[8]. Цікава адзначыць, што пасля гэтага выступлення прозвішча Селязнёва знікае з наступных пратаколаў пасяджэнняў камісіі.

Пскоўскі губком матываваў неабходнасць уключэння трох памянутых уездаў адміністрацыйна-гаспадарчым адзінствам. А ўключэнне Себежскага ўезда тлумачыў яшчэ і тым, што гэта «вельмі неабходна з мэтай адзінага кіраўніцтва справай аховы граніцы па ўсёй лініі мяжы з Латвіяй, каб найбольш поўна забяспечыць інтарэсы пагранічнай

ўяўлялі сабой бандыцкія гнёзды. Распаўсюджаны канакрадства, выраб самагону і самавольныя парубкі лесу. У Клімавіцкім раёне маецца арганізацыя эсэраўскага тыпу... якая ставіць сабе мэту перашкаджаць развіццю сацыялістычнага будаўніцтва і расчляненне вёскі[22]. І ўсё ж гэта была родная зямля, і яна ўключалася ў агульнабеларускае жыццё. Беларусь пры гэтым аплаціла ўсе «даўгі». Вось прыклад. У сувязі з перадачай Веліжскага, Себежскага і Невельскага ўездаў на карысць Пскоўскай губерні, ад Віцебскай фармацэўтычнай управы заплочана 915 руб. 85 кап., а з былой Віцебскай губернскай зямельнай управы спагнана 6584 руб. 39 кап.[23]. І гэта ў той час, калі Віцебская губерня за 1923—1924 гг. дала ў агульныя рэсурсы РСФСР чыстага прыбытку на суму 1943685 руб. 13 кап.[24]. Тым не менш яна была прынята Беларуссю з дэфіцытам бюджэту ў 477059 руб. 28 кап.[25].

«Прынцыповасць» прадстаўнікоў РСФСР даходзіла да смешнага. У чэрвені 1923 г. на лесазаводзе ў Пусташцы (Себежскі ўезд) здарыўся пажар. Тушыць яго паехала пажарная машына, якая была на балансе Віцебскага губкамунгаса, але паркавалася ў Себежы. Завод згарэў датла, а аўтамабіль атрымаў вялікія пашкоджанні: усе медныя часткі паплавіліся, накрыўка катла лопнула ў некалькіх месцах. Пашкоджаная машына прастаяла амаль год пад адкрытым небам, без аховы[26]. І вось прадстаўнікі Себежа запатрабавалі, каб ім вярнулі новую пажарную машыну. Беларусы згадзіліся ў месячны тэрмін задаволіць і гэтую прэтэнзію[27]. Намеснік народнага камісара фінансаў СССР Любімаў, не зважаючы на той факт, што Беларусі вярталіся тэрыторыі з яўным бюджэтным дэфіцытам, запатрабаваў, каб узбуйненая Беларусь павялічыла ўдвая працэнт удзелу ў расходным бюджэце СССР[28]. І нават гэта не стрымала Беларусь, бо народ з энтузіязмам і радасцю ўспрымаў перамены ў сваім жыцці, чакаў маючы адбыцца Надзвычайны VI Усебеларускі з'езд Саветаў. У сувязі з гэтым былі павышаны квоты прадстаўніцтва ад уз'яднаных тэрыторый[29].

Беларусы, якія засталіся на ўсходнім баку мяжы, звярталіся ў ЦВК Беларусі з прашэннем аб уключэнні іх у склад БССР.

Сяляне Шышкоўскага раёна Бахоцкай воласці, напрыклад, пісалі ў сваім «приговоре» ад 7 кастрычніка 1924 г.: «Мы з'яўляемся карэннымі беларусамі і грамадзянамі прыгранічных вёсак, у дадзены час далучаны да Смаленскага ўезда...». Далей яны апавядаюць аб сваім імкненні ўз'ядначца, пішуць, што склалі «настоящий приговор... для выражения нашего искреннего желания о присоединении к Белорусской Советской Республике и для исходатайствования удовлетворения нашего желания ввиду того, главным образом, что мы не желаем отстать от своей национальности и своего коренного белорусского языка»[30]. Аналагічнае прашэнне складзена і сялянамі вёскі Перасядзенне Аслянскай воласці Мсціслаўскага ўезда, якое было прынята 73 гаспадарамі з 95 маючых права голасу[31].

Прыкладна тыя ж думкі гучаць і ў лістах ад грамадзян вёсак Вялікі Рай, Малы Рай і Свірыдаўка, што ў Бахоцкай воласці. Яны пісалі: «...Собравшись сего числа (1924 г., марта 30 дня) на общий сход и обсудив вопрос о присоединении нас к Великороссии, решили: ввиду того, что мы искони принадлежали к нации белорусов, каковыми были наши прадеды, отцы и деды... Узнав, что наши деревни отходят к Смоленскому уезду, следовательно к Великороссии, в нас пробудились национальные чувства — жажда присоединения к родному краю, в котором мы родились и желаем умереть, защищая наше национальное право»[32]. «За непісьменных і пісьменных распісаліся...». Усяго 89 подпісаў. Уласнаручныя подпісы грамадзян заверыў 2.04.1924 г. старшыня райсавета Я. Жукаў. Вось такую б самасвядомасць непісьменных ды малапісьменных сялян нашым некаторым членам урада! Такія ж простыя і шчырыя лісты—«приговоры» прыйшлі ў ЦВК нашай рэспублікі ад жыхароў вёскі Мілют Мсціслаўскага ўезда, Варкавіна, Безюкі Бахоцкай воласці, Белінішча Хіславіцкай воласці Рослаўскага ўезда[33].

У пратаколе пагаджальнай камісіі СНК Беларусі і Смаленскага губвыканкома ад 24 лютага 1924 г. па прыёму-перадачы Горацкага і часткі Мсціслаўскага ўездаў згадваюцца Соінская і Надзейкавіцкая воласці. Супраць уключэння іх у межы БССР пратэстуюць (Папоў) Смаленскія губернскія ўлады, а прадстаўнікі Беларусі настойваюць на паўторным разглядзе праблемы[34]. Наступны дакумент, які зноў тычыцца гэтага ж пытання, датуецца 12 сакавіка.

Выпіска з пратакола № 6 пазачаргова з'езда райсаветаў і ўпаўнаважаных вёсак Надзейкаўскай воласці Мсціслаўскага ўезда. На з'ездзе абмяркоўвалася пытанне аб уз'яднанні з Беларуссю. У дакладзе т. Кавалёва з вёскі Ціхіля гаварылася аб межах БССР у «бытность таковой по 1772 г.» Пастанавілі абраць двух прадстаўнікоў — Ц. Шураўко і М. Кузамкіна — у якасці ўпаўнаважаных дзеля ўзбуджэння хадайніцтва перад ЦВК Беларусі аб далучэнні Надзейкаўскай воласці да БССР[35]. Ад сябе ўдакладнім, што зараз былая воласць — у складзе Рослаўскага раёна Смаленскай вобласці. Тыя ж думкі выказаны і ў пастанове прэзідыума Хіславіцкага валаснога выканкама былога Мсціслаўскага ўезда. У ім гаварылася пра жаданне жыхароў Хіславіцкай, Піраціцкай і Аслянскай валасцей далучыцца да Мсціслаўскага ўезда. І пастанавілі: «Ходатайствовать перед ЦИК Белоруссии от имени населения... о присоединении означенных волостей к Белоруссии. Присовокупляем, что, будучи в волости по служебным делам, крестьяне на своих собраниях поднимают вопрос об обязательном присоединении к Белоруссии и выражают негодование в связи с присоединением их к Великороссии». Пастанову падпісаў старшыня прэзідыума Прэдвіка[36]. Застаецца толькі канстатаваць, што палова былой Аслянскай воласці сёння знаходзіцца ў межах нашай рэспублікі. Другая яе частка знаходзіцца ў межах Смаленскай вобласці. Жаданне і памкненні людзей не былі ўбачаны і пачуты. Маскоўскія ўлады між тым непакоіліся. Ды і было ад чаго. Выконваючы волю беларускіх сялян, можна было прыйсці да непажаданага ўзбуйнення БССР, рэальнага аб'яднання ўсяго беларускага народа. А гэта не адпавядала інтарэсам Масквы. Да таго ж ініцыятыва аб'яднання зыходзіла ад простага народа, а не ад кіруючай кампартыі. Безумоўна, былі зроблены адпаведныя захады, каб прыпыніць гэты стыхійны працэс народнага волевыяўлення. 11 красавіка 1924 г., напрыклад, на пасяджэнні ЦВК




«Узбуйненне» 1924 і 1926 гг.

Саветаў БССР (на ім прысутнічалі Чарвякоў, Асаткін, Багуцкі, Адамовіч, Гетнер, Сташэўскі, Нодэль, а таксама запрошаныя члены камісіі па прыёму тэрыторыі — Чарнушэвіч і Шкубер) было прынята рашэнне — «Всякого рода ходатайства Сельсоветов, Волисполкомов и др. учреждений и организаций о присоединении к Белоруссии, не рассматривая, направлять в ЦИК СССР»[37]. Такое рашэнне ўрада БССР можна растлумачыць хіба што незадаволенасцю і занепакоенасцю Масквы тым рухам, які выходзіў з-пад яе кантролю. А незадаволеныя былі. Наркамзем СССР у 1924 г. прапануе зменьшаны варыянт узбуйнення Беларусі. Цікава, што, адзначаючы «нямэтазгоднасць» прэтэнзій беларускага ўрада, а таксама папярэджваючы, што «...это вызовет... болезненные последствия», ён спасылаецца на пратакол ад 8 снежня 1923 г. Віцебскага губкома РКП(б)[38].

Было б няпраўдай сказаць, што ўзбуйненне Беларусі выклікала толькі энтузіязм сярод насельніцтва. Вывады камісіі СНК Беларусі па прыёму частак Смаленскай і Гомельскай губерняў сведчаць, што даволі насцярожана ўспрынялі далучэнне да Беларусі мясцовыя работнікі і яўрэі. Апошнія палохаліся, што будуць адлучаны ад савецкай работы або будуць недастаткова выкарыстоўвацца на ёй, а першыя ставіліся аб'яднання з агляд-кай, бо не ведалі беларускай мовы[39].

Канчатковае фарміраванне паўднёва-ўсходняй мяжы нашай рэспублікі адбылося пасля пастановы Прэзідыума ЦВК РСФСР ад 6 снежня 1926 г. У пастанове гаварылася аб ліквідацыі Гомельскай губерні і перадачы ў склад БССР Гомельскага і Рэчыцкага ўездаў.

Яшчэ праз два дні была прынята пастанова ЦВК БССР аб далучэнні да Беларусі названых раёнаў. І хаця ўжо меўся пэўны вопыт у гэтай справе, зноў паўтаралі тое, што мела месца раней. Так, з Мінску ў прадстаўніцтва БССР у Маскве была накіравана тэлеграма, у якой гаварылася: «Кіраўніцтва Спраў СНК БССР просіць тэрмінова паведаміць, у якім стане знаходзіцца справа па пратэсту... на пастанову Дзяржплана РСФСР па пытанні аб перадачы вызначанага для запалачнай фабрыкі ў г. Рэчыцы імпартнага абсталявання Паўночна-Заходняму Запалачнаму Трэсту»[40]. На час (IV квартал 1926 г.) перадачы Гомельскага ўезда толькі папяровая фабрыка ў Добрушы мела касавы дэфіцыт у 300 000 руб.; запалкавыя фабрыкі мелі дэфіцыт у 820 000 руб.; Палесдрук, дзе працавала 400 чалавек, з-за недахопу сродкаў вымушаны быў звольніць 142 чалавекі[41].

У адпаведнасці з пратаколам пагаджальнай камісіі ад 28 студзеня 1927 г., Гомельскі педагагічны музей вырашана было зберагчы і ...цалкам перадаць яго новаўтворанай Бранскай губерні[42]. Прадстаўнікі РСФСР на пасяджэнні парытэтнай камісіі (17.01.27) увогуле запатрабавалі правесці мяжу паміж Бран-




Карта, на якой пазначаны пакінутыя ў Расіі Веліжскі, Невельскі Себежскі і Клінцоўскі ўезды.
Смаленск пазначаны тым жа шрыфтам, што і іншыя цэнтры акруг Беларусі (з газеты «Звязда», № 1, 1927 г.).

скай губерняй і нашай рэспублікай па рацэ Сож. Праўда, пасля пратэсту БССР ідэя была адхілена.

Чым была выклікана такая прапанова з боку расійскіх улад і чаму яна не была падтрымана ўрадам СССР? На жаль, скупыя радкі пратаколаў не даюць поўнага ўяўлення аб тых працэсах, якія адбываліся на пасяджэннях камісій і падкамісій. Але асобныя дэталі высветліць можна. Чаму ўзнікла пытанне аб правядзенні мяжы па рацэ Сож? Таму што на левабярэжжы знаходзіўся Добрушскі папяровы камбінат, да якога былі вельмі ахвочыя прадстаўнікі новаўтвараемай Бранскай губерні. На пасяджэнні парытэтнай падкамісіі яшчэ 26 снежня 1926 г. прадстаўнік РСФСР Гадзееў заявіў: «Мы маем даручэнне паставіць на абмеркаванне пытанне аб Добрушскім раёне; да нас паступіла хадайніцтва Бранскага выканкома аб адпаведнай змене межаў БССР». (Заўважым, што не насельніцтва Добрушскага раёна, а Бранскага выканкома! — *А. Ц.*) Бранскія ўлады вельмі добра выкарысталі момант заяўлення гэтай прэтэнзіі. Справа ў тым, што днём раней прадстаўнікі Беларусі зрабілі карту размежавання ў адпаведнасці з Пастановай УЦВКа аб далучэнні Гомельскага і Рэчыцкага ўездаў да Беларусі. Пераканаўшыся, што беларусы дакладна выконваюць прадпісанні Масквы, не прэтэндуюць на тэрыторыі, аб чым сведчыла і карта, прадстаўленая расійскай дэлегацыі ў парытэтнай камісіі, Бранскі выканкам пайшоў у наступленне.

Хацкевіч, абараняючы пазіцыю Беларусі, заявіў: «Мы... ставілі пытанне аб далучэнні часткі Гомельшчыны да БССР, матывуючы гэта, галоўным чынам, нацыянальным момантам. Зыходзячы з такога палажэння, мы мелі б права патрабаваць выпрамлення мяжы ў бок тэрыторыі, што застаецца ў РСФСР, за кошт тых валасцей, у якіх ёсць большасць беларусаў, аб чым сведчаць заявы сялян. Але ў сувязі з тым, што ёсць цвёрдае рашэнне вышэйшых органаў (Маскоўскіх. — *А. Ц.*), нам неабходна замацавацца ў фактычна існуючых межах»[43]. Яшчэ больш канкрэтна выказаўся Калінін: «Калі дэлегацыя (РСФСР. — *А. Ц.*) будзе ставіць пытанне такім чынам, мы са свайго боку паставім шэраг пытанняў аб змене межаў... Аб далучэнні да БССР раёнаў з беларускім насельніцтвам, якое пражывае ў межах РСФСР. Мы лічымся з пастановай вышэйшых савецкіх органаў і не вылучаем зараз гэтых пытанняў. Але пры ўмове, што дэлегацыя РСФСР, у сваю чаргу, зноў не вылучыць пытанне аб Добрушскім раёне». Гэтая заява Калініна крыху паўплывала на процілеглы бок. Прадстаўнік ад Расіі — Райхман пачаў «замазваць» узнікшую спрэчку: «Стоит ли сейчас спорить, какое преимущественно население в Добрушском районе — белорусское или русское... Заявление о Добруше мы сделали только для того, чтобы вы знали, что с этим вопросом вы можете столкнуться и в будущем. С другой стороны — нам надо было выполнить данное нам поручение». Цікавая логіка... Быццам бы не нацыянальны склад насельніцтва з'явіўся падставай для ўз'яднання гэтых тэрыторый з БССР!

Кропку ў дэбатах паставіў Хацкевіч. Ён заявіў, што калі расійская частка падкамісіі будзе ўздымаць пытанне ў Маскве аб далучэнні Добрушскага раёна да РСФСР, то беларусы выкажуць контрпрэтэнзію на частку тэрыторыі РСФСР — па нацыянальных і эканамічных матывах. А такія матывы былі. У час таго ж пасяджэння прадстаўнік Беларусі Станішэўскі падкрэсліў, што ў Краснабудскай воласці пераважае беларускае насельніцтва. Тое ж адзначыў і прадстаўнік РСФСР, ужо згаданы Гадзееў, да якога звярнуўся жыхар вёскі Фешні Краснагорскай воласці Кліпцоўскага ўезду з прашэннем аб далучэнні да БССР. Жыхар той матываваў сваё хадайніцтва аднолькавасцю глебы, падобнасцю мовы (чудно гаворым, як і беларусы) і г.д.*

Аналізуючы даныя гэтага красамоўнага пратаколу, можна зрабіць адпаведныя вывады. Па-першае, Добрушскі раён, з-за папяровай фабрыкі ў першую чаргу, стаў прадметам гандлярства і нават шантажу з боку бранскіх уладаў.

Згодніцтва ўрада БССР, вядома, пад дыктоўку Масквы, было ўзнагароджана перадачай Беларусі папяроўні. А на інтарэсах і памкненнях народа, як і ў час уз'яднання ў 1924 г., быў пастаўлены крыж. У сувязі з гэтым варта адзначыць, што пасля заключэння Рыжскага міру паміж РСФСР, УССР і Польшчай, а таксама пасля падзей, якія мелі месца ўнутры РСФСР, тэрыторыя Беларускай ССР зменшылася. Яна раўнялася 59,632 км² з насельніцтвам у 1 634 223 чалавекі. Пасля ўзбуйнення ў 1924 г. тэрыторыя павялічылася да 110 810 км², а насельніцтва — да 4 171 886 чалавек. 1926 г. Тэрыторыя Беларусі ўжо 125 516 км², а насель-

* Вёску Фешні мы не здолелі знайсці на карце БССР. Але каля самой мяжы Гомельскай вобл., у Краснагорскім раёне Бранскай вобл., ёсць вёска Фошное.




Карта, на якой пазначаны пакінутыя ў Расіі Веліжскі, Невельскі Себежскі і Клінцоўскі ўезды.
Смаленск пазначаны тым жа шрыфтам, што і іншыя цэнтры акруг Беларусі (з газеты «Звязда», № 1, 1927 г.).

скай губерняй і нашай рэспублікай па рацэ Сож. Праўда, пасля пратэсту БССР ідэя была адхілена.

Чым была выклікана такая прапанова з боку расійскіх улад і чаму яна не была падтрымана ўрадам СССР? На жаль, скупыя радкі пратаколаў не даюць поўнага ўяўлення аб тых працэсах, якія адбываліся на пасяджэннях камісій і падкамісій. Але асобныя дэталі высветліць можна. Чаму ўзнікла пытанне аб праведзенні мяжы па рацэ Сож? Таму што на левабярэжжы знаходзіўся Добрушскі папяровы камбінат, да якога былі вельмі ахвочыя прадстаўнікі новаўтвараемай Бранскай губерні. На пасяджэнні парытэтнай падкамісіі яшчэ 26 снежня 1926 г. прадстаўнік РСФСР Гадзееў заявіў: «Мы маем даручэнне паставіць на абмеркаванне пытанне аб Добрушскім раёне; да нас паступіла хадайніцтва Бранскага выканкома аб адпаведнай змене межаў БССР». (Заўважым, што не насельніцтва Добрушскага раёна, а Бранскага выканкома! — *А. Ц.*) Бранскія ўлады вельмі добра выкарысталі момант заяўлення гэтай прэтэнзіі. Справа ў тым, што днём раней прадстаўнікі Беларусі зрабілі карту размежавання ў адпаведнасці з Пастановай УЦВКа аб далучэнні Гомельскага і Рэчыцкага ўездаў да Беларусі. Пераканаўшыся, што беларусы дакладна выконваюць прадпісанні Масквы, не прэтэндуюць на тэрыторыі, аб чым сведчыла і карта, прадстаўленая расійскай дэлегацыі ў парытэтнай камісіі, Бранскі выканкам пайшоў у наступленне.

Хацкевіч, абараняючы пазіцыю Беларусі, заявіў: «Мы... ставілі пытанне аб далучэнні часткі Гомельшчыны да БССР, матывуючы гэта, галоўным чынам, нацыянальным момантам. Зыходзячы з такога палажэння, мы мелі б права патрабаваць выпрамлення мяжы ў бок тэрыторыі, што застаецца ў РСФСР, за кошт тых валасцей, у якіх ёсць большасць беларусаў, аб чым сведчаць заявы сялян. Але ў сувязі з тым, што ёсць цвёрдае рашэнне вышэйшых органаў (Маскоўскіх. — *А. Ц.*), нам неабходна замацавацца ў фактычна існуючых межах»[43]. Яшчэ больш канкрэтна выказаўся Калінін: «Калі дэлегацыя (РСФСР. — *А. Ц.*) будзе ставіць пытанне такім чынам, мы са свайго боку паставім шэраг пытанняў аб змене межаў... Аб далучэнні да БССР раёнаў з беларускім насельніцтвам, якое пражывае ў межах РСФСР. Мы лічымся з пастановай вышэйшых савецкіх органаў і не вылучаем зараз гэтых пытанняў. Але пры ўмове, што дэлегацыя РСФСР, у сваю чаргу, зноў не вылучыць пытанне аб Добрушскім раёне». Гэтая заява Калініна крыху паўплывала на процілеглы бок. Прадстаўнік ад Расіі — Райхман пачаў «замазваць» узнікшую спрэчку: «Стоит ли сейчас спорить, какое преимущественно население в Добрушском районе — белорусское или русское... Заявление о Добруше мы сделали только для того, чтобы вы знали, что с этим вопросом вы можете столкнуться и в будущем. С другой стороны — нам надо было выполнить данное нам поручение». Цікавая логіка... Быццам бы не нацыянальны склад насельніцтва з'явіўся падставай для ўз'яднання гэтых тэрыторый з БССР!

Кропку ў дэбатах паставіў Хацкевіч. Ён заявіў, што калі расійская частка падкамісіі будзе ўздымаць пытанне ў Маскве аб далучэнні Добрушскага раёна да РСФСР, то беларусы выкажуць контрпрэтэнзію на частку тэрыторыі РСФСР — па нацыянальных і эканамічных матывах. А такія матывы былі. У час таго ж пасяджэння прадстаўнік Беларусі Станішэўскі падкрэсліў, што ў Краснабудскай воласці пераважае беларускае насельніцтва. Тое ж адзначыў і прадстаўнік РСФСР, ужо згаданы Гадзееў, да якога звярнуўся жыхар вёскі Фешні Краснагорскай воласці Кліпцоўскага ўезду з прашэннем аб далучэнні да БССР. Жыхар той матываваў сваё хадайніцтва аднолькавасцю глебы, падобнасцю мовы (чудно гаворым, як і беларусы) і г.д.*

Аналізуючы даныя гэтага красамоўнага пратаколу, можна зрабіць адпаведныя вывады. Па-першае, Добрушскі раён, з-за папяровай фабрыкі ў першую чаргу, стаў прадметам гандлярства і нават шантажу з боку бранскіх уладаў.

Згодніцтва ўрада БССР, вядома, пад дыктоўку Масквы, было ўзнагароджана перадачай Беларусі папяроўні. А на інтарэсах і памкненнях народа, як і ў час уз'яднання ў 1924 г., быў пастаўлены крыж. У сувязі з гэтым варта адзначыць, што пасля заключэння Рыжскага міру паміж РСФСР, УССР і Польшчай, а таксама пасля падзей, якія мелі месца ўнутры РСФСР, тэрыторыя Беларускай ССР зменшылася. Яна раўнялася 59,632 км² з насельніцтвам у 1 634 223 чалавекі. Пасля ўзбуйнення ў 1924 г. тэрыторыя павялічылася да 110 810 км², а насельніцтва — да 4 171 886 чалавек. 1926 г. Тэрыторыя Беларусі ўжо 125 516 км², а насель-

* Вёску Фешні мы не здолелі знайсці на карце БССР. Але каля самой мяжы Гомельскай вобл., у Краснагорскім раёне Бранскай вобл., ёсць вёска Фошное.




Карта Беларускай ССР у 1932 г.


СХЭМАТЫЧНАЯ
КАРТА
БССР
З МЕЖАМІ РАЁНАЎ І СЕЛЬСАВЕТАЎ
ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ВУЧОТУ
Б.С.С.Р.
1932 г.
Маштаб 1:1.000.000
10 5 0 10 20 30 40 50 КЛМ.
30°
30'
31°
30'
32°
30'
33°
56°
30'
55°
30'
54°
С.
Ф.
С.
Р.
ГАРАДОК
СУРАЖ
ВІЦЕБСК
ЛЕЗНА
СЯННО
ДУБРОЎНА
ВОРША
ГОРКІ
ШКЛОЎ
МАГІЛЕЎ
ЧАВУСЫ
КРЫЧАЎ
КЛІМАВІЧЫ
МСЬЦІСЛАЎ


ЧАВУСЫ
КРЫЧАЎ
ХЛІМАВІЧЫ
ЧЭРЫКАЎ
БЫХАЎ
ПРАПОЙСК
КАСЦЮКОВІЧЫ
ЧЫРВАНАПОЛЬЛЕ
КАРМА
РАГАЧЭЎ
ЖЛОБІН
ЧАЧЭРСК
Б. КАШАЛЕЎСКАЯ
УВАРАВІЧЫ
ВЕТКА
ГОМЕЛЬ
РЭЧЫЦА
ЦЕРАХОЎКА
ЛОЕЎ
ХОЙНІКІ
БРАГІН
КАМАРЫН
Р.
С.
УМОЎНЫЯ ЗНАКІ
Б.С.С.Р.
раённай
сельсаветаў
Чыгункі
Шосы
Рэкі
Цэнтр раённай
„ сельсав.
30'
55°
30'
52°
30'
0'
30°
30'
31°
30'
32°
30'
...енск, Друк-літ. імя т. Сталіна.
Галоўліт №1717. Зак. №2229. Тыр 8.000

8 Зак. 5429.

ніцтва 4 979 702 чалавекі. Як бачым, тэрыторыя склала крыху больш за 1/3 беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, а насельніцтва менш паловы ўсіх беларусаў.

Сказаць, што пытанне аб дзяржаўных межах на ўсходзе было поўнасцю знята, — нельга. У архіўных дакументах сустракаюцца факты, якія ўскосна сведчаць аб нязгодзе прадстаўнікоў беларускай грамадскасці і нават урада з такім становішчам. Газета «Звязда», напрыклад, 29 жніўня 1926 года змясціла матэрыял, у якім паведамлялася аб этнаграфічнай экспедыцыі Інбелкульта ў Себежскі, Веліжскі і Невельскі ўезды былой Віцебскай, зараз Пскоўскай вобласці. Члены экспедыцыі на чале з І. Сербавым адзначаюць агульнасць рысаў эканамічнага і этнаграфічнага характару з нашымі, падкрэсліваюць вялікія памкненні насельніцтва да ўз'яднання з БССР. Сяляне паўсюдна заяўлялі, што іхняя радзіма — Віцебшчына і Полаччына. І яны былі б рады, калі б іхні край далучылі да БССР. Крыху раней на Смаленскай радыёстанцыі адбылася перадача, у якой прагучала выступленне А. Гейчыка — загадчыка беларускай секцыі ў Смаленскім губаддзеле народнай адукацыі. Пасля красамоўных прыкладаў знявагі з боку смаленскіх губернскіх улад да ўсяго беларускага ён сказаў: «З узбуйненнем Беларускай тэрыторыі пытанне адносна беларускага насельніцтва далёка не вычарпана не толькі ў межах Смаленскай губерні (за выключэннем Гжацкага, Сычоўскага і ўсходняй часткі Вяземскага ўездаў), але і іншых губерняў, якія мяжуюць са Смаленскай, напрыклад, Гомельскай і Віцебскай. Апошнія не ўвайшлі ў склад Беларусі, хаця населены беларусамі на 75—80 працэнтаў. Ніякія навукоўцы не змогуць абвергнуць гэтую лічбу, таму што жыццёвыя факты гавораць самі за сябе. Перад імі бляднеюць тыя адказныя работнікі, якія гавораць, што няма беларусаў, а ёсць, маўляў, рускія людзі, якія гавораць на ламанай рускай мове»[44].

Цяга да радзімы, да Беларусі захавалася і ў пазнейшыя часы. Па некаторых даных, у часы хрушчоўскай адлігі выканкам Невельскага раёна звярнуўся ў Вярхоўны Савет БССР з прашэннем аб уваходжанні ў склад нашай рэспублікі. Дэталі гэтага працэсу пакуль што невядомы, але факт застаецца фактам. Можа, таму ставіць кропку рана?..

## ШМАТПАКУТНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цяжка назваць у Еўропе рэгіён з такім горкім лёсам, які выпаў на долю нашай зямелькі ў XX ст. У гэтай сувязі амаль прароцкі гучаць словы са звароту беларусаў-уцекачоў і грамадзян Беларусі на мітынгу 14 красавіка 1918 г. у Петраградзе. «Вы, украінцы, імкнецеся свае паўночныя межы пашырыць за кошт беларускіх паветаў Чарнігаўскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў. Вы, літоўцы, імкнецеся далучыць да сябе беларускія паветы Ковенскай, Гродзенскай і Віленскай губерняў, а прадстаўнікі вашых імперыялістаў парываюцца на ўсю паўднёва-заходнюю частку Беларусі. Вы, палякі, карыстаючыся тым, што Беларусь, разам з Літвой, калісь была ўсходняй ускраінай вашага караля і ягоных пахолкаў, усю Беларусь, ад Беластока да Дняпра, спрабуеце ўключыць у межы свайго зноў ствараемага каралеўства». Кіруючыся палітычнымі меркаваннямі, мітынгуючыя тактоўна апусцілі назвы ўсходніх тэрыторый, хаця ў самой рэзалюцыі адзначана: «трыста сорак сем гадоў Беларусь прыгнятала каралеўская Польшча, а сто дваццаць наступных гадоў яе тыраніла расійская карона»[1]. І ўсё ж, не гледзячы на гэты ўціск, на кожным гістарычным рубяжы пытанне незалежнасці ўзнікала з новай сілай.

Так адбывалася і ў нашым, XX стагоддзі. Тэрыторыя, аб'яднаная этнічна, гістарычна і эканамічна, але раз'яднаная палітычна, з нагоды хцівых суседзяў, безадказных палітыканаў і нашых уласных калабарацыяністаў, распасцёрлася ад Нарэва і Буга на захадзе, да вярхоўяў Дняпра, Заходняй Дзвіны і Волгі на усходзе.

Гістарычная праўда зацемнена шматлікімі фальшывымі працамі, што пісаліся не з мэтай пошуку ісціны, а з мэтай яе ўтойвання. І чым бліжэй да нашага часу, тым больш з'яўляецца такіх «работ».

Але і сярод нагрувашчання адмысловай хлусні можна знайсці асобныя кнігі, напісаныя з праўдзівых пазіцый. Адной з іх, першай у XX ст., з'яўляецца праца Я. Карскага. Кніга была выдадзена ў 1904 г. у Вільні[2]. У ёй дадзена шмат грунтоўных назіранняў і абагульненняў, якія не страцілі сваёй навуковай каштоўнасці на сённяшні дзень. Ёсць у ёй і такія звесткі, якія з'яўяцца поўнай нечаканасцю для сучасніка. Я. Карскі заўважае, напрыклад, што насельніцтва Усурыйскага краю на 5/6 складалася з беларусаў.

Але звернемся да нашай шматпакутнай зямлі. Беларускі народ, раскіданы пры царызме па розных адміністрацыйных адзінках, тады яшчэ быў здольны зберагаць свой лад жыцця і сваю мову. Вось як зазначаў гэта даследчык: «Беларуская мова, у той ці іншай ступені, гучыць у губернях: Віцебскай (большая частка), Курляндскай (нязначная частка), Ковенскай (нязначная частка), Віленскай (большая частка), Гродзенскай (палова), Сувалкскай (адзін павет), Мінскай (большая частка), Магілёўскай (уся губерня), Чарнігаўскай (значная частка), Арлоўскай (заходні кут), Калужскай (нязначная частка), Смаленскай (большая частка), Цвярской (нязначная частка), Пскоўскай (нязначная частка)»[3]. Зноў жа Я. Карскі склаў і «Этнаграфічную карту Беларускага племені». Па ягоных падліках, колькасць беларусаў у пачатку XX ст. складала 8 317 961 чалавек. Пры гэтым у сваіх даследаваннях вучоны строга карыстаўся лінгвістычнымі (моўнымі) адметнасцямі і ўсе спрэчныя пытанні вырашаў не на карысць беларускага этнасу. Так ён праігнараваў паўднёва-заходні кут, дзе моўныя адметнасці ішлі на карысць украінскай мовы. І гэта не ўлічыўшы ў поўнай ступені культурна-эканамічную, этнаграфічную і гістарычную супольнасць. Ягоны сучаснік, беларускі гісторык М. Доўнар-Запольскі, выправіў памылку калегі і стварыў новую карту, якая ўлічвала ўсе фактары — ад моўных да гісторыка-этнічных. Апошняя карта якраз і ўстанаўлівала сучасную паўднёвую мяжу амаль такім чынам, як яна існуе і сёння. Абедзве карты адыгралі пэўную ролю ў падзеях на Беларусі.

Пытанне аб нацыянальнай незалежнасці і палі-




Стратэгічныя ядзерныя базы Савецкай Арміі на зямлі Рэспублікі Беларусь (з газеты «Свабода», №№ 3 — 4, 1991 г.).

тычным прызнанні «стала рубам» пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі і Кастрычніцкага перавароту ў 1917 г. Хваля нацыянальнай свядомасці, што ўзнялася паўсюдна, вымагала да пошукаў новых форм нацыянальнага існавання. Крах імперый нарадзіў шмат новых дзяржаў на палітычнай карце Еўропы. У гэты час абудзіліся Венгрыя, Аўстрыя, Чэхаславакія, Польшча, Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва. Апошнія пяць вылучыліся, галоўным чынам, з былой Расійскай імперыі. Дарэчы, у свой час яны былі ўключаны ў склад імперыі адначасова з Беларуссю: Фінляндыя на самым пачатку XIX ст., большая частка Латвіі і Эстоніі яшчэ пры Пятры I у пачатку XVIII ст. Дзеля справядлівасці адзначым, што Латвія, як асобная суверэнная дзяржава, ніколі не існавала раней. Некалі тут было Інфляцкае княства, якое належала Рэчы Паспалітай. Земгала і Курляндыя далучаны да Расіі на пачатку XVIII ст. Беларусь жа, як вядома, была захоплена царскім урадам у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай — у 1772, 1793, 1795 гг.

На пачатак XX ст. беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, які меў ужо за сваімі плячыма звыш двух дзесяцігоддзяў актыўнай барацьбы на палітычнай арэне, рабіў пэўныя захады на шляху незалежнасці. 25 сакавіка 1918 г. была прынята III Устаўная грамата, якая абвясціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай і вольнай дзяржавай. Яе тэрыторыя, у адпаведнасці з граматай, ахоплівала Магілёўшчыну, беларускія часткі Міншчыны, Віленшчыны, Гродзеншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны, а таксама сумежныя часткі суседніх губерняў, якія былі заселены беларусамі. Стварэнне БНР не ўпісвалася ў бальшавіцкую дактрыну. У сувязі з гэтым былі прыняты адпаведныя захады. На II з'ездзе Саветаў Заходняй вобласці, як рэакцыя ў адказ на абвяшчэнне БНР, была прынята рэзалюцыя ад 14 красавіка 1918 г. У ёй гаварылася: «II з'езд Саветаў Заходняй вобласці прызнае, што ў цягу расійскай рэвалюцыі выявілася неабходнасць аб'яднання старых губерняў у абласныя адзінкі на прынцыпах эканамічных, геаграфічных і этнаграфічных, што губерні Смаленская, Магілёўская, Віцебская і Мінская... якія зліваюцца па свайму геаграфічнаму становішчу, натуральна цягнуцца адна да адной, утвараючы адзінае цэлае — Заходнюю вобласць»[4]. Нагадаем, што ў склад савета камісараў Заходняй вобласці ўваходзіла пяць яўрэяў, тры палякі, па аднаму — літовец, латыш і беларус[5]. Цікава, што ў дакументах СК Заходняй вобласці слова «беларускі» ўжывалася толькі ў адмоўным сэнсе, асабліва калі ўзнікала патрэба зняславіць БНР. Тым не менш стварэнне Заходняй вобласці, з цэнтрам у Смаленску, з'явілася хоць і вымушаным, але ўсё ж крокам на шляху прызнання бальшавікамі натуральнага права і імкнення беларусаў да адраджэння сваёй дзяржаўнасці. Тым часам у бальшавіцкіх арганізацыях, асабліва на месцах, працягваюць ганьбіць «сепаратызм» Беларускай рады[6]. У шальмаванні ўдзельнічаюць толькі тыя арганізацыі, якія знаходзяцца на неакупаванай кайзераўскімі войскамі частцы Беларусі. У тыле германскай арміі адбываецца падпольная канферэнцыя камуністычных арганізацый Літвы і Беларусі. У рэзалюцыі яе падкрэслівалася, што асноўнай задачай камуністаў з'яўляецца арганізацыя авангарда рабочых і сялянскіх мас, кіраўніцтва класавай барацьбой. Тут жа былі сфармуляваны задачы барацьбы супраць нямецкіх акупантаў, а таксама супраць тых дробнабуржуазных партый, якія падтрымлівалі Беларускую раду[7].

Узнікае натуральнае пытанне, чаму заклікалі да барацьбы з саюзнікамі Беларускай Рады? Кайзераўскімі войскамі, між іншым, была акупіравана і Літва. Але рэзалюцыя не заклікала да барацьбы з Літоўскай буржуазнай Тарыбай. Хіба апошняя не ставіла тых жа мэт, што і Беларуская Рада? Адказ вельмі просты — Беларуская Рада мела падставы, як юрыдычныя, так і гістарычныя, рэальна прэтэндаваць на распаўсюджанне свайго ўплыву на значна большую тэрыторыю, чым Літоўская Тарыба. Да таго ж Беларусь знаходзілася на галоўным, паміж усходам і захадам, стратэгічным напрамку. Таму і захады ўрада БНР лічыліся больш небяспечнымі.

Пасля выгнання з Мінска кайзераўскіх войск камандаванне Чырвонай Арміі аддало адным і тым жа днём (10 снежня 1918 г.) тры загады. Апошні, трэці, ад імя толькі што створанага Ваенна-Рэвалюцыйнага камітэта, абвяшчаў абавязковым роспуск Беларускай Рады і арышт усіх яе членаў[8].

Але цягнік ужо рушыў, ідэя волі і незалежнасці авалодала масамі. Каб перацягнуць на свой бок беларусаў, у канцы снежня 1918 г. ЦК РКП(б)Б прыняў рашэнне аб аб'яўленні альтэрнатыўнага БНР дзяржаўнага ўтварэння — БССР. У звароце Цэнтральнага бюро беларускіх секцый РКП(б) ад 29 снежня падкрэслівалася: «У гэтай тытанічнай барацьбе мусім прымаць удзел і мы, беларусы: наш 12-мільённы народ, пад'ярэмны волі польскіх, літоўскіх каралёў і рускіх цароў, зараз, каб быць вольным, абавязан, як адзін чалавек, устаць на абарону Расійскай Савецкай Федэратыўнай Рэспублікі, на абарону сацыялізму». Ворагамі рэвалюцыі называліся Літоўская Тарыба, Украіна Скарападскіх і Пятлюр, Польшча і Беларуская Рада. VI абласная канферэнцыя Заходняй вобласці, якая адбылася крыху пазней, аб'явіла сябе I з'ездам Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі. У рэзалюцыі ад 30 снежня 1918 г. гаварылася: «VI абласная




Беларускія землі, забраныя Расіяй у 1919 г.

канферэнцыя бальшавікоў лічыць неабходным аб'явіць Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусь з тэрыторый Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў»9. Тэрыторыя Віленскай губерні была пакінута па-за ўвагай, таму што там бальшавікамі стваралася альтэрнатыўная буржуазнай Літве Літоўская ССР. У гэты ж дзень ад імя з'езда Кампартыі бальшавікоў Беларусі была прынята пастанова аб тэрыторыі рэспублікі. У ёй дакладна апісваліся межы ССРБ, асноўным ядром лічыліся Мінская, Смаленская, Магілёўская, Віцебская і Гродзенская губерні з часткамі пагранічных тэрыторый, населеных пераважна беларусамі. Менавіта такімі былі: у Ковенскай губерні — частка Новааляксандраўскага павета; у Віленскай губерні — Вілейскі павет, частка Свянцянскага павета, частка Ашмянскага павета; у Чарнігаўскай губерні — Суражскі, Мглінскі, Новазыбкаўскі паветы; Аўгустаўскі павет. Са складу Смаленскай губерні (на карысць РСФСР. — *А. Ц.*) маглі быць выключаны Гжацкі, Сычоўскі, Вяземскі і Юхнаўскі паветы, а з Віцебскай — часткі паветаў Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага. Ва ўсіх тых паветах, дзе ўзнікалі спрэчныя сітуацыі, меркавалася зрабіць урадавыя камісіі для размежавання.

Увогуле ўся тэрыторыя ў адміністрацыйна-гаспадарчым плане была падзелена на 7 раёнаў у адпаведнасці з адміністрацыйнымі цэнтрамі. Мы назавём толькі тыя паветы, якія сёння не ўваходзяць у Рэспубліку Беларусь, але якія адпавядаюць тагачаснаму дзяленню ў межах раёнаў:

1. Мінскі раён — Свянцянскі (зараз Швянчоніс, Літоўская рэспубліка);
2. Смаленскі раён — складаўся з паветаў Смаленскага, Бельскага, Духаўшчынскага, Парэчскага, Дарагабужскага, Ельнінскага, Красінскага і Рослаўскага (зараз усе ў складзе РСФСР).
3. Віцебскі — Веліжскі і Невельскі, Себежскі (зараз у складзе РСФСР).
4. Магілёўскі — павятовыя цэнтры ўсе ў складзе Рэспублікі Беларусь.
5. Гомельскі — Суражскі, Лалінскі, Старадубскі (зараз у складзе РСФСР).
6. Гродзенскі — Аўгустаўскі, Сакольскі і Беластоцкі (усе ў складзе ПР).
7. Баранавіцкі — (усе ў складзе РБ).

Такі падзел адпавядаў прыкладна вынікам навуковых даследаванняў Я. Карскага і М. Доўнар-Запольскага з тэарэтычнага боку. Адпавядаў і з пункту гледжання культурна-эканамічных і гісторыка-палітычных сувязей, якія сфарміраваліся на працягу ўзнікнення, развіцця і існавання беларускага этнасу. Праўда, у гэтым пераліку адсутнічаюць паўночна-заходнія тэрыторыі і іхні цэнтр, цэнтр беларускай цывілізацыі — Вільня. Справа тлумачыцца проста. У стратэгічных планах бальшавікоў галоўным было стварэнне альтэрнатыўных




Карта аб'яўленай тэрыторыі Літоўска-Беларускай Рэспублікі (люты 1919 г.).

нацыянальным урадам прасавецкіх цэнтраў, якія б маглі прэтэндаваць на вядучую ролю ў распаўсюджванні ідэалогіі сусветнай рэвалюцыі. Нацыянальныя інтарэсы беларусаў (ды ці толькі іх!) былі другаснымі, асабліва калі справа тычылася галоўнай дамінанты вучэння — барацьбы класаў. Прыняць да ўвагі нацыянальныя інтарэсы можна было толькі па тактычных меркаваннях, а не як прынцыповую стратэгію. Вось як пісала газета «Звезда» ад 18 лютага 1919 г. аб імкненні групы беларускіх камуністаў дакладна акрэсліць беларускае пытанне: «принципы их были достаточно смехотворны, упорно «напиралось» на этнографическое родство белорусских губерний»[10]. Беларусі «пашанцавала» больш за іншыя дзяржавы і ў плане бальшавіцкіх маніпуляцый тэрыторыямі. Праз тыдзень пасля абвяшчэння БССР была прынята пастанова: сталіца Беларусі пераносілася са Смаленска ў Мінск, а тэрыторыя Беларусі ўключала ў сябе толькі дзве губерні — Мінскую і Гродзенскую. Усе ўсходнія перадаваліся РСФСР. Такая была «воля працоўных».

Яшчэ праз тры тыдні бальшавікі на чале з Леніным прыдумалі, як насаліць Літоўскай Тарыбе. Пры актыўным удзеле М. Калініна і Я. Свярдлова былі аб'яднаны Літоўская і Беларуская ССР у адзіную — Літоўска-Беларускую ССР пры федэратыўнай сувязі апошняй з РСФСР. Гэта тлумачылася бальшавікамі так: «обезопасить эти республики от возможности проявления в них национал-шовинистических устремлений». На самай справе рабілася спроба сутыкнуць ілбамі два народы, а затым выступіць у ролі вярхоўнага суддзі. І яшчэ было на мэце — паказаць буржуазнай Тарыбе, што пры ўладзе бальшавікоў літоўцам будзе лепш. Вядома, аніводнага беларуса ва ўрадзе ЛітБела не было! Праўда, праіснаваў гэты ЛітБел усяго некалькі месяцаў, разваліўшыся пад ударамі польскіх легіянераў.

Пройдзе яшчэ некаторы час, і бальшавікі падпішуць з імі ўмовы міру, якія дадуць, па выразу А. Іофе, «тую граніцу, якую жадала (Польшча. — *А. Ц.*). Расія і Украіна ў гэтым пытанні ішлі насустрач... вельмі шырока»[11]. Вядома ж — за кошт Беларусі! Ды і Расія добра «нагрэла рукі» пад шум страляніны і грукатанне конскіх капытоў, бо паспела-такі завалодаць Віцебшчынай, Магілёўшчынай, Смаленшчынай і г.д.

Увогуле пасля заключэння Рыжскага міру тэрыторыя, пакінутая БССР суседскімі палітыкамі, лёгка размяшчалася на 52 398 вёрстах. А насельніцтва складала крыху больш 1,5 мільёна чалавек. Яе межы «шырока» раскінуліся ад Барысава да Мазыра і ад Слуцка да Бабруйска. Менавіта ў гэтыя часы нарадзілася прымаўка: «У Беларусі тры сталіцы — Мінск, Лагойск і Плешчаніцы». Такое рэзкае звужанне межаў БССР у 1921 г. (параўнаем з дэклараванымі тэрыторыямі БНР у сакавіку 1918




**Межы нядзейсненага (чацвёрtaга 30-ых гадоў узбуйнення)**




Межы няздзейсненага (чацвёртага 30-ых гадоў узбуйнення)

г., затым БССР — у 1919 г.) тлумачыцца вельмі проста.

Маскоўскі ўрад зрабіў тэрыторыю БССР прадметам гандлю. Вынікам Рыжскага дагавору была страта заходніх абласцей Беларусі. Не выключалася, што і астатняя частка Беларусі магла быць перададзена на карысць заходняга суседа. 19 сакавіка 1921 г. у 8 гадзін 30 хвілін пачаліся перагаворы ў Рызе. Кіраўнікі дэлегацыі Ян Домбскі ад Польшчы, Адольф Іофе ад РСФСР (агульны кіраўнік дэлегацыі) і Юрый Кацюбінскі ад УССР выступілі з кароткімі прамовамі, адпаведна на польскай, рускай і ўкраінскай мовах. Потым пачаліся перагаворы. Першым выступіў Я. Домбскі, які падкрэсліў, што Польшча добраахвотна, кіруючыся прынцыпам самавызначэння народаў, прызнала незалежнасць Украіны і Беларусі. А. Іофе гаворыць аб самавызначэнні Расіі, успамінае аб Украіне, але ніводным словам не згадвае пра Беларусь. І толькі ў тэксце дагавора слова «Беларусь» сустракаецца ў артыкуле, дзе гаворыцца аб размежаванні граніц. Пазней выдатны бальшавіцкі дзеяч В. Кнорын пісаў, што Беларусь не ўдзельнічала ў Рыжскіх перагаворах. «так как она не принимала участия в войне советских республик (супраць Польшчы. — *А. Ц.*). Белорусская республика — результат русско-польской войны. До этой войны Советской Белоруссии не было»[12]. Нельга сказаць, што В. Кнорын быў шчырым у сваім выказванні. Яшчэ ў заяве УЦВК у верасні 1920 г., якая была падпісана М. Калініным і А. Енукідзе, гаварылася: «Зыходзячы з прынцыпу самавызначэння, РСФСР ужо ў 1917 годзе прызнала і нязменна прызнае безумоўна і без усялякіх абмежаванняў незалежнасць і суверэннасць Польскай Рэспублікі, з 1918 г. незалежнасць і суверэннасць Украіны і Беларусі. А ў 1920 г. падпісала мірны дагавор з незалежнай і суверэннай Літоўскай Рэспублікай»[13]. Дата заявы сведчыць сама за сябе. Якраз у гэты момант польскія войскі зноў перахапілі ваенна-стратэгічную ініцыятыву. Пачаліся папярэднія перагаворы ў Мінску. Ставілася задача збіць з панталыку магчымых саюзнікаў Польшчы — Беларусь і Украіну, а ў самой Польшчы пасеяць сумненні ў мэтазгоднасці далейшага наступлення. Калі ж на фронце наступае пэўная стабільнасць, пра Беларусь зноў забываюць.

Дзіўна, але 31 ліпеня таго ж года паўторна аб'яўляецца Дэкларацыя аб незалежнасці ССРБ. У ёй ёсць такія словы: «абапіраючыся на жаданне працоўных мас, выражанае на з'ездзе Саветаў у лютым 1919 г., са згоды Чырвонай арміі, Рэўваенсавета Заходняга фронта, ад імя паўстаўшых рабочых і сялян агалошана незалежная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь»[14]. Гэты дакумент падпісалі: ад ЦК Кампартыі ЛітБела — Смілга, той жа Кнорын, Чарвякоў, ад ЦК Бунда — Ванштэйн, ад ЦК беларускіх камуністычных арганізацый — Ігнатоўскі, ад Цэнтральнага савета беларускіх прафсаюзаў Мінска і губерні — Крыніцкі. Паказальна, што ў гэтай дэкларацыі быў пункт, які ніколі не выконваўся ў дачыненні да Беларусі. У ім гаварылася: «ССРБ определяет свою этнографическую границу с западными буржуазными государствами. Границы РСФСР и Украины определяет на съездах трудовой народ». Заходнія межы, як вядома, былі «определены» Рыжскім дагаворам без удзелу ССРБ, а пазней Ялцінскімі пагадненнямі, дзе таксама Беларусь ніякага ўдзелу не прымала. Што ж датычыць усходніх межаў, дык тыя «з'езды працоўнага люду» таксама не далі, як ужо пераканаўся шаноўны чытач, ніякага плёну.

Пасля другога абвяшчэння ССРБ, якое было неабходным у якасці аргумента ў Рыжскіх перагаворах, аб ёй зноў забыліся.

Толькі пасля неаднаразовых зваротаў да У. Леніна Старшыня СНК А. Чарвякоў дамогся, каб адносіны паміж ССРБ і РСФСР былі, нарэшце, аформлены дагаворам, падпісаным 16 студзеня 1921 г. Пры ўсёй ягонай умоўнасці была-такі захавана хоць нейкая бачнасць суверэннасці. Выкарыстоўваючы лозунгі крамлёўскіх правадыроў, урад Чарвякова здолеў часткова вярнуць усходнія беларускія землі — Віцебшчыну, Магілёўшчыну, Гомельшчыну, якія, як пісалася вышэй, тэрмінова ў 1918—1919 гг. былі аб'яўлены «исконно русскими». Са Смаленскай губерняй такога не адбылося. Не гледзячы на тое, што гэта таксама беларуская зямля, Масква пакінула яе за Расіяй. Хоць самі ж расійскія крыніцы сведчаць: «...большая половина населения этой губернии действительно относится к белорусскому племени ...по положению своему... и по общему своему естественному типу большая часть Смоленской губернии ничем не отличается от самых типических частей Белоруссии, с которой имеет гораздо более сходства, чем с соседними губерниями»[15]. Тое, што Смаленшчына — беларускі край, добра ведаў і сам У. Ленін. У 1921 г., даючы «разнос» сваім падначаленым за нездавальняючае выданне «Атласа России», ён угледзеў і такі недахоп: «...8. Пропущены из старых карт: ...Смоленск и окружающие губернии (Белоруссия)»[16]. Частка былых Віцебскай і Магілёўскай губерняў была вернута ў 1924 і 1926 гг., але толькі частка. І нават гэты працэс, шырока разрэкламаваны бальшавікамі, не быў даведзены да канца. Шматлікія прашэнні насельніцтва аб вяртанні іхніх зямель у межы Беларусі былі пакінуты без увагі. Праўда, ускосныя даныя дазваляюць меркаваць, што ў канцы 20 — пачатку 30-ых гг., планавалася вяртанне Смаленшчыны. Пра тое ж сведчыць і карта «БССР і Заходняя вобласць», на якой межы апошняй амаль супадаюць з тымі, што былі дэкларованы ў час абвяшчэння БССР 1 студзеня 1919 г. Ды і цэнтр Беларускай вайсковай акругі таксама ў 20 — пачатку 30-ых гг. знаходзіўся ў Смаленску.

Праз нейкі час адбылася змена палітычных арыенціраў. У рэшце рэшт тэрытарыяльныя праблемы часова былі зняты. А яшчэ дакладней — кардынальна так і не былі вырашаны. Дзеля аб'ектыўнасці нагадаем толькі, што ў 1964 г. Беларусі было вернута ажно... 2256 гектараў зямлі. Восем вёсак — частка былой Аслянскай воласці, а тады калгас «Путь к коммунизму» — пасля саракагадовага чакання зноў апынуліся ў складзе Беларусі[17]. Але гэта была не Смаленшчына, а маленькая частка былога Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні.

На Захадзе вынікі Рыжскага міру былі практычна ануляваны 17 верасня 1939 г. Але нядоўга працягвалася еднасць заходніх зямель Беларусі з усходнімі і цэнтральнымі. Не вельмі шчаслівым было жыццё беларусаў пад крывавым дыктатам сталінізму.

Фашысты ў 1941 г. зрабілі з тэрыторыяй




Беларуская ССР у 1940 г. (з газеты «Звязда», № 32, 1940 г.).

Беларусі амаль тое ж, што бальшавікі ў 1921 г. Генеральная акруга Беларусь («Генераль бяцырк Вайструтеніен») была зведзена да невялічкай прасторы, якая складалася з Баранавіцкай, часткі Мінскай і Вілейскай, паўночных раёнаў Пінскай і часткова Брэсцкай абласцей. Гэта складала прыкладна чацвёртую частку даваеннай Беларусі. (Прыкладна 60—70 тыс. км². — *А. Ц.*) Усходняя частка была перададзена ваеннай адміністрацыі. Тут была створана вобласць аховы групы арміі «Цэнтр». Паўднёвая тэрыторыя — усё беларускае Палессе — была далучана да «Рэйхскамісарыяту Украіны». Беласточчына і паўночныя раёны Брэстчыны ўвайшлі ў склад акругі «Беласток», якая знаходзілася пад кіраўніцтвам усходне-прускай адміністрацыі. А паўночна-заходнія раёны гітлераўцы, быццам бы выконваючы ленінскі Расійска-Літоўскі дагавор 1920 г., перадалі «генеральнай акрузе Літвы».

Яшчэ перад канцом другой сусветнай вайны, 16 жніўня 1945 г., быў прыняты закон аб Савецка-Польскай мяжы. Згодна з ім амаль уся Беластоцкая вобласць была перададзена Польшчы[18]. У выніку Беларусь страціла Аўгустаўскі, Беластоцкі, Бельскі, Бранскі, Граеўскі, Дамброўскі, Едвабнаўскі, Заблудаўскі, Замброўскі, Кольнаўскі, Крынкаўскі, Лапскі, Ломжынскі, Монькаўскі, Снядаўскі, Сакольскі, Цеханавецкі і Чыжэўскі раёны. У Брэсцкай вобласці былі страчаны Кляшчэльскі і Гайнаўскі раёны. Дарэчы, рашэнне па дадзенаму перадзелу сталінская верхавінка прымала яшчэ ў верасні 1944 г., калі быў прыняты закон аб стварэнні Гродзенскай вобласці.

З аднаго боку, гэтае ахвярапрынашэнне Сталін зрабіў, каб дагадзіць сваім саюзнікам — Чэрчылю, Рузвельту, Дэ Голю, якія маглі думаць адносна Беларусі толькі катэгорыямі нябожчыка лорда Керзана. З другога боку, гэтая «ахвяра» рабіла беларусаў у Польшчы заложнікамі ў палітычнай гульні паміж Масквой і Варшавай.

Неўзабаве Польшча стала «сацыялістычнай». Якія выгоды мела Масква? Заўчасная перадача Беласточчыны стварала добрую падставу для далейшых умяшанняў у польскія ўнутраныя справы. На той выпадак, калі Польшча будзе сябе «не так паводзіць». Апошняе «ўдакладненне» мяжы адбылося ў 1950 г., калі на карысць Польшчы быў перададзены яшчэ шэраг беларускіх вёсак. Так «выконваўся» закон ад 14 лістапада 1939 г. аб уз'яднанні «великого белорусского народа в едином белорусском государстве».

У XX ст. Беларусь перанесла восем падзелаў. За яе кошт набывалі спрадвечныя беларускія землі ледзь не ўсе суседзі. У 1918 г. — Расія і Германія; у 1919 г. — да Расіі далучаны ўсходнія землі; у 1920 г. — ад Беларусі Крамлём перададзены землі на




Заходняя частка БССР (1939 — 1944 гг.)




Фашысцкі падзел Беларусі 1941—1944 гг.

карысць Літвы і Латвіі; у 1921 г. — РСФСР і УССР аддалі Заходнюю Беларусь Польшчы; у 1939 г. — сталінскі падарунак Вільні Літве; у 1940 г. — па загаду з Масквы Літве адлучаны паўночна-заходнія землі; у 1944—1950 гг. — Польшчы аддадзена Беласточчына: у 1986 г. — трэцяя частка Беларусі забруджана атамнай катастрофай, якая адбылася па-за яе межамі.

І ўсё ж беларусы, думаецца, ніколі не стануць еўрапейскімі курдамі.

Часы мяняюцца да лепшага. Мяняецца сусвет. Галоўнае ж, адна шостая зямной цвердзі набывае, часта ў болі і пакутах, чалавечае аблічча. З сярэдзіны 80-ых гг. пачынаюцца паступовыя зрухі і на нашай роднай зямлі.

Беларусь, БНР, БССР, Рэспубліка Беларусь. Вызваляемся мы, нарэшце, з пут, развітваемся з камуністычнымі забабонамі. Наперадзе — вяртанне ў Еўропу, у сусветную цывілізацыю. Яна жыве. Жыве Беларусь!

# Крыніцы і літаратура


### Ад мяжы — да граніцы

1 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 (Статут 1588). Мн., 1989. С. 262.
2 Gloger Z. Encyklopedia staropolska. T.III. Warszawa, 1978. S. 81.
3 Дипломатический словарь. Т. 1. М., 1985: С. 299—300.
4 Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 549—550; Гринблат М. Белорусы. Мн., 1968; Этнагенэз беларусаў. Мн., 1985; Пилипенко М. Возникновение Белоруссии. Мн., 1991; і інш.
5 *Эркерт Р.* Этнографический атлас западнорусских губерний и соседних областей. СПб., 1863; Флоринский Т. Этнографическая карта западного славянства и Западной Руси; Риттих А. Этнографическая карта Европейской России. 1875; Карский Е. Этнографическая карта белорусского племени. Пгр., 1917; Ostrowski W. The Ancient Names and Early Cartography of Byelorussia. London, 1971 і інш.
6 История БССР. Вып. 1. Мн., 1946. С. 5—18; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 13—14.
7 *Ермаловіч М.* Цыт. тв. С. 13.
8 Великое княжество Литовское в XIII—XV вв. // Белорусская ССР: Краткая энциклопедия. Том I. Мн., 1979. С. 168—169; М.Ф. Спиридонов. Белоруссия в конце XVI века. Там же.
9 Этнаграфія Беларусі. С. 47—48; Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991. С. 40—43; Пилипенко М. Цит. соч. С. 114—123.
10 Jakubowski Jan. Powiat Grodzieński w XVI wieku. //Prace Komisji Atlasu Historycznego Polski. Zesz. 3. Kraków, 1935.
11 Jakubowski Jan. Wielkie Ksiestwo Litewskie w połowie XVI wieku. Zcesc północna. Lwów, 1927.
12 Ibld.
13 Спиридонов М.Ф. Цит. карта.
14 *Ермаловіч М.* Цыт. тв. С. 264—269.
15 Там жа. С. 285.
16 Там жа. С. 287.
17 Русско-Ливонские акты. СПб., 1868. С. 13.
18 *Ермаловіч М.* Цыт. тв. С. 341.
19 Zarys Historii Polski. Warszawa, 1980. С. 267.
20 Этнаграфія Беларусі. С. 275.
21 *Рапов О.М.* Княжеские владения на Руси в X — первой половине XIII вв. М., 1977. С. 38.
22 Там же. С. 188.
23 Там же. С. 181—182.
24 Великие Луки. 800 лет. Л., 1966.
25 *Рапов О.М.* Цит. соч. С. 42.
26 Дипломатический словарь. Т. 1. С. 197.
27 Polonia Secundum Legitimas Proectionis Stereographicae Regulas et Iuxta Regentissimas Obseryationes Adhibitis. MDCCLXX. Herman Karol de Perthees.
28 Специальная карта западной части Российской империи, составленная под рук. г. Шуберта. Испр. в 1865 г. Масштаб 10 верст в дюйме (1:420 000). Изд. Ген. штаба (СПб).
29 *Ластоўскі В.* Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. Факсімільнае выданне. Менск, 1991. С. 282—283; Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 2. Мінск, 1978. С. 719.
30 *Рапов О.М.* Цит. соч. С, 147.
31 Альгерд хадзіў на Маскву тройчы: у 1368, 1370 і 1372 гадах. 1375 год пададзены летапісцам памылкова.
32 Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). Т. 32. М., 1975. С. 61.
33 Там же. С. 62.
34 Там же. С. 73.
35 Natanson-Leski Jan. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. CZ. 1. Granica moskiewska w epoce jagiellońskiej. Lwów-Warszawa, 1922. S. 38—39.
36 Васіль Васільевіч (Васіль II Цёмны) быў сынам Соф'і Вітаўтаўны і Васіля Дзмітравіча, бацькам Івана III.
37 Собрание государственных грамот и договоров, хранящихся в государственной коллегии иностранных дел (СГГД). Ч. 5. М., 1894. С. 127.
38 *Ключевский В.О.* Сочинения в девяти томах. Т. II. Курс русской истории. Часть II. М., 1988. С. 111.
39 СГГД. С. 25.
40 Natanson-Leski J. Op. cit. S. 93—97.
41 Ibid. С. 114—116.
42 СГГД. С. 97—98.
43 Рэч Паспалітая ўзнікла пасля заключэння Люблінскай уніі паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай у 1569 годзе.
44 Дипломатический словарь. Т. III. М., 1986. С. 615.
45 Там же. Т. I. С. 303—304.
46 Там же. Т. II. С. 401—402.
47 Там же. С. 81—82.
48 Там же. Т. I. С. 197.
49 *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 154.
50 ПСРЛ. Т. 32. С. 63.
51 Natanson-Leski J. Op. cit. S. 36.
52 Ibid. S. 60.
53 СГГД. С. 25—26.
54 Natanson-Leski J. Op. cit. S. 132.
55 Ibid. S. 135—136.
56 Дипломатический словарь. Т. I. С. 303—304.
57 Там же. Т. II. С. 401—402.
58 *Шеламанова Н.Б.* К истории западной границы России в первой половине XVII в. // Историческая география России. XII—начало XX в. М., 1975. С. 63—69.
59 Дипломатический словарь. Т. I. С. 81—82.
60 Polonia Secundum...
61 Найлепш гэта відаць на карце Радзівіла і Макоўскага 1613 г.
62 Этнаграфія Беларусі. С. 101, 179—180, 183.
63 *Грушевский А.* Очерк истории Турово-Пинского княжества. XI—XIII вв. Киев, 1901. С. 18—19.
64 *Котляр Н.Ф.* Формирование территории и возникновение городов Галицко-Волынской Руси IX—XIII вв. Киев, 1985. С. 159, 167.
65 *Ермалович М.* Цыт. тв. С. 345.
66 Акты, относящиеся к истории Западной России (АЗР). Т. 1. СПб., 1846. С. 1.
67 *Gloger Z.* Geografia historyczna Ziem dawnej Polski. Kraków, 1900. S. 308.
68 *Klubówna A.* Ostatni z wielkich Piastów. Warczawa, 1982. S. 61.
69 *Шолкович С.* О границах Польской короны и Великого княжества Литовско-Русского // Памятники русской старины в западнорусских губерниях. Вып. 8. СПб., 1885. С. 21.
70 *Jakubowski Jan.* Wielkie Ksiestwo Litewskie...
71 Lustracja województwa Ruskiego. 1661—1665. Wrocław-Warszawa-Kraków. 1976. S. 233.
72 *Малышевский И.* Люблинский съезд 1569 года // Памятники русской старины в западнорусских губерниях... С. 166, 170.
73 *Леонтович Ф.И.* Очерки истории литовско-русского права. Образование территории Литовского государства. СПб., 1894. С. 119.
74 Там же.
75 Narbutt Teodor Dzieje narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1838, S. 88.
76 ПСРЛ. Т. 32. С. 85.
77 *Шолкович С.* Указ. соч. С. 27—28.
78 АЗР. Т. 1. С. 122—123.
79 *Шолкович С.* Указ. соч. С. 31.
80 Там же. С. 32.
81 *Wilkiewicz-Wawrzyńczykowa A.* Spory graniczne Polsko-Litewskie w XV—XVII ww. Wilno, 1938. S. 120.
82 *Gloger Z.* Encyklopedia staropolska. T. IV. S. 90.
83 Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси (АСДИСЗР). Т. I. Вильно, 1867. С. 46.

84 *Шолкович С.* Указ. соч. С. 39.

85 Там же. С. 40.

86 Limites Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithvaniae, ex originalibus exemplis authenticis Descripti. Anno 1758. Vilnae. Per Dogel. P. 1—33.

87 *Шолкович С.* Указ. соч. С. 32—34.

88 Пра гэта падрабязна напісана ў М. Каяловіча ў яго артыкуле «Присоединение Полесья к Польше на Люблинском съезде 1569 года», што надрукаваны ў «Памятниках русской старины в западных губерниях», вып. 8. СПб., 1885. С. 198—216.

89 Глядзіце змешчаную ў кнізе карту Мацея Зойтэра «Новая і дакладная карта Вялікага княства Літоўскага» (каля 1745 г.).

90 Падарожжа па гэтай старой мяжы раім зрабіць з дапамогай тапаграфічнай карты, двух- ці пяцікіламетровага маштабу, на якой добра відаць такія населеныя пункты.

91 *Ключевский В.* Указ. соч. Т. 5. С. 47—48.

92 Bobrzyński M. Dzieje Polski w zarysie. Warszawa, 1987, S. 445.

93 Маюцца на ўвазе амаль неабмежаваныя правы шляхты, напрыклад «ліберум вета» — магчымасць аднаго дэпутата на сойме забараніць прыняцце рашэння, нават сарваць працу ўсяго сойму.

94 Zarys historii Polski. S. 325.

95 Дипломатический словарь. Т. II. С. 367.

96 Bobrzyński M. Op. cit. S. 446.

97 Дипломатический словарь. С. 367.

98 Там же.

99 Zarys historii Polski. S. 328.

100 Полное собрание законов Российской империи (ПСЗ). Т. XIX. СПб., 1830. С. 507, 508.

101 Там же. С. 553.

102 Там же. С. 507, 602—603.

103 Там же. Т. XX. С. 177.

104 Там же. С. 182, 179—180.

105 Там же.

106 Там же. С. 180.

107 Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі. Мн., 1985. С. 70.

108 Там жа. С. 68—69.

109 Архив Ленинградского отделения Института истории АН СССР (Архив ЛОИИ). Ф. 36 (Воронцовых), оп. 1, д. 489, л. 30.

110 *Ключевский В.* Указ. соч. С. 54.

111 Дипломатический словарь. Т. II. С. 367—368.

112 Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II. 1792—1796. СДКАУСЗК. Вильно, 1903. С. 1.

113 Там же. С. 5.

114 Там же. С. 9.

115 Там же. С. 6.

116 Там же. С. 11.

117 Там же. С. 16.

118 Zarys historii Polski. S. 363—367.

119 Ibid. S. 367—368.

120 СДКАУСЗК. С. 23—24.

121 Дипломатический словарь. Т. II. С. 368.

122 СДКАУСЗК. С. 71—72.

123 Там же. С. 88.

124 Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі. С. 16, 68—69.

125 Центральный государственный исторический архив в Санкт-Петербурге (ЦГИА в СПб). Ф. 1341, оп. 1, д. 371, л. 1а — 7.

126 Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі. С. 51—52.

127 Там же. С. 34.

128 Дипломатический словарь. Т. 1. С. 189.

129 Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі. С. 34—35.

130 ЦГИА в СПб. Ф. 1350, оп. 1, д. 29, 30, 39, 40; оп. 305, д. 19, 27.

### Пахабны мір

1 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 35. С. 164.

2 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 16. С. 386.

3 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 34. С. 299.

4 *Канчер Е.С.* Белорусский вопрос. Петроград, 1919. С. 102.

5 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 35. С. 250.

6 *Мстиславский С.* (Масловский С. Д.) Брестские переговоры (из дневника). СПб. 1918. С. 5.

7 *Панцов А.В.* Брестский мир. Вопросы истории. № 2. С. 64.

8 Мирные переговоры в Брест-Литовске с 22 (9) декабря 1917 г. по 3 мáрта (18 февраля) 1918 г. М., 1920 г. (Дальше Мирные переговоры...). С. 7.

9 Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1. (1917—1941). Мн., 1985. С. 9—10.

10 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 35. С. 251.

11 Нагадаем чытачу, што гэты з'езд праходзіў у Мінску з 18 па 30 снежня 1917 г. На ім прысутнічала 1167 выбраных дэпутатаў ад валасцей, павятовых і губернскіх самаўпраўленняў і беларускіх мест (нават Смаленск прыслаў 10 дэпутатаў). Усе яны мелі права пастанаўляючага, рашаючага голасу. Акрамя гэтага, у рабоце Кангрэсу ўдзельнічала 705 дэлегатаў з дарадчым голасам. Такім чынам, калі ўлічваць колькасць дэпутатаў, ён прадстаўляў больш шырокія колы грамадства і быў абраны на больш дэмакратычных прынцыпах, чым сённяшні праваздейны Вярхоўны Савет Беларусі. Кангрэс пастанавіў прыступіць да арганізацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на федэратыўнай аснове з Расіяй. Але і гэта не спадабалася бальшавікам, якія аддалі загад з'езд разагнаць, а яго прэзідыум арыштаваць.

12 Мирные переговоры... С. 94—95.

13 Мирные переговоры... С. 102.

14 *Ленин В.И.* Ленинский сборник. Т. XXX. С. 30.

15 Мирные переговоры... С. 203.

16 *Панцоў А.В.* Названая праца. С. 76.

17 Документы внешней политики. Т. I. М., 1957, д-т № 398.

18 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 35. С. 255—256.

### На поўнач ад Мінска

1 Известия. 1920. № 137.

2 Такім чынам павінна было быць выраблена звыш 118 478 гектараў беларускіх лясоў.

3 ДВП. Т. 3. С. 38.

4 Известия. 1920. № 154.

5 *Какурин Н.Е., Меликаев В.А.* Война с белополяками 1920 г. М., 1925. С. 204, 484.

6 ЦДАКРСБ. Ф. 34, воп. 1, спр. 231, арк. 44—45.

7 Звезда. 1920. №№ 21(592), 22(593).

8 Там жа. № 16(587).

9 Звезда. 1920. № 29 (600).

10 Там жа. № 26 (597).

11 Там жа. № 16 (587).

12 Там жа. № 11 (582).

13 Там жа. № 6.

14 Там жа. № 108 (679).

15 Там жа. № 6.

16 ДВП. Т. III. С. 38.

17 Звезда. 1920. № 8 (579).

18 Известия. 1920. № 181.

19 Звезда. 1920. № 3 (637).

20 Там жа. № 126 (810).

21 *Круталевич В.А.* Рождение Белорусской Советской республики. Мн., 1979. С. 112.

22 Звезда. 1921. № 23 (717).

23 Там жа. № 146 (830).

24 *Канчер Е.С.* Белорусский вопрос. Петроград, 1919. С. 23.

25 Цыт. па Шаджусу Г. 1939 год, 28 верасня. Комсомольская правда . Вільнюс., 1988. № 186.

26 Цыт. па Шаджусу Г., назв. артыкул.

27 Советская Белоруссия. 1939. № 215.

28 Звезда. 1939. № 229.

29 *Палецкис Ю.* В двух мирах. М., 1974. С. 297.

30 Там же. С. 272.

31 *Стронг А.Л.* Новый путь Литвы. М., 1990. С. 34.

32 *Молатаў В.М.* Аб знешняй палітыцы СССР: Прамова на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета СССР 1 жніўня 1940 г. Бальшавік Беларусі. № 7—8. 1940. С. 20.

33 Там жа. С. 27.

34 Звезда. 1940. № 132; Бальшавік Беларусі. 1940. № 9. С. 31, 35.

Рыжскі гешэфт

1 *Какурин М.Е., Меликаев В.Н.* Война с белополяками 1920 г. М., 1925. С. 212.
2 Известия. 1920. № 119 (966).
3 Звезда. 1920. 27 чэрвеня.
4 Там жа.
5 Там жа.
6 Звезда. 1920. 24 чэрвеня.
7 Звезда. 1920. 17 жніўня.
8 Звезда. 1920. 10 жніўня.
9 Звезда. 1920. 18 жніўня.
10 Звезда. 1920. 20 жніўня.
11 Звезда. 1920. 25 жніўня.
12 Звезда. 1920. 13 жніўня.
13 Звезда. 1920. 12 верасня.
14 Звезда. 1920. 10 верасня.
15 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 41. С. 139.
16 Звезда. 1920. 31 жніўня.
17 ЦДАКРСБ. Ф. 34, воп. 1, спр. 31, арк. 17.
18 Звезда. 1921. № 80(764); № 86 (769).
19 ЦДАКРСБ. Ф. 34, воп. 1, спр. 285, арк. 27.
20 Звезда. 1920. 21 кастр. № 53 (624).
21 Там жа. 1920. 26 лістап. № 83 (654).
22 1) Урад Алексюка, які арыентаваўся на саюз з Польшчай; 2) Ластоўскага, які выступаў за саюз з Літвой; 3) Беларуская Рада, якая дамагалася стварэння незалежнай дзяржавы і, нарэшце, 4) бальшавіцкі ўрад Чарвякова.
23 Звезда. 1921. 9 студзеня. № 7 (691).

«Узбуйненне»

1 ЦДАКРСБ. Ф. 677, воп. 1, спр. 10, арк. 32.
2 Там жа. Ф. 30, воп. 7, спр. 16, арк. 8.
3 Там жа. Ф. 34, воп. 1, спр. 285, арк. 20—23.
4 Там жа. Ф. 34, воп. 1, спр. 285, арк. 25.
5 Звязда. 1926. № 283.
6 ЦДАКРСБ. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 230.
7 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 31—32.
8 Пратакол пасяджэння пагаджальнай камісіі ад 4 красавіка 1924 г. — ЦДАКРСБ. Ф. 6, воп. 1, спр. 347, арк. 43 зв.
9 ЦДАКРСБ. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 241.
10 Там жа. Ф. 31, воп. 1, спр. 25, арк. 53 і зв.
11 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 241 зв.
12 Там жа. Арк. 30.
13 Там жа. Арк. 34.
14 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 35.
15 Там жа. Арк. 88.
16 Там жа.
17 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 347, арк. 84.
18 Там жа.
19 Там жа. Ф. 48, воп. 1, спр. 2490, арк. 90.
20 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 268, арк. 330.
21 Там жа. Ф. 48, воп. 1, спр. 1671, арк. 111.
22 Там жа.
23 Там жа. Ф. 7, воп. 1, спр. 370, арк. 437.
24 Там жа. Ф. 93, воп. 1, спр. 671, арк. 320.
25 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 188.
26 Там жа. Ф. 31, воп. 1, спр. 23/5, арк. 98.
27 Там жа. Арк. 81.
28 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 398.
29 Там жа. Ф. 48, воп. 1, спр. 1671, арк. 111.
30 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 234.
31 Там жа.
32 Там жа. Ф. 6, спр. 346, арк. 239.
33 Там жа. Арк. 250, 274, 281.
34 Там жа. Ф. 93, воп. 1, спр. 671, арк. 360 і зв.
35 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 351, арк. 35.
36 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 346, арк. 278.
37 Там жа. Ф. 6, воп. 1, спр. 351, арк. 57 зв.
38 Там жа. Ф. 93, воп. 1, спр. 2428, арк. 39—90.
39 Там жа. Ф. 48, воп. 1, спр. 1671, арк. 110—111.
40 Там жа. Ф. 7, воп. 1, спр. 370, арк. 43.
41 Там жа. Спр. 374, арк. 124.
42 Там жа. Арк. 3.
43 Там жа. Ф. 6, воп. 6, спр. 946, арк. 52—61.
44 Там жа. Ф. 42, воп. 1, спр. 535, арк. 52.

Шматпакутная Беларусь

1 *Канчер Е.С.* Назв. твор. С. 127, 128.
2 *Карский Е.Ф.* Белорусы. Т. 1—3. Вильно, 1904.
3 Назв. тв. Т. I. С. 19.
4 Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования БССР. Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. IV. Мн., 1954, д-т № 529.
5 *Канчер Е.С.* Назв. твор. С. 51.
6 Из истории... Д-т № 536.
7 Там жа... Д-т № 594.
8 Там жа... Д-т № 600.
9 Там жа... Д-т № 612.
10 Цыт. па Казбяруку Ул. Па-за межамі нацыянальнага. ЛіМ. 9 лют. 1990.
11 Звезда. 21 ліст. 1920. № 76 (650).
12 Там жа. 1921. № 71.
13 Там жа. 1920. № 44 (615).
14 Известия. 1920. № 176.
15 Живописная Россия. СПб — М., 1882. Т. III. Ч. 1—2. С. 473.
16 *Ленин В.И.* Полн. собр. соч. Т. 52. С. 163—164.
17 Урадавы архіў кіравання справамі СМ Рэспублікі Беларусь. Ф. 7, вып. 1, спр. 92, арк. 282, 284.
18 Сборник законов Белорусской ССР и Указов Президиума Верховного Совета Белорусской ССР за 1938—1955 гг. Мн., 1956.

# Змест

Масава-палітычнае выданне

Казлоў Леў Раманавіч,
Цітоў Анатоль Кірылавіч

БЕЛАРУСЬ НА СЯМІ РУБЯЖАХ

Рэдактары Г. П. Чыгір, Л. У. Скамарохава
Мастацкі рэдактар Б. Я. Ярота, І. Р. Славянін
Тэхнічны рэдактар І. П. Касцецкая
Карэктары Л. Б. Шынкевіч, А. Р. Маліноўская
Аператар Т. А. Касцяневіч

Падп. да друку з арыгінала-макета 16.07.93. Фармат 60×90 1/8. Папера кн.-часоп. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 9,0. Ум. фарб.-адб. 19,5. Ул.-выд. арк. 9,93. Тыраж 15 000 экз. Зак. 5429.
Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 2. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.

